Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 23 (4618) 10 чэрвеня 2011 г.

## У нумары:

**Думкі і клопаты напярэдадні з'езду**

*Разважанні старшыні СПБ Мікалая Чаргінца*



2

**Стваральная энергія культуры**

*Прамая лінія з міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Паўлам Латушкам*



4-5

**Модны прысуд, або Навошта нам «Dolce&Gabbana»?**

*Дызайнерскія брэнды і мода для народа*



19



# Сапегі: дарогаю вяртання

**Ірына ТУЛУПАВА, фота аўтара**

**Культурная спадчына паддаецца гвалтоўнаму разбурэнню — і з прагаю да жыцця дае новыя парасткі: яшчэ больш трывушчыя, загартаваныя пад няшчаднымі вятрамі гісторыі. Яшчэ адно свята на Брэсцкай зямлі ў цэнтры сучаснай і старадаўняй культуры — Ружанах — прывецiла прадстаўнікоў слаўнага роду беларусаў і блізкіх нам па духу гасцей з Літвы і Расіі з двух роўных па сваёй значнасці прычын. Упершыню тут ладзілася абласное свята "Ружанская брама". Цэнтральнай жа яго падзеяй стала прэзентацыя кампакт-дыска "Сапегіяна: кнігазбор роду Сапегаў".**



"Ружанская брама" падсумавала вынікі зробленага па аднаўленні палаца — рэзідэнцыі магутнага магнацкага роду Сапегаў. Завяршыўся першы, і таму найбольш складаны, этап супрацоўніцтва праекціроўшчыкаў, ініцыятараў аднаўлення, уладных структур і будаўнічых арганізацый. Цягам апошніх двух гадоў у Ружанах змаглі аднавіць уязную браму, усходні флігель, актыўна рэстаўрыруецца заходні флігель (які, мяркуецца, будзе адрэстаўрыраваны да канца гэтага года), заканчваюцца праектныя работы па аднаўленні тэатра замкавага комплексу — усё гэта пакідае спадзеў, што нейкая частка матэрыяльнай спадчыны Сапегаў вернецца на сваё гістарычнае месца і адраджэнне замка стане пачаткам адраджэння слаўнай гісторыі Ружан.

Знаўцаў кніжных рарытэтаў з Беларусі, Расіі і Літвы аб'яднала найперш ідэя аднаўлення кнігазбору, які можна лічыць адным з першых нацыянальных: бібліятэка Сапегаў па сваёй каштоўнасці стаіць побач з найбуйнейшымі бібліятэкамі Радзівілаў. Вабіць і сама постаць Льва Сапегі. Гарачы патрыёт сваёй Бацькаўшчыны, мудры і дальнабачны палітык, пісар, падканцлер, канцлер, гетман Вялікага Княства Літоўскага, ён далёка апярэдзіў свой час і сёння яшчэ застаецца для нашчадкаў узорам служэння Айчыне.

Ідэя стварэння кнігазбору роду Сапегаў з'явілася некалькі гадоў таму, а крышталізавалася ды пасля выспявала на "Берасцейскіх кнігазборах" — міжнароднай канферэнцыі, ініцыяванай Брэсцкай абласной бібліятэкай імя Максіма Горкага ў 2008 годзе. Тады была зроблена спроба выяўлення найбольш вялікіх кніжных збораў краю. Крыху пазней з'явіўся праект "Віртуальная рэканструкцыя бібліятэкі роду Сапег", ён прадбачыў комплекснае вывучэнне і ўвядзенне ва ўжытак кніжных збораў Сапегаў.

А пачалося ўсё з выпадковай знаходкі Мікалая Нікалаева з Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу. Даследчыку трапіла ў рукі кніга з экслібрысам Сапегаў і надпісам: "Гэтая кніга ў 1810 годзе перададзена ў Варшаўскае таварыства прыяцеляў навук". Далейшыя вышукі ў замежным кніжным фондзе Расійскай нацыянальнай бібліятэкі дазволілі знайсці яшчэ каля 340 кніг.

Уладзімір Шчасны, старшыня Нацыянальнай камісіі ЮНЕСКА, паспрыяў таму, каб гэтая ўплывовая арганізацыя падтрымала праект стварэння Сапегіяны. Да яго далучылася Нацыянальная бібліятэка Беларусі, і была створана Міжнародная рада, якая ўключала 13 чалавек — прадстаўнікоў уладных структур, навуковых колаў нашай краіны і краін-суседзяў.

Але складанасць узнаўлення заключаецца ў тым, што кніжных збораў Сапегаў на тэрыторыі Беларусі было некалькі. Самая грунтоўная іх частка знаходзілася ў Ружанах. Казімір Леў Сапега (сын Льва Сапегі) падараваў яе Віленскаму ўніверсітэту. Другая частка бібліятэкі — гэта кнігазбор у мястэчку Кодэнь (цяперашняя Польшча). Большая яго частка была перададзена Варшаўскаму таварыству прыяцеляў навукі ў самым пачатку XIX стагоддзя. Пасля гэтыя кнігі трапілі ў бібліятэку Варшаўскага ўніверсітэта і часткова — у Санкт-Пецярбург. У XIX ст. была канфіскавана і вывезена ў Санкт-Пецярбург і дзярэчынская бібліятэка Сапегаў.

Прэзентаваны ў Ружанах дыск — першая справаздача пра тое, што зроблена. Ён стаў вынікам супольнай працы трох бібліятэк: Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Расійскай нацыянальнай бібліятэкі і Брэсцкай абласной. У прыватнасці, прадстаўлены 250 экзэмпляраў выданняў XVI — XVIII стст. з бібліятэкі Сапегаў, якія захоўваюцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы. Прычым, як патлумачыла намеснік дырэктара НББ Людміла Кірухіна, дадзена не толькі апісанне выданняў, але і апісанне іх з усімі правенцыямі — уладальніцкімі пячаткамі, уласніцкімі запісамі і экслібрысамі. Даюцца відарысы тытульных лістоў і спасылкі на поўны тэкст 19 выданняў. Тут жа сабраныя матэрыялы па генеалогіі роду Сапегаў. Брэсцкая абласная бібліятэка складала бібліяграфію роду — усяго, што напісана пра знаных магнатаў. Праца нялёгкая, навуковых прац па Сапегах не так і шмат. Але гісторыя ўзнаўляецца, і пішуцца новыя кнігі. Зусім нядаўна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў серыі "Святло мінуўшчыны" выйшла ў свет кніга брэсцкай пісьменніцы Зінаіды Дудзюк "Леў". Аўтар прапанавала мастацка-публіцыстычны погляд на падзеі і постаці, ролю асобы ў развіцці дзяржаўнасці і нашай культуры, літаратуры.

Праект, які гарманічна ўпісаўся ў агульнакультурны кантэкст, можна і трэба працягваць. Як стала вядома, каля тысячы кніг Сапегаў адшукана ўжо ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта, каля сотні — у бібліятэцы нарадовай (Польшча). Нешта ёсць у Кіеве. Да таго ж, трэба памятаць, што ў Вільнюсе створаны ўжо каталог Сапегіяны — традыцыйная кніжная версія таго, што захавалася з Ружанскай бібліятэкі.

На жаль, у Беларусі — краіне багатай пісьмовай культуры — здарылася так, што на яе тэрыторыі амаль не засталося помнікаў духоўнай культуры. Але сучасныя тэхналогіі дазваляюць вярнуць страчанае, хаця б у электронным выглядзе. Першым такім крокам было аднаўленне Слуцкага Евангелля, затым — электронныя выданні, прысвечаныя Радзівілам, Храптовічам. І вось — Сапегіяна.

Электронны кнігазбор стаў своеасаблівым пунктам адліку вяртання духоўных святынь, а з імі — і матэрыяльнай спадчыны. І цяпер ёсць спадзяванні, што Ружаны могуць быць уключанымі ў залатое кола турыстычных маршрутаў па краіне. Людзі, якія завіталі на Ружанскае свята, у атачэнні старадаўніх сцен слухалі і спявалі народныя спевы, удзельнічалі ў шляхетным балі пад адкрытым небам.

Вясна, шчодра адарыўшы беларусаў водарам бэзу, саступіла правы лету — з цвіценнем кустоўя шыпшыны, з квітнеючымі аб'ёмнымі, ласкава-мяккімі шарамі півонь амаль на кожным уласным падворку, з белымі завушніцамі акацый, раскінутых уздоўж дарог — прыдатны час для пілігрымак па родным краі: з адвечнаю прагаю спазнаць яго веліч ды сярод размаітых знакаў духоўнай велічы разгадаць загадкі гісторыі.

Ці ўкарэніцца "Ружанская брама" ў свядомасці і ці знойдзецца месца для такога свята ў далейшым жыцці — пакажа час. Але пакуль у Ружанах вельмі прыязна, з аптымістычным спадзевам на шчаслівы вынік лагічнаю і нават неабходнаю прызнаная прапанова зрабіць свята "Ружанская брама" штогадовым. Ды праводзіць яго, як і цяпер, у першую суботу чэрвеня.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Думкі і клопаты напярэдадні з'езду

**Саюз пісьменнікаў Беларусі рыхтуецца да з'езду, які плануецца правесці ў кастрычніку 2011 года. Не будзе памылкай сказаць, што ў той ці іншай ступені ў нецярплівым чаканні гэтай нешараговай падзеі знаходзяцца ўсе члены пісьменніцкай арганізацыі, маючы пэўныя спадзяванні і мары, рыхтуючы, магчыма, да з'езду выступленні і пытанні, жадаючы ўнесці канструктыўныя прапановы наконт далейшай дзейнасці Саюза пісьменнікаў. А вось чаго чакае ад з'езду кіраўнік Саюза, яго старшыня Мікалай Іванавіч Чаргінец? Ён згадзіўся пагаварыць з намі на гэтую тэму.**



— З'езд — гэта заўжды падвядзенне нейкіх вынікаў папярэдняй дзейнасці. Мы будзем распавядаць пра тое, чаго ўдалося нам дабіцца за шэсць апошніх гадоў, і пра тое, што пакуль не атрымалася.

**— Шмат чаго не атрымалася?**

— Ва ўсялякім разе, і я сам як старшыня, і мае калегі па прэзідыуме не могуць сказаць, што мы цалкам задаволены работай Саюза. Многіх праблем нам не ўдалося пазбегнуць, шэраг задач, якія мы ставілі перад сабою, засталіся нявырашанымі. Па-першае, мы не здолелі выдаць усё тое, што хацелі — пэўна, некаторыя пісьменнікі крыўдуюць, што пакуль так і не пабачылі выдадзенымі сваіх новых кніг. Аднак прычыны тут не столькі суб'ектыўныя, колькі аб'ектыўныя. Зразумела ж, як цяжка сёння прымаюць рукапісы новых твораў нашы выдавецтвы.

**— На перадвыбарных сходах рэгіянальных арганізацый СПБ пісьменнікі шмат наракалі на працу выдавецтваў. Маўляў, не разумеюць там сапраўдныя патрэбы грамадства ў іх кнігах…**

— Тут трэба разважліва паставіцца да гэтай крытыкі і выдаўцам. Як у РВУ "Літаратура і Мастацтва", так і ў "Мастацкай літаратуры", так, магчыма, і ў іншых выдавецтвах… Пісьменнікі працуюць, пішуць новыя творы, а праходзяць гады — і ўсё застаецца толькі ў рукапісах. Але ж і час сёння такі, што аснову дзейнасці выдавецтваў складаюць прынцыпы гаспадарчага разліку. Уклалі грошы ў паперу, заплацілі друкарам, а яшчэ ж і афармленне кнігі, праца выдавецкіх рэдактараў, падаткі… таму і цэны такія, што часам пакупніку падаюцца надзвычай высокімі. Надышоў момант, калі кніга ператвараецца ў тавар, прадмет гандлю, а забываецца тое, што яна нясе ў сабе духоўныя задачы. Як выйсці са становішча? Міністэрства інфармацыі, урад размяркоўваюць пэўную дзяржаўную датацыю. Выдавецкія планы зацвярджаюцца з удзелам Саюза пісьменнікаў. Летась міністэрства інфармацыі стварыла экспертны савет, які ўплывае на фарміраванне планаў. І мы стараемся ўплываць на яго работу, і бібліятэкары, з якімі пісьменнікам, асабліва — у рэгіёнах, раю сябраваць, таксама выказваюць свае заўвагі, перадаюць на экспертным савеце запатрабаванні чытачоў.

**— А ад чаго залежыць поспех кнігі? Ад "раскручанасці" аўтара? Гэтага цяжка іншы раз дабіцца і творцы сталага веку. А што ж казаць пра моладзь!**

— Вось менавіта па гэтай прычыне большасць выдавецтваў адмаўляюцца ад выдання маладых, нікому не вядомых аўтараў. Ды і дарослых, калі імёны іх не гучаць паўсюдна. Але ў той жа час зусім ужо крыўдзіцца нашым пісьменнікам, пэўна, не варта. Кнігі членаў Саюза пісьменнікаў з'яўляюцца, іх даволі многа. І гэта далёка не заўжды выданні за кошт саміх аўтараў. Саюз пісьменнікаў добра супрацоўнічае з выдавецтвам "Харвест", праз якое мы выдаём серыю "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". Выйшла ўжо каля 60 тамоў — да з'езда будзе, пэўна, пад 80. "Харвест", між іншым, і моладзь выдае. Рызыкуе. Але робіць гэта, разумеючы, што трэба даваць юнакам дарогу, трэба запальваць на літаратурным небасхіле новыя імёны.

Добра кантактуем і з выдавецтвам "Чатыры чвэрці". Дырэктар гэтай установы Ліліяна Фёдараўна Анцух пайшла насустрач пісьменнікам. Друкуе нашы кнігі без гарантыі, што яны будуць выкуплены, так, як ад нас патрабуюць, напрыклад, некаторыя іншыя выдавецтвы. Сумесна "Чатыры чвэрці" і сталічная пісьменніцкая арганізацыя, якую ўзначальвае Міхась Пазнякоў, распачалі Серыю Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У серыі гэтай выйдуць дзясяткі кніг нашых сталічных аўтараў.

А яшчэ мы вельмі ўдзячныя абласным органам улады за тое, што яны падтрымліваюць нашых брэсцкіх, гомельскіх, магілёўскіх, віцебскіх, гродзенскіх пісьменнікаў; дапамагаюць вырашаць абласным пісьменніцкім арганізацыям іх фінансавыя праблемы, субсідзіруюць выданне найбольш цікавых кніг рэгіянальных аўтараў. Я думаю, у іх адрас прагучыць на з'ездзе нямала добрых слоў.

**— Вернемся да праблем маладых аўтараў. Выданне кнігі — гэта ж нейкі ўжо адпаведны этап, да якога пачаткоўцу яшчэ трэба дайсці. І на шляху гэтым проста неабходны настаўнікі-прафесіяналы…**

— На з'ездзе, вядома, прагучыць крытыка, што трэба нам быць больш адказнымі за выхаванне моладзі. Таленавітых сярод іх нямала. Трэба з імі шчыльна працаваць. У школьных літаратурных гуртках, у паэтычных клубах ВНУ. Спрабуе хлопец ці то дзяўчына прыладзіцца сваімі творамі да літаратуры — ужо да іх павінна быць павышаная ўвага. Створаны ў нас з мэтай падрыхтоўкі прадстаўнікоў новага пакалення Савет па справах моладзі. Ёсць і секцыя моладзевай літаратуры. Але справа ідзе марудна. Актыўна з маладымі людзьмі працуе, калі мяне не падводзіць памяць, пакуль што толькі Міхась Башлакоў. І мы яму надта ўдзячныя за тое.

**— Але ў нас жа ёсць і выданне для тых, хто толькі пачынае крочыць у вялікую літаратуру, — часопіс "Маладосць". Як вы расцэньваеце працу калектыву гэтага выдання?**

— Мы чакаем ад часопіса "Маладосць", што ён стане цэнтрам для маладых аўтараў, дапаможа знайсці найбольш таленавітую моладзь і ўключыць яе ў літаратурны працэс. Сёння мы ставім пытанне пра тое, што літаратурныя часопісы нашы, сузаснавальнікам якіх з'яўляецца Саюз пісьменнікаў Беларусі, павінны служыць адначасова і своеасаблівай эксперыментальнай пляцоўкай, дзе будуць агучвацца новыя імёны пісьменнікаў. І часопісы будуць браць на сябе рызыку друкаваць іх творы. Нічога страшнага няма, калі нават акажацца, што памыліліся. Нам патрэбны новыя таленты, новыя імёны. І толькі такім спосабам мы можам іх атрымаць.

**— На з'ездзе, безумоўна, будзе весціся гутарка пра ролю пісьменнікаў у нашым грамадстве. А вось ці сапраўды грамадства, заклапочанае вырашэннем матэрыяльных і сацыяльных праблем, мае вялікую патрэбу ў чытанні кніг?**

— Ці памятаеце, пісьменнікаў раней любілі называць "інжынерамі чалавечых душ"? Гучала, можа, і вычварна, але ж так яно, калі разабрацца, на самой справе і было. І ёсць. Вось чалавек апынаецца ў цяжкім становішчы, перад нялёгкім выбарам, сам-насам з бядой, адзінотай, непаразуменнем. Калі патрапіцца яму ў рукі ў гэты час належная кніга, якая праз мастацкі вобраз і сімвал растлумачыць, што адбылося, чаму, як варта паводзіць сябе ў складанай сітуацыі, як не згубіць самога сябе, выправіцца чалавек, перажыве свой крызіс, з верай у лепшае пойдзе далей па жыцці. Вось якая важная ў пісьменніка задача. Вось якая адказнасць перад грамадствам. Вакол нас — вялікая колькасць людзей, якія чакаюць ад пісьменніка добрых твораў і добрых парад.

**— Але пісьменнікі — гэта толькі людзі. Яны бываюць рознымі. У кожнага свой светапогляд, сваё стаўленне да рэчаіснасці. Ці кожны можа стаць такім дарадцам для сваіх сучаснікаў?**

— Не кожны. І асабліва важна прасачыць, каб моладзь наша, школьнікі не аказаліся пад уладай такога настаўніка жыцця, вучэнне якога сумнеўнае. На з'ездзе мы не абыдзем такое пытанне, як падрыхтоўка падручнікаў і дапаможнікаў па літаратуры і мове для школ. Іншы раз укладальнікі іх проста злоўжываюць даверам грамадства і спрабуюць увесці такія творы і ўрыўкі з твораў, якія, скажам, не адпавядаюць духу часу, ідуць насуперак нацыянальнай ідэі нашай краіны, падрываюць сапраўдны дух патрыятызму, змешваюць паняцці праўды і няпраўды, дабра і зла, таленту і шараговасці. І дарэчы, дзейнасцю такой займаюцца ж граматныя людзі. Можа, яны чымсьці пакрыўджаныя? Можа, не разумеюць да канца таго, што робяць? Трэба, пэўна, калегіяльна абмяркоўваць такія дапаможнікі і падручнікі з запрашэннем аўтараў.

**— Можа, справе адбору сапраўды лепшых твораў дапамаглі б літаратурныя крытыкі?**

— Вось стварылі мы пры Саюзе пісьменнікаў спецыяльную секцыю крытыкі. Пахваліцца пакуль няма чым. Але ж калі інстытут крытыкі не ўзнікне, то нам цяжка будзе гаварыць пра прагрэс у літаратуры. Ёсць, безумоўна, сёння ў беларускай літаратуры пэўныя імёны, вакол якіх мог бы згуртавацца касцяк новай літаратурнай крытыкі. Але пакуль гэтага мала. І вось, стварыўшы новую кнігу, аўтар часта аказваецца ў нейкай зоне маўчання. Сябры, канечне, пахваляць, апаненты — бывае такое — абразліва, па-хамску аблаюць. А дзе ж тая разважлівая, няхай строгая, але справядлівая крытыка? У кожнага літаратара бываюць творчыя ўдачы, якія варта заўважыць, і памылкі, на якія трэба ўказаць. Але не зларадна, а так, каб не разбуралася крохкая душа творцы. Каб, наадварот, крытыка стварала перадумовы для таго, каб наступны твор пісьменніка быў лепшым. Мы пакуль гэтага, па вялікім рахунку, не ўмеем рабіць.

**— Як ідзе непасрэдная падрыхтоўка да з'езду? Гавораць пра грандыёзнае мерапрыемства міжнароднага ўзроўню.**

— Мы хочам, каб на з'езд прыехалі ўсе нашы пісьменнікі. Гэта звязана з вялікімі матэрыяльнымі цяжкасцямі, але мы спрабуем іх пераадолець. Каб паспяхова падрыхтавацца, стварылі аргкамітэт. У яго акрамя кіраўніцтва СПБ увайшлі прадстаўнікі ўсіх зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў. 9 чэрвеня прайшло першае наша пасяджэнне. Адно з пытанняў, якія мы разглядалі, — прыём дэлегацыі замежных пісьменніцкіх арганізацый. У нашага Саюза ўсталяваліся сяброўскія стасункі з 21 такой пісьменніцкай арганізацыяй. Таму замежных гасцей будзе шмат. Трэба прадумаць для іх праграму, бо людзям будзе цікава не толькі падрысутнічаць на нашым з'ездзе, паслухаць выступленні нашых літаратараў, але і пазнаёміцца з нашай краінай. І мы як гасцінныя гаспадары мусім дапамагчы ім у гэтым. Хацелася б паказаць нашы славутыя гістарычныя мясціны — Нясвіж, Мір, Полацк. Для ўсіх народаў былога Саюза будзе цікавым наведанне Брэсцкай крэпасці. Паэтаў натхніла б наша непаўторная прырода — Белавежская пушча, Браслаўскія азёры. Мы будзем абдумваць экскурсійна-культурную праграму для гасцей, зыходзячы з таго, што зможам зарабіць.

Між іншым, пашырэнне сувязей з пісьменнікамі іншых краін — адзін з самых важных на сёння напрамкаў дзейнасці нашай арганізацыі. З некаторымі калегамі мы ўжо даволі паспяхова рэалізуем дамову аб узаемным выданні лепшых узораў літаратуры. На Беларусі выдаваліся кнігі турэцкіх, казахскіх, таджыкскіх пісьменнікаў, у іх краінах — нашы творы. І гэта цудоўна. Асаблівае месца ў нас займае пытанне дзейнасці Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Мы стварылі яго з нашымі калегамі з Расіі, ідэю гэтую падтрымалі нашы прэзідэнты, Аляксандр Лукашэнка і Дзмітрый Мядзведзеў — даслалі нам віншавальныя тэлеграмы. Атрымалі мы пасланне ад патрыярхаў Кірыла і Філарэта. І нават ад цэлага шэрагу вядомых людзей у Расіі, якія выразілі задавальненне ад таго, што пісьменнікі першымі зрабілі крок да зносін Расіі і Беларусі праз літаратуру. Гэтае яднанне — сапраўды ўнёсак у справу мацавання дружбы народаў абедзвюх краін, і мы ім надта даражым.

*“Саюз пісьменнікаў добра супрацоўнічае з выдавецтвам "Харвест", праз якое мы выдаём серыю "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". Выйшла ўжо каля 60 тамоў — да з'езда будзе, пэўна, пад 80. "Харвест", між іншым, і моладзь выдае. Рызыкуе. Але робіць гэта, разумеючы, што трэба даваць юнакам дарогу, трэба запальваць на літаратурным небасхіле новыя імёны.*

## Літабсягі

Лідзія ПАТАПЕНКА

# Паэзія над Бесяддзю

**На прыгожым раздольным лузе па-над Бесяддзю-ракой, што на радзіме паэта Алеся Пісьмянкова, на Касцюкоўшчыне, спявала і гаманіла рэгіянальнае свята паэзіі і аўтарскай песні "Пісьмянкоў луг".**




Жывапіснае месца над берагам рэчкі ў выглядзе падковы прымала творчых і таленавітых людзей Магілёўшчыны. Усім удзельнікам запомнілася, як на пачатку свята, пад першыя гукі фанфар, над "Пісьмянковым лугам" паплыла ў бяздонным небе пара буслоў. І трапяткія словы чытальніка "Трывожна сцішаны Сусвет. // Агеньчык свеціцца да рання. // Планету слухае паэт, // Яе гарачае дыханне…" пацвердзілі, што на сустрэчы з паэтамі наш Алесь усёй душой быў разам з намі.

Ініцыятары свята — аддзел культуры райвыканкама і цэнтральная раённая бібліятэка, а падрыхтаваць яго дапамаглі амаль усе арганізацыі горада і мясцовая адміністрацыя.

Першая частка свята была прысвечана сустрэчы з паэтамі-аматарамі. На сябрыну прыехалі паэты і паэтычныя суполкі з многіх куточкаў Магілёўшчыны. Многія ўзялі ўдзел у літаратурным конкурсе маладых паэтаў і конкурсе аўтарскай песні "Песняры зямлі беларускай".

Свята завяршыла вечарына "Паэзіі адвечная рака", якая распачалася кампазіцыяй з твораў А. Пісьмянкова і касцюковіцкіх аўтараў.

Ніхто не застаўся абыякавым, слухаючы паэтычныя радкі ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Ф. Шкірманкова са Слаўгарада, М. Прохарава з Чэрыкава, М. Глуздова, І. Наваградскай з Клімавіч, С. Сазовай з Краснаполля, М. Уласенкі, Л. Мініч з Горак і землякоў, што прыехалі падтрымаць наша свята — М. Леўчанкі з Быхава, А. Бардоўскага з Гомеля, С. Холадавай з Санкт-Пецярбурга.

На працягу дня паэзію падтрымлівалі і суправаджалі сваімі выступленнямі і аўтарскай песняй майстры мастацтва раённага Цэнтра культуры і школы мастацтваў — народныя ансамблі "Альянс", "Этыкет", "Калініца", гурты "Дэжавю" і "Мэлас", а таксама ўдзельнікі народнага аматарскага аб'яднання "Літаратурная гасцёўня "Крынічка", што ўжо 30 год плённа працуе пры раённай бібліятэцы імя І. Чыгрынава.

***На здымку: паэтка Наталля Азаранка, сябра народнага аматарскага аб'яднання "Літаратурная гасцёўня "Крынічка", атрымлівае спецыяльную прэмію імя І. Чыгрынава за значныя дасягненні ў папулярызацыі беларускай мовы.***

## Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Класіка пад зоркамі

**Будзе ўсё, як у прэстыжных культурных асяродках Еўропы: шэдэўры сусветнай музычнай класікі; выканаўцы, адзначаныя міжнародным прызнаннем, у тым ліку госці, запрошаныя з-за мяжы; каларытны гістарычны антураж; свежае начное паветра, вольнае неба над галавой і — аншлаг! А пераканацца ў гэтым змогуць гледачы і ўдзельнікі грандыёзнай канцэртнай праграмы "Чароўная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам". Яна ладзіцца сёння а 22-й гадзіне.**

Ініцыятары новай творчай акцыі — кіраўнікі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра ды Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Праводзіцца яна ў межах праекта "Шэдэўры сусветнай класікі ў музеі пад адкрытым небам", якім апякуецца Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт і Мінскі аблвыканкам.




Гэта працяг даўняй еўрапейскай традыцыі летніх музычных *open-air* — імпрэз на адкрытым паветры, што імкліва адраджаецца ў нашай краіне (начныя канцэрты ля сцен Полацкай Сафіі, ля мураў Мірскага замка, у Гомельскім палацава-паркавым комплексе, вечар оперы і балета ва ўнутраным дворыку Нясвіжскага замка ды інш.)

У вакальным суквецці "Чароўнай ночы..." — лепшыя галасы нашай краіны ды запрошаных выдатных спевакоў з Расіі. Гэта Ларыса Юдзіна (Марыінскі тэатр, Санкт-Пецярбург), Ілля Гоўзіч (Вялікі тэатр, Масква); зоркі айчыннай опернай сцэны Аксана Волкава, Эдуард Мартынюк, Станіслаў Трыфанаў; салісты БДАМТ Наталля Гайда, Маргарыта Александровіч, Антон Заянчкоўскі, Лідзія Кузьміцкая, Андрэй Марозаў, Леся Лют, Сяргей Суцько, Віктар Цыркуновіч. У іх выкананні прагучаць фрагменты з папулярных опер і класічных аперэт. За дырыжорскім пультам Сімфанічнага аркестра БДАМТ будзе яго галоўны дырыжор Алег Лясун. Перад канцэртам гледачы змогуць азнаёміцца з экспазіцыяй унікальнага музея, падзівіцца на помнікі традыцыйнай народнай драўлянай архітэктуры канца XVIII — пачатку XX стст. Для артыстаў падрыхтаваныя цёплыя "грымёркі", а для публікі наладжаны рух спецыяльных аўтобусаў.

Арганізатары канцэрта перакананыя: гэта — не разовае "мерапрыемства", а пачатак прыгожай перспектыўнай традыцыі.

***На здымку: дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Святлана Лакотка і мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, заслужаны работнік культуры Беларусі Адам Мурзіч падчас прэс-канферэнцыі.***

## 3-пад пяра

Традыцыйны абласны злёт "Юныя таленты Міншчыны", ужо сямнаццаты па ліку, прайшоў у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Яго арганізатарамі выступаюць упраўленне культуры аблвыканкама і абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна. Сёлета злёт праходзіў пад дэвізам "З любоўю да роднага слова". Усяго ў конкурсе ўдзельнічала больш як 400 вучняў ва ўзросце ад 6 да 15 гадоў. Гэта юныя і таленавітыя мастакі, паэты і празаікі з усіх раёнаў Міншчыны.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

У Музеі беларускага кнігадрукавання ў старажытным Полацку адбылася прэзентацыя кнігі "Сімяон Полацкі", выдадзенай у РВУ "Літаратура і Мастацтва". На прэзентацыі выступаў аўтар, пісьменнік з Санкт-Пецярбурга Барыс Косцін і рэдактар выдання Мікола Станкевіч. У будынку, дзе месціцца Музей беларускага кнігадрукавання, знаходзіцца і Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага. Тут экспануюцца кнігі вялікага асветніка XVII стагоддзя, копіі рукапісаў яго вершаў і драматургічных твораў. Належнае месца ў музеі зойме і новая кніга — пра гаспадара неацэннай бібліятэкі.

**Станіслаў МІКАЛАЕЎ**

Дабрачынны вечар "І зоркі сышліся на Лідскай зямлі" прайшоў у Лідскім раённым палацы культуры. Героем яго стаў скульптар, мастак, паэт-песеннік Рычард Груша, карціны якога, дарэчы, дэманстраваліся ў гэты ж дзень у фае Палаца культуры. Канцэрт праходзіў па ініцыятыве пашыранага пасяджэння аматарскіх творчых калектываў-аб'яднанняў Лідчыны "Вера. Надзея. Любоў" і "Адкрытыя сэрцы" з мэтай збору сродкаў у фонд пацярпелых ад тэракта ў Мінскім метро. У выкананні лідскіх артыстаў гучалі народныя песні і песні на словы Р. Грушы. Весці канцэрт быў запрошаны саліст ансамбля "Свята" Белдзяржфілармоніі Вячаслаў Статкевіч.

**Пётр МАКАРЭВІЧ**

Самы буйны сямейны партал Беларусі ***Ребёнок.by*** правёў на Пухавіччыне ў Рудзенскай дапаможнай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот і тых, што засталіся без апекі, дабрачынную акцыю "Дзіцячая ўсмешка". На свяце было шумна і весела. Дзеці ўрачыста запаўнялі "чароўную" скрыню жаданняў — і некаторыя з іх збыліся ў гэтыя ж дзень. Выступалі вясёлыя клоўны, усіх чакаў салодкі стол, працаваў кірмаш "Поле цудаў", на якім кожны мог праявіць сябе і зарабіць казачныя грошыкі, каб тут жа патраціць іх на новыя забавы. Свята ў Рудзенску — гэта першы этап праекта, галоўная мэта якога — падарыць радасць і надзею дзецям-сіротам.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

**Увага!**

**14 чэрвеня** з 10 да 11 гадзін адбудзецца "прамая лінія" з дырэктарам ААТ "Белкніга" Аляксандрам Аляксандравічам ВАШКЕВІЧАМ. На пытанні ён адкажа па тэлефоне 284-66-73. Папярэдне задавайце пытанні па тэлефоне 284-66-71 альбо пішыце на электронны адрас газеты: ***lim_new@mail.ru***

## Повязі

Мікола БЕРЛЕЖ

# Вітанне і ўвага з Казахстана

**У Алматы выдадзена кніга даўняга сябра беларускай літаратуры Святланы Ананьевай.**

І на сучасным этапе міжкультурных зносін шырацца, развіваюцца многія праявы беларуска-казахстанскіх літаратурных сувязей. Пісьменнікі з Беларусі друкуюцца ў часопісе "Простор", што выходзіць у Алмаце, у Мінск прыязджаюць пісьменнікі з Казахстана. Нядаўна пабачыла свет кніга вершаў Абая на беларускай мове. Часты госць у Беларусі — загадчык аддзела міжнародных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтваў імя М. А. Аўэзава кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева. Яна актыўна піша пра тыя працэсы, што адбываюцца ў літаратуры Беларусі, у казахстанскім навуковым і масавым друку. Спрыяе публікацыям беларускіх навукоўцаў у казахстанскім часопісе "Керуен".

Днямі С. Ананьева даслала ў Мінск сваю новую кнігу "Руская проза Казахстана". Грунтоўная манаграфія пабачыла свет у алмацінскім выдавецтве "Жибек Жолы". У некаторай ступені лейтматывам да кнігі служаць наступныя словы з аўтарскай прадмовы: "На развіццё рускай літаратуры ў Казахстане прапанавана глядзець як на працэс, вылучаючы яго некаторыя буйныя перыяды з пункта гледжання ўзаемаўплываў рускай і казахскай літаратуры ў рамках агульных заканамернасцей і спецыфічных, характэрных асаблівасцей сусветнага літаратурнага працэсу. Мяркую, што гэта ўяўляе навуковы інтарэс не толькі для нашай рэспублікі, але і для суседніх рэгіёнаў і замежных чытачоў, якія цікавяцца рускай літаратурай". Адкрывае манаграфію артыкул "Руская літаратура Казахстана і руская літаратура постсавецкіх краін". Задаецца аўтар пытаннем і наступнага кшталту: "Як развіваецца руская літаратура ў Малдове, Украіне і Беларусі?.." С. Ананьева звяртае ўвагу на тое, што ў Мінску выдадзены хрэстаматыі, анталогіі па рускамоўнай прозе і паэзіі Беларусі, праводзяцца даследаванні рускамоўнай літаратуры для выдання "Гісторыя беларускай літаратуры". Асаблівую ўвагу даследчыца звяртае на кнігу Юрыя Сапажкова "На просторе слова", якой некалькі гадоў назад РВУ "Літаратура і Мастацтва" адкрыла кніжную серыю "Бібліятэка сусветнай літаратуры". Зборнік артыкулаў, рэцэнзій Юрыя Сапажкова стаў для казахстанскай даследчыцы




адной з крыніц літаратурнага жыцця ў Беларусі.

"Руская проза Казахстана", будзем спадзявацца, зацікавіць і даследчыкаў літаратурных працэсаў у сённяшняй Беларусі.

# Стваральная энергія культуры

**Прамая лінія міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі з чытачамі “ЛіМа” праходзіла 24 мая, у Дзень славянскага пісьменства і культуры. У свята, якое сваімі магутнымі каранямі сягае ў слаўную даўніну, і тэма гутаркі зразумелая. Яна — пра творчы люд і чалавечыя стасункі, пра нас, хто пакліканы да захавання і прымнажэння духоўных набыткаў гэтай зямлі. Тэлефонная размова, якая доўжылася гадзіну, пераканала: неабыякавых людзей у нас шмат, яны выказваюць ідэі і прапановы, гатовы падтрымаць ініцыятывы і рэальныя крокі Міністэрства культуры па далейшым развіцці сферы беларускай культуры ды добрай падказкай, магчыма, прымножыць іх. Таму, здавалася б, на першы погляд звычайныя прыватныя пытанні, якія непакояць аднаго чалавека, выводзілі на размову пра больш канцэптуальнае.**



## Культура. Дзяржаўныя падыходы. Тэатр

— Добры дзень! Міністр культуры Павел Латушка, слухаю вас!

— **Шаноўны Павел Паўлавіч! Пісьменнік з Гомеля турбуе, драматург Васіль Ткачоў. Пытанне ў мяне наступнае. У г. Гродна два гады таму па ініцыятыве і намаганнямі прафесійнага акцёра Сяргея Бачкова створаны цікавы творчы калектыў — эксперыментальны тэатр-студыя “Бочонок”, які працуе на базе Дома культуры. І працуе прафесійна, я гэта ведаю, бо двойчы быў там на сваіх прэм’ерах. У рэпертуары гэтага калектыву — Аляксандр Астроўскі, Мікалай Каляда, Валерый Брусаў, балгарын Стэфан Цанеў, на чарзе — Леапольд Радзевіч. А ці аказваецца якая падтрымка такім тэатрам з боку Міністэрства культуры?**

— У вашай сітуацыі, з улікам таго, што тэатр мае статус рэгіянальнага самадзейнага калектыву, такая падтрымка павінна аказвацца мясцовымі органамі самакіравання.

Але, зразумела, развіццё народнай, самадзейнай творчасці, народных тэатраў з’яўляецца вельмі важным элементам развіцця нацыянальнай культуры. Мы плануем бліжэйшым часам змяніць заканадаўства, якое дазволіць рэалізоўваць так званую праектную дзейнасць у сферы культуры. І калі будуць уведзены ў дзеянне новыя нормы заканадаўства, практычна кожная ўстанова культуры — ці дзяржаўная, ці прыватнай уласнасці — будзе мець магчымасць прэтэндаваць на фінансавую падтрымку на канкрэтны праект, а не на ўтрыманне (і так робіць уся Еўропа) з рэспубліканскага альбо з мясцовага бюджэтаў.

Што нам ужо ўдалося зрабіць: з 1 ліпеня ўступае ў сілу Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 145, які стварае даволі значныя падатковыя льготы для ўстаноў культуры нашай краіны: дзяржаўных, устаноў, якія субсідзіруюцца з дзяржаўнага бюджэту, і прыватных. Мы фактычна робім роўнымі падатковыя ўмовы для дзяржаўных і прыватных устаноў культуры. Такім чынам, калі цяпер ствараецца прыватны тэатр, ён не будзе плаціць падатак на нерухомасць, зямельны падатак, нават калі ён арандуе гэты будынак, і не будзе плаціць падатак на прыбытак, калі ён гэты прыбытак накіроўвае на сваю асноўную дзейнасць. Наступны элемент падтрымкі такіх устаноў —мецэнацтва і спонсарства. І над гэтым мы таксама працуем. Дарэчы, Указ №145 стварыў дадатковыя падатковыя льготы для спонсараў культуры — прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў нашай краіны.

Калі гаварыць больш шырока, то цяпер нам трэба ствараць прыватныя фонды падтрымкі культуры. Фонды маглі б даць дадатковы імпульс для рэалізацыі новых праектаў і ідэй.

Увогуле мы стараемся паставіць як базавую праблему эканоміку культуры. Калі створым сістэму эканамічнай падтрымкі развіцця сферы культуры і мастацтваў, то і будзе магчымасць з’яўлення новых талентаў, новых творчых праектаў. На сённяшні дзень мы фінансуем утрыманне сістэмы культуры, а прапануем фінансаваць творчы вынік. Зразумела, ёсць бібліятэка, тэатр, дом культуры, клуб — іх таксама будзем працягваць фінансаваць як сістэму, і гэта неабходна. Але калі мы кажам пра новыя праекты, то тут трэба стымуляваць вынік. У бліжэйшы час будзе прыняты закон аб дзяржаўных закупках, у якім прапісваецца раздзел, які зменіць прынцыпы фінансавання культурных праектаў. Гэтая сістэма функцыянуе ў Расіі, даўно — у Еўропе.

— **Павел Сямёнавіч, пенсіянер. Чуў, што акрамя народных і дзяржаўных ёсць і два прыватныя тэатры. Як фарміруецца іх рэпертуар?**

— Мы ліберальна падыходзім да фарміравання рэпертуару прыватных тэатраў, яны ў гэтым маюць максімальную свабоду. У той жа час для нас, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, з’яўляецца прынцыпова важным, каб тэатры выконвалі ідэалагічную функцыю, выхаваўчую. Гэта азначае, што творы мастацтва, якія рэалізуюцца на падмостках тэатраў, павінны быць звязаны з нашай гісторыяй, культурай, павінны выхоўваць нацыянальную свядомасць. Калі гэта творы драматургіі сусветнага характару, класікі альбо сучаснай драматургіі, яны павінны падкрэсліваць агульначалавечыя каштоўнасці, якія цэняцца ва ўсім свеце.

— **Добры дзень. Алена, тэатральны аглядальнік з Мінска. Калі будзе ўручацца Нацыянальная тэатральная прэмія і які лёс яе чакае?**

— Спадзяюся, самы лепшы. Зразумела, што гэта “прэм’ерны” праект. Ён упершыню ажыццяўляецца ў нашай краіне па прапанове Міністэрства культуры. Нам дапамагаюць Саюз тэатральных дзеячаў, Саюз тэатральных крытыкаў. Вельмі важна, каб праект прайшоў на высокім творчым і арганізацыйным узроўні. Плануем, што заключны тэатральны тыдзень Нацыянальнай тэатральнай прэміі адбудзецца напрыканцы верасня ці ў пачатку кастрычніка гэтага года. Вельмі важна звярнуць асаблівую ўвагу, аказаць максімальную падтрымку ў развіцці прафесійнага і аматарскага тэатральнага мастацтва нашай краіны. У бліжэйшыя тры гады ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай мы плануем завяршыць рэканструкцыю ўсіх дзяржаўных тэатраў нашай краіны. У гэтым годзе ў два разы павялічаны сродкі для нацыянальных і рэспубліканскіх тэатраў на новыя пастаноўкі, каб тэатр жыў і мог прапанаваць гледачу новыя прэм’еры.

## Фестывальны рух

— **Марына Міхайлаўна, Карэлічы, Гродзенская вобласць. Якія фестывалі праводзяцца ў нашай краіне? Акрамя таго, што ў Віцебску ёсць “Славянскі базар”, у Гродне — фестываль нацыянальных культур…**

— У нашай краіне праходзіць штогод больш як 50 міжнародных і рэспубліканскіх фестываляў, якія акрэслены ў адпаведнай Пастанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. У Пастанове пазначаны толькі тыя фестывалі, якія ажыццяўляюцца з падтрымкай дзяржаўных альбо мясцовых бюджэтаў. Але зразумела, што фестываляў у нашай краіне праходзіць значна больш, каля сотні, сярод іх тыя, што арганізуюцца з прыцягненнем прыватных, пазабюджэтных сродкаў. Міністэрства культуры вельмі зацікаўлена, каб фестывальны рух развіваўся. Не так даўно пасля наведання пасёлка Моталь Іванаўскага раёна з’явілася ідэя па арганізацыі рэспубліканскага фестывалю фальклорных калектываў. На жаль, у нас няма такога фестывалю ў краіне, але пры гэтым мы маем шырокі фальклорны рух. Народнай творчасцю, фальклорам займаюцца каля 280 тысяч жыхароў. Падаецца вельмі важным, каб мы паказалі гэты велізарны пласт нашай культуры, бо яе развіццё без фальклору, які з’яўляецца крыніцай існавання і заўтрашняга дня таксама, немагчыма. Што да фестываляў іншых рэгіёнаў — то проста не хопіць старонак у “ЛіМе”, каб усе назваць. Праходзяць у Гомелі “Сожскі карагод”, у Магілёве “Залаты шлягер”, і шмат-шмат іншых.

— **Яшчэ пытанне. Як вы ставіцеся да двухмоўя ў нашай краіне і чаму самі аддаяце перавагу беларускай мове?**

— Мне падаецца абсалютна натуральным, калі чалавек, які нарадзіўся ў Беларусі, выкарыстоўвае беларускую мову. Ніколі не рэалізоўваў гэты падыход праз гвалтоўнае насаджэнне беларускай мовы ў тых установах, дзе працаваў, у сістэме Міністэрства замежных спраў, у нашым Генеральным консульстве ў Беластоку, Пасольстве ў Варшаве, у Міністэрстве культуры Беларусі. Гэта абсалютна натуральны, добраахвотны працэс, які падтрымліваюць калегі, якія працуюць са мной. І за гэта ім вельмі ўдзячны. Удзячны таксама калегам у беларускім урадзе, якія выкарыстоўваюць беларускую мову. Але даволі дзіўная сітуацыя складваецца, што мы дзякуем міністру культуры альбо, наадварот, здзіўлены тым, што ён выкарыстоўвае беларускую мову. Калі не міністр культуры Беларусі, то хто будзе карыстацца беларускай мовай?

— **А як адпачывае міністр культуры? Якому віду адпачынку аддаяце перавагу?**

— Быў у адпачынку ў красавіку. Наведаў Вену, Прагу, Варшаву. Для мяне было цікава наведаць установы культуры, якія там функцыянуюць. Меў гонар паглядзець спектакль “Папялушка” Нацыянальнага тэатра ў Празе ў пастаноўцы кіраўніка балета Монтэ-Карла. Паглядзеў “Турандот” Джакома Пучыні ў Варшаўскім нацыянальным тэатры. Было цікава параўнаць развіццё балетнага і опернага мастацтва ў краінах. Таксама наведаў Нацыянальны музей у Празе, Нацыянальны мастацкі музей і “Скарбніцу” ў Вене, Вілянаўскі палац і Цэнтр сучаснага мастацтва ў Варшаве. Мы праводзім рэстаўрацыю найважнейшых гістарычных аб’ектаў у нашай краіне, ствараем новыя экспазіцыі ў гэтых аб’ектах. Такіх, як Нясвіжскі палац, Мірскі замак, па нашай прапанове ствараецца Цэнтр сучаснага мастацтва ў Мінску. Мне было вельмі цікава паглядзець, як існуюць і развіваюцца музеі ў іншых краінах. Пасля вяртання з адпачынку даў каля 10 пісьмовых даручэнняў адпаведным упраўленням міністэрства.

— **Павел Паўлавіч, да вас звяртаецца метадыст Інстытута культуры Беларусі Міхаіл Козенка. Я наконт фестывалю “Берагіня”. У рамках праекта “Берагіня” адбыўся абласны фестываль “Радавод”. Удзельнічала 19 тысяч дзяцей! Яны далучаюцца да песні, абрадаў, да звычаяў і музыкі. Для дзяцей гэта цудоўная магчымасць уваходжання ў традыцыйную культуру. А ці магчыма ў снежні правядзенне турніру танцавальных пар па Брэсцкай вобласці?**

— Што датычыць народнай творчасці, вельмі спадзяюся, што тут Інстытут культуры Беларусі стане той установай, якая будзе акрэсліваць навукова-метадалагічныя падыходы да яе захавання і далейшага развіцця. Гэта аснова нацыянальнай культуры, гэта крыніца, якая дапамагае будаваць сённяшнюю культуру і глядзець у будучыню. Вельмі важна, каб такія фестывалі, як “Берагіня”, мелі месца ў Беларусі.

Што да турніру танцавальных пар у вобласці, калі лічыце, што гэта патрэбна, калі ласка, ад Інстытута культуры Беларусі дасылайце тэрмінова ліст. Але трэба разумець, што не на ўсё можна знайсці бюджэтныя фінансавыя сродкі, калі фінансавы год распачаты.

## На літаратурных працягах

— **Паважаны Павел Паўлавіч! Прывітанне вам з Гарадзенскай зямлі! Дырэктар Гродзенскай аб-**

**ласной бібліятэкі імя Я. Карскага Лідзія Мальцава. Сёлета спаўняецца 170 гадоў з дня нараджэння Элізы Ажэшкі. Улічваючы тое, што яе постаць як пісьменніцы, грамадскага дзеяча вельмі шмат значыць, ці нельга разгледзець пытанне аб стварэнні электроннай бібліятэкі Элізы Ажэшкі?**

— Эліза Ажэшка, бясспрэчна, — выключная асоба для сусветнай культуры, якая аб'ядноўвае беларускі і польскі народы. Такіх прыкладаў у нашай гісторыі шмат. Гэта і Адам Міцкевіч, і Станіслаў Манюшка, і Напалеон Орда, і Міхал Клеафас Агінскі, і Рышард Капусцінскі, і шмат іншых вялікіх постацей. Зразумела, што з боку Міністэрства культуры будзе падтрымка ў святкаванні такіх юбілеяў, каб паказваць менавіта пазітыўны бок і крокі ў пабудове добрых адносін паміж нашымі народамі. Што да стварэння электроннай бібліятэкі Элізы Ажэшкі, то пытанне патрабуе дадатковага вывучэння: трэба ведаць, якія матэрыялы мы маем на сённяшні дзень у Беларусі, што ёсць у нашых суседзяў у Польшчы і Літве, у Расіі і Украіне. Прыклады ж фарміравання электронных бібліятэк у нас ёсць: дастаткова згадаць бібліятэку Радзівілаў, бібліятэку Храптовічаў. Мы маем падтрымку з боку ЮНЕСКА, нашай Нацыянальнай камісіі, кіраўніком якой з'яўляецца адданая нашай культуры асоба — Уладзімір Шчасны. Ад вас я хацеў бы атрымаць больш змястоўную прапанову з абгрунтаваннем неабходнасці такога праекта, і пасля будзем прымаць рашэнне.

**— Добры дзень! Старшыня Дабрачыннага савета дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Анатоль Грэкаў. У 2012 годзе мы будзем адзначаць 130-годдзе з дня нараджэння класікаў беларускай культуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта год стагоддзя першай сустрэчы песняроў у Смольні на Стаўбцоўшчыне. Ці магчыма ўстанавіць скульптурную кампазіцыю на мемарыяльнай сядзібе ў Смольні?**

— Мы гэта пытанне абмяркоўвалі, калі разглядалі на пасяджэнні журы вынікі конкурсу па стварэнні помніка Янку Купалу і Якубу Коласу ў Варшаве. Дарэчы, адзін з праектаў-прэтэндэнтаў на перамогу, які заняў другое месца, быў рэкамендаваны журы для ўсталявання менавіта ў Смольні. Але рэалізаваць падобны праект можна толькі талакой, прыцягнуўшы сродкі Міністэрства культуры Беларусі, Мінскага аблвыканкама і пазабюджэтныя спонсарскія сродкі. І калі вы як старшыня фонду гатовы ўзяцца за тое, каб збіраць менавіта грамадскія сродкі, Міністэрства культуры падтрымае.

**— Кампазітар Дзмітрый Лыбін. У красавіку быў у Кіеве на фестывалі сучаснай украінскай музыкі. Бываў і на "Варшаўскай восені", на фестывалі ў Кракаве, на "Маскоўскай восені". У нас такога фестывалю няма. Да таго ж, працэнт выканання твораў беларускіх аўтараў нашымі філарманічнымі калектывамі вельмі малы. Ці ёсць думка альбо праграма на дзяржаўным узроўні, як змяніць гэтую сітуацыю?**

— Шаноўны Дзмітрый! Мы чакаем з боку Саюза кампазітараў канкрэтныя прапановы, каб выпрацаваць падыходы, скіраваныя на максімальную падтрымку айчыннай музыкі, айчыннага мастацтва і кампазітараў. І лічу, што гэта абсалютна рэальна. Калі дзяржаўныя тэатры, якія ўваходзяць у сістэму Міністэрства культуры, ажыццяўляюць новыя пастаноўкі ці калі Беларуская дзяржаўная філармонія, абласныя філармоніі арганізоўваюць сваю канцэртную дзейнасць — мы ў стане скіраваць увагу на неабходнасць падтрымкі і выкарыстанне менавіта твораў беларускіх кампазітараў. Трэба толькі адпрацаваць сумесныя падыходы. Чакаю вас у Міністэрстве культуры.

**— Настасся з Мінска. Ці будзе ў бліжэйшы час спрошчана працэдура праходжання стажыровак ці практыкі за мяжой для беларускіх студэнтаў?**

— Думаю, трэба гаварыць не толькі аб працэдуры, а пра тое, што з боку дзяржавы робіцца, каб спрыяць арганізацыі стажыровак студэнтаў і магістрантаў, аспірантаў, дактарантаў ВНУ сферы культуры за мяжой. Дзякуючы фондам Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі і падтрымцы культуры і мастацтва толькі за бягучы год 10 студэнтаў нашых ВНУ накіраваны на стажыроўкі ў замежжа. Плануем накіраваць яшчэ 9 чалавек у Расію і краіны ЕС. Для нас вельмі важным з'яўляецца развіццё магчымасцей самарэалізацыі, самаадукацыі студэнтаў.

Яшчэ адзін важны кірунак — запрашэнне замежных выкладчыкаў у нашы ВНУ культуры. Дарэчы, мы працуем над змяненнямі для палажэння аб дзейнасці гэтых фондаў, якія значна пашыраць магчымасці бюджэтнай падтрымкі новых ідэй і праектаў у сферы нацыянальнай культуры. Але вельмі важна, каб студэнты ці выпускнікі ВНУ пазней вярталіся ў Беларусь і працягвалі працаваць дзеля культуры і мастацтва нашай краіны. Рэктары нашых трох ВНУ сферы культуры ведаюць пра гэтыя падыходы, і гэты працэс будзе толькі развівацца. Цяпер Міністэрства культуры працуе над распрацоўкай Палажэння аб арганізацыі стажыровак таленавітай творчай моладзі па-за межамі Беларусі. Палажэнне плануецца прыняць на ўзроўні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Іншая праблема — стварэнне асяроддзя, у якое стажоры будуць вяртацца. Да прыкладу, мы гаворым пра стажыроўкі студэнтаў у сферы кінарэжысуры, аператарства, драматургіі: у Маскве, у Францыі, ці Польшчы. І тут размова ідзе пра стварэнне эканамічнай сістэмы развіцця кінавытворчасці ў краіне.

## Нацыянальнае кінамастацтва

**— Алесь Уладзіміравіч, кінаматар. Апошнім часам шмат публікацый, у тым ліку крытычных, было прысвечана стану кінамастацтва. І вядома, што пытанне разглядаецца. Якія тут ёсць змяненні?**

> *Каб зразумець, што нейкая падзея стала сапраўды з'явай культуры, патрэбны час. Яшчэ больш часу патрэбна, каб акрэсліць нейкія тэндэнцыі і традыцыі ў развіцці культуры. Гэта аб'ектыўная заканамернасць — час дае сапраўдную ацэнку таму, што рабіў, робіць і будзе рабіць чалавек. І мы не можам ведаць, як нашчадкі ацэняць культурныя здабыткі сённяшняга дня. Але мы не можам і чакаць. Бо менавіта ад нас, што працуюць тут і цяпер, залежыць будучы лёс беларускай культуры.*

— Мы фарміруем новую падатковую сістэму для развіцця кінавытворчасці ў краіне. Некаторыя замежныя прадзюсары ўжо заявілі: калі сістэма запрацуе, яны будуць зацікаўленыя пераносіць свае павільёны бліжэй да Мінска. Кінавытворцы з 1 ліпеня будуць пазбаўлены ад зямельнага падатку, падатку на нерухомасць, нават калі арандуюць павільён; яны не будуць плаціць падатак на дабаўленую вартасць; калі аказваюцца паслугі для кінавытворчай арганізацыі, яны таксама пазбаўляюцца ад падатку на дабаўленую вартасць, будзе ўсталявана і льгота па падатку на прыбытак, калі ён накіроўваецца на кінавытворчасць. Аналагічныя льготы ствараюцца для кінапракату. Сёння мы амаль не маем прыватнага кінапракату ў краіне. Не маем замежных інвестыцый у гэту сферу, у той час калі ў нашых суседзяў гэта вельмі дынамічна развіваецца.

Мы змяняем прынцыпы фінансавай падтрымкі развіцця кінавытворчасці. Калі абмяжоўваем да 70 працэнтаў магчымасць атрымання дзяржаўных сродкаў на вытворчасць кінастужкі, разумеем, што 30 працэнтаў трэба знайсці на рынку. Таму мы ўводзім магчымасць пакрыцця прадзюсарскіх рызык, ствараем сістэму льготнага крэдытавання кінавытворчасці пад чатыры працэнты гадавых. Нам падаецца, што пры такім сістэмным падыходзе праз 2—3 гады мы будзем знаходзіцца на іншым этапе развіцця кінасферы ў краіне.

> Пачаў чытаць "ЛіМ" у 1990-я гады дзякуючы свайму бацьку. У нашай сям'і газета заўсёды была папулярная, мы куплялі яе, падпісваліся. Калі працаваў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Варшаве, то пасольства было падпісана на "Літаратуру і мастацтва", так што з'яўляюся даўнім чытачом газеты, а сёння, на гэтым кірунку дзейнасці, — тым больш.

## Культура і спорт

**— Павел Паўлавіч, да вас звяртаецца спартыўны журналіст. Мяне цікавіць супрацоўніцтва Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з Міністэрствам спорту, асабліва напярэдадні алімпіяды, якая праводзіцца ў Лондане. Расія заўсёды арганізуе на такіх мерапрыемствах "Рускі дом", дзе адбываецца шмат культурных акцый. Магчыма, і мы адкрыем на алімпіядзе "Беларускі дом"?**

— Вельмі цікавая прапанова. Думаю, што самым бліжэйшым часам мы абмяркуем яе. Дарэчы, у чэрвені мы запланавалі сумесную калегію Міністэрства культуры і Міністэрства спорту і турызму з мэтай прааналізаваць перспектывы нашага супрацоўніцтва ў спрыянні развіццю ўнутранага турызму, а таксама павелічэнні прытоку замежных турыстаў у Беларусь. Мы разумеем, што ўсе знакавыя помнікі гісторыі і культуры нашай краіны могуць і павінны выкарыстоўвацца ў турыстычных мэтах. Мы збіраліся паўтара года таму на сумеснай калегіі і хацелі б паглядзець: а што рэальна зроблена рэгіянальнымі ўпраўленнямі культуры, спорту і турызму ў абласцях і раёнах краіны? Але няма ніводнай буйной спартыўнай падзеі — унутры краіны альбо міжнароднай, еўрапейскага, сусветнага значэння, якая б праводзілася без удзелу артыстаў, нашых калектываў. Вельмі шчыльна супрацоўнічаем. Ідэя "Беларускага дома" ў Лондане заслугоўвае прапрацоўкі. Дарэчы, мы плануем, і спадзяёмся, што ў нас атрымаецца арганізаваць гастролі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі са спектаклем паводле аднаго з твораў Шэкспіра на беларускай мове падчас правядзення алімпіяды. Так што ў Лондане, магчыма, загучыць беларуская.

## Інфармацыя праз Сеціва

**— Добры дзень! На сувязі Навагрудак, Мікалай Гайба. На сайце Міністэрства культуры Беларусі прапалі адрасы ўстаноў культуры краіны. Трэба вярнуцца да іх! Шмат было карыснай інфармацыі.**

— Заўвагу прымаю. Цяпер міністэрства працуе над стварэннем новага сайта і над парталам "Культура Беларусі". На партале змесцім максімальную інфармацыю пра розныя кірункі нашага мастацтва, пра вядучыя ўстановы культуры. Абсалютна слушная ваша прапанова, каб зрабіць спасылкі на Інтэрнэт-старонкі ўстаноў культуры.

**— Вас турбуюць з Гродзенскай вобласці, горад Масты, раённы Дом культуры. Нас непакоіць пытанне працягласці адпачынку. Ці будзе яго павелічэнне? Атрымліваецца, што і ў тэхнічных работнікаў, і ў спецыялістаў на адпачынак адводзіцца 24 каляндарныя дні. Нешта будзе мяняцца?**

— На сённяшні дзень няма такіх планаў. Нарматыўная заканадаўчая база ўжо сфарміравана, і змен у гэтым кантэксце не плануецца. Думаю, што вы павінны з наймальнікамі вырашаць дадатковыя магчымасці праз кантрактную сістэму.

**— І яшчэ. Ці будзе нейкім чынам стымулявацца вышэйшая адукацыя? Я заканчваю ВНУ, па заканчэнні мне ніякіх надбавак не прадбачыцца?**

— Трохі збянтэжаны гэтым пытаннем. Думаю, што калі мы будзем уводзіць надбаўкі за вышэйшую адукацыю, складзецца дзіўная сітуацыя ў краіне. Ёсць штатны расклад. У адпаведнасці са штатным раскладам ёсць пасады, якія можа займаць асоба з вышэйшай адукацыяй, якія больш аплачваюцца. Вышэйшая ж адукацыя дае перспектывы заняць і больш высокую пасаду.

## Час, які прадвызначае лёсы

**— Павел Паўлавіч, дазвольце і некалькі пытанняў ад "ЛіМа". Вы актыўна падтрымалі прапанову Міністэрства інфармацыі разгарнуць у краіне акцыі па падтрымцы кнігі і чытання. Якую ролю, па-вашаму, кніга адыгрывае ў сучасным жыцці?**

— Бясспрэчна, у наш час наспела неабходнасць прыняцця дзяржаўнай праграмы падтрымкі і развіцця чытання ў Беларусі. Бо людзі чытаюць мала. На жаль, гэта паказаў і аналіз, праведзены ў мінулым годзе Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, Міністэрствам культуры і Міністэрствам адукацыі краіны. Вельмі мала чытаюць і беларускай літаратуры. Як аказалася, толькі 7 працэнтаў дзяцей чытае беларускую літаратуру, і то гэта творы, якія ўпісаны ў абавязковую праграму. Таму нам трэба зрабіць акцэнт на папулярызацыі айчыннай літаратуры.

**— А ці знаходзіце час для чытання "ЛіМа"?**

— Пачаў чытаць "ЛіМ" у 1990-я гады дзякуючы свайму бацьку. У нашай сям'і газета заўсёды была папулярная, мы куплялі яе, падпісваліся. Калі працаваў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Варшаве, то пасольства было падпісана на "Літаратуру і мастацтва", так што з'яўляюся даўнім чытачом газеты, а сёння, на гэтым кірунку дзейнасці, — тым больш. Перадусім мне цікавыя ў вашай газеце аналітычныя матэрыялы, навіны, звязаныя з культурай. Дзякуй вам за тое, што робіце для нашай культуры і мастацтва, а значыць і краіны. З боку Міністэрства культуры будзе заўсёды зацікаўленае стаўленне да тых праблем і пытанняў, якія ўзнімае "ЛіМ" на сваіх старонках.

**— Цяпер створаны шэраг грамадскіх саветаў пры Міністэрстве культуры Беларусі, зусім нядаўна — Грамадскі савет па культуры пры Савеце Міністраў. Якія надзеі вы ўскладваеце на гэтыя грамадскія ініцыятывы?**

— Перш за ўсё Савет — гэта шырокая магчымасць для дзяржавы культуры непасрэдна прымаць удзел у культурным працэсе краіны. Грамадскі савет па культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь аб'ядноўвае прадстаўнікоў творчых саюзаў, вучоных, вядомых дзеячаў культуры і мастацтва ўсіх кірункаў, якія разам могуць абмяркоўваць і вырашаць найбольш праблемныя пытанні развіцця культуры сённяшняга часу.

Таму Савет для мяне — гэта моцны інтэлектуальны рэсурс, на які можа абапірацца Міністэрства культуры, іншыя органы дзяржаўнага кіравання, наш урад пры ажыццяўленні дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры.

Ужо адбылося два пасяджэнні Савета, на якіх абмяркоўваліся найбольш набалелыя пытанні выхавання асобы праз культуру, эстэтычнага выхавання насельніцтва і мастацкай адукацыі. Савет выпрацаваў шэраг рэкамендацый, на аснове якіх Міністэрства культуры вядзе работу з зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання, уносяць адпаведныя прапановы на ўрад.

Савет — своеасаблівая форма грамадска-дзяржаўнага кіравання культурай, форма развіцця грамадскага дыялогу, калі грамадства можа мець непасрэдны ўплыў на выпрацоўваемыя кіраўнічыя рашэнні.

**— Які ж часавы адрэзак лічыце найбольш прыдатным для таго, каб гаварыць пра пэўныя тэндэнцыі і традыцыі ў развіцці культуры — год, стагоддзе, тысячагоддзе?**

— Каб зразумець, што нейкая падзея стала сапраўды з'явай культуры, патрэбны час. Яшчэ больш часу патрэбна, каб акрэсліць нейкія тэндэнцыі і традыцыі ў развіцці культуры. Гэта аб'ектыўная заканамернасць — час дае сапраўдную ацэнку таму, што рабіў, робіць і будзе рабіць чалавек. І мы не можам ведаць, як нашчадкі ацэняць культурныя здабыткі сённяшняга дня. Але мы не можам і чакаць. Бо менавіта ад нас, што працуюць тут і цяпер, залежыць будучы лёс беларускай культуры. Таму дзяржаўная палітыка ў галіне культуры павінна будавацца менавіта на тым, як, з аднаго боку, рупліва захаваць і падтрымаць тое, што ўжо створана, з другога — стварыць такія ўмовы, каб культура развівалася па ўсіх сваіх кірунках, каб яна "ўзрастала" ва ўсіх сваіх шматаблічных праяўленнях — без перашкод, вольна і ўпэўнена.

**Дзяжурная па "прамой лініі" Ірына ТУЛУПАВА**

*Фота Кастуся Дробава*

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# Адкрытыя фіналы, або Міф пра самага Апошняга Жураўля

## *Беларуская проза першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя*

**Побач з "паваротам" у гэтае дзесяцігоддзе цэлага шэрагу беларускіх празаікаў да гістарычнай прозы, яшчэ адной заўважнай з'явай апошніх гадоў сталася мэтанакіраваная праца па стварэнні сучаснай прозы для падлеткаў. Спарадычнасць, стыхійнасць (а часам — адсутнасць) дзейнасці, паслядоўна скіраванай на актуалізацыю нацыянальнай літаратуры як унікальнага феномена найноўшай культурнай парадыгмы, ужо сёння ўсведамляецца як відавочны стратэгічны пралік айчыннай літаратурнай супольнасці. У гэтай сітуацыі спланаванае ў выніку "калектыўнай дамовы" пісьменнікаў (Раісы Баравіковай, Алеся Бадака, Алеся Наварыча і інш.) стварэнне шэрагу аповесцей для падлеткаў падаецца надзвычай важнай падзеяй.**

Разважаючы пра стан і праблемы дзіцячай літаратуры Беларусі на старонках перыядычных выданняў, надчас сустрэч з чытачамі, беларускія пісьменнікі ўсё часцей звязваюць перспектывы нацыянальнай літаратуры і культуры з тым, ці здолеюць дарослыя прывіць юным чытачам *унутраную* патрэбу ў мастацкім слове. Дзеля дасягнення гэтай сур'ёзнай мэты Р. Баравікова звярнулася да жанру, патэнцыял якога ў айчыннай літаратурнай традыцыі напоўніцу не раскрыты і не скарыстаны, магчыма, якраз з прычыны не зусім сур'ёзнага да яго стаўлення: маецца на ўвазе "аповесць для падлеткаў" "Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8 "Б" = ♐", якая сінтэзуе лепшыя набыткі прыгодніцкай, гістарычнай і навукова-фантастычнай літаратуры, прычым займальная фабула насычаецца далёка не легкаважным зместам. У сваю чаргу, напоўніцу скарыстоўваюць нежартоўныя магчымасці гісторыка-прыгодніцкай і гісторыка-дэтэктыўнай прозы для падлеткаў А. Федарэнка ("Афганская шкатулка", 2002), А. Наварыч ("Памалюся Перуну, пакланюся Вялесу…", 2007).

Іншым шляхам ідзе А. Бадак. У 2007 годзе ў часопісе "Маладосць" была апублікавана яго аповесць "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца". На першы погляд, гэта ўзор прозы для падлеткаў. Але толькі на першы погляд: "дзве сюжэтныя лініі, аб'яднаныя тэмай першага кахання: адна з іх пераносіць чытача ў школу пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя, другая разгортваецца на фоне сённяшняга дня" (паводле анатацыі да першага кніжнага выдання аповесці) насамрэч ахопліваюць праблемна-тэматычны абсяг, непараўнальна шырэйшы за "школьныя" стасункі падлеткаў і дарослых, узаемаадносіны вучняў і настаўнікаў. Для аўтара аповесці "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца" сталенне — гэта працэс, "межы" якога супадаюць з чалавечым жыццём. Ён доўжыцца праз дзяцінства, юнацтва, маладосць, уласна сталасць; ён проста не можа закончыцца, як не заканчваецца асоба таго ці іншага чалавека нават пасля яго сыходу ў нябыт, працягваючыся ў памяці пра яго… *Адкрытыя фіналы* (менавіта так, у множным ліку) гэтага твора А. Бадака могуць быць "дапісаныя", "дадуманыя" кожным чытачом па-свойму; яны бачацца запрашэннем да самастойнай творчасці ў напісанні гісторыі ўласнага сталення.

Менавіта проза для падлеткаў як адмысловы "праект", маштаб і значнасць якога варта вымяраць не столькі ў аспекце колькасці, колькі з улікам якасці твораў (згадаем і "казачныя аповесці" П. Васючэнкі пра паноў Кубліцкага ды Заблоцкага, якія выйшлі асобнай кнігай "Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі" ў 2003 годзе, яго раман "Дванаццаць подзвігаў Геракла" 2009 года, кнігу В. Гапеева "Урокі першага кахання", 2010), у межах першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя — найбольш адэкватная мастацкая "рэакцыя" найноўшай айчыннай літаратуры на ўмовы існавання ў інфармацыйным грамадстве.

Да ліку падобных спроб беларускай прозы адрэагаваць адпаведным чынам на чаканні шырокай чытацкай аўдыторыі, сучаснага масавага чытача можна аднесці і пэўную актывізацыю, у параўнанні з апошнім дзесяцігоддзем XX стагоддзя, айчыннай фантастыкі (пад якой у дадзеным кантэксце маецца на ўвазе сукупнасць уласна навуковай фантастыкі, фэнтэзі, кіберпанка, дыстопіі, экатопіі і г.д.). Пераважная большасць твораў беларускамоўнай фантастычнай літаратуры пабачыла свет дзякуючы "Фантасту" — "часопісу ў часопісе", што друкаваўся на старонках "Маладосці"; можна прыгадаць і адзінкавыя кніжныя выданні: "Дзікія кошкі Барсума" (2009) Г. Аўласенкі, "Дзеці зорак" (2009) А. Аляшкевіча, "Белаполіс" (2003) і "Электрычныя сны" (2006) А. Паўлухіна, а таксама калектыўны зборнік "Люстэрка Сусвету: беларуская фантастыка" (2007).



Малюнак Марыі Лось

Найбольш плённым у гэтае дзесяцігоддзе быў зварот беларускіх аўтараў да жанру фантастычнай аповесці: згадаем творы "Век Вадаліва" (2004), "Даліна дзвюх поўняў" (2006) А. Аляшкевіча, "Не ўсім сняцца сны" (2006) У. Цвяткова, "Хуткадзейнасць" (2004) А. Паўлухіна, "Матылькі над багнай" (2006), "Горад, які яны засялілі" (2007) М. Южыка і інш. Надзвычай цікавай стала спроба А. Бычкоўскага ў аповесці "Аналія" (2007) актуалізаваць у жанравай прасторы фантастыкі тэму Вялікай Айчыннай вайны. Дзеянне твора адбываецца ў 2015 годзе: група вайскоўцаў, накіраваная ў Зону, трапляе ў таямнічы туман і апынаецца ў Беларусі 1943 года, дзе галоўны герой сяржант Вацлаў Кравец выратоўвае перакладчыцу-падпольшчыцу Святлану і нават адносна ўдала вяртаецца ў свой час… Дзякуючы дынамічнаму сюжэту аўтар на працягу ўсяго твора трымае чытача ў адмысловым эмацыянальным напружанні і пры гэтым імкнецца псіхалагічна матываваць учынкі персанажаў.

Не пакінулі без увагі пісьменнікі-фантасты і жанр фантастычнага апавядання ("Нашчадкі неўраў", 2003, "Прышэлец", 2004, А. Бычкоўскага; "Падарожжа праз…", 2006, С. Мінскевіча), прычым прыярытэт належаў кароткім апавядам навелістычнага кшталту (апавяданні У. Цвяткова "Цішыня на Лютэцыі", "Ліст з Марса", "Няўдалы бізнес", творы А. Паўлухіна "Не кларк", "Варыянтнае бюро", "Томас Мор", "Як вы" і інш.).

Агульнай асаблівасцю твораў, якія з большай ці меншай пэўнасцю на гэтым этапе можна разглядаць у абсягах беларускай фантастычнай літаратуры (відавочна неаднароднай у жанрава-стылявым сэнсе), з'яўляецца імкненне аўтараў сінтэзаваць у межах аднаго тэксту элементы навуковай фантастыкі і фэнтэзі. Паслядоўна ў гэтым кірунку рухаўся цягам 2000-х С. Мінскевіч: згадаем яго "раман-фэнтэзі" "Сад замкнёных гор" (2004), "касмічнае фэнтэзі" "Зорныя гульні" (2005) і асабліва "Рок@нат. Фэнтэзі++" (2010). У апошнім творы дзеля разгадкі таямніцы касмічнага карабля Рок-ната ("Скалы-арэха") дасягненняў "футуралагічнай навукі" (клініраванне як амаль паўсядзённая справа, новыя магчымасці ўздзеяння на чалавечую псіхіку і г.д.) аказваецца недастаткова; у хранатопе твора складана пераплятаюцца розныя рэальнасці, адмыслова актуалізуецца паэтыка фэнтэзі — праз гісторыю супрацьстаяння гмунаў і гвіблаў, якая ў выніку аказваецца штучнай гісторыяй штучнай цывілізацыі.

Менавіта жанравая прастора сучаснай фантастыкі бачыцца некаторым беларускім пісьменнікам надзвычай прыдатнай для асэнсавання сацыяльных наступстваў тэхнагенных катастроф. Так, у аповесці Ю. Станкевіча "Эрыніі" (2006) перад чытачом разгортваецца змрочнае быццё насельнікаў безыменнага Мегаполіса і яго ваколіц пасля Катастрофы, самым жахлівым (бо незваротным) наступствам якой сталася побач з генетычнай духоўная дэградацыя чалавека, што нібыта "скасавала" тысячагоддзі культурнай эвалюцыі чалавецтва, абрынуўшы яго назад у антычны Танатас. Паказальна, што ў гэтым і шэрагу іншых твораў, што пабачылі свет у 2000-х (аповеды С. Дубаўца "Кайлюс і Зелба. Зімовая казка", 2008, "Чучундра. Падарожжа прафесара Солада й доктара Зайца (Блюма)", 2009) фантастычны антураж сінтэзуецца з паэтыкай абсурдысцкай прозы. Прычым у гэтым адмысловым хранатопе аўтары імкнуцца асэнсаваць непазбыўна важныя для айчыннай традыцыі пытанні нацыянальнай памяці і самаідэнтыфікацыі асобы (раманы Ю. Станкевіча "Ліст у галактыку "Млечны Шлях"", 2002, "Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн", 2003, "П'яўка" (2008—2009) і інш.). На думку П. Васючэнкі, ключом да рэалізацыі літаратурных прагнозаў мусіць стаць разуменне, што пісьменнікі не прадказваюць будучыню — яны яе праграмуюць: "Літаратура магла б пераствaрыць цывілізацыю, алітаратурыць свет, калі б забылася на ранейшы свой лёс — стварэнне антыўтопіяў. <…> Галоўныя антыўтопіі ў беларускай літаратуры ўжо як бы створаныя. <…> Выснова: XXI стагоддзе — час стварэння ўтопій". Аднак аналіз прозы 2000-х указвае якраз на з'яўленне яшчэ адной жанравай разнавіднасці антыўтопіі — спецыфічна беларускай, якая ўзнікае на скрыжаванні экатопіі (з'яўленне якой у беларускай літаратуры сучасным даследчыкам бачыцца заканамерным у "постчарнобыльскім" свеце) і экзістэнцыйна-футуралагічнага аповеда…

> *У сітуацыі, калі спажыўцоў і вытворцаў "культурнага сурагату" па-сапраўднаму цікавіць толькі анамальнасць сацыяльных, маральных, эстэтычных з'яў, беларуская проза 2000-х уражвае якраз сваёй "нармальнасцю", што ў "вывернутым" свеце падаецца амаль немагчымаю. Размова ідзе пра ўгрунтаванасць айчыннага прыгожага пісьменства ў традыцыях нацыянальнага светаадчування, арыентаванага на гарманізацыю жыцця, а не на "філасофію хаосу".*

* * *

Натуральна, ніякі пералік плыняў, кірункаў, тэм, праблем, імёнаў, твораў не здольны даць вычарпальнае ўяўленне пра дынамічнасць развіцця, поліфанічнасць, шматколернасць беларускай прозы першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя. Але нават кароткі экскурс у яе мастацкі свет дазваляе з пэўнасцю засведчыць адну сутнасную яго асаблівасць.

У сітуацыі, калі спажыўцоў і вытворцаў "культурнага сурагату" па-сапраўднаму цікавіць толькі *анамальнасць* сацыяльных, маральных, эстэтычных з'яў, беларуская проза 2000-х уражвае якраз сваёй "*нармальнасцю*", што ў "вывернутым" свеце падаецца амаль немагчымаю. Размова ідзе пра ўгрунтаванасць айчыннага прыгожага пісьменства ў традыцыях нацыянальнага светаадчування, арыентаванага на гарманізацыю жыцця, а не на "філасофію хаосу". Іншая справа, што жыццё на чарговым "зломе эпох" нярэдка аддае перавагу не гармоніі, а логіцы абсурду. Ці не таму сённяшнія творы многіх беларускіх пісьменнікаў — незалежна ад узросту і мастацкіх зацікаўленняў — паўстаюць спробамі пабудаваць тут і цяпер такі *беларускі* свет, які здолеў бы супрацьстаяць любым дзівосам сучаснага быцця. Бо і ў новым тысячагоддзі ў беларуса, бадай, "ні ад чаго так не баліць душа і нічаму гэтак не здзіўляецца, як роднаму свайму полю, якое праплыве пад шызым крылом" (А. Жук), магчыма, *самага* Апошняга Жураўля.

# «Душы святочныя маленні…»

## Лірыка Яна Чыквіна

Мікола МІШЧАНЧУК

**“Адно жыццё: Выбранае” — назва выніковага на сённяшні дзень зборніка паэзіі Яна Чыквіна. Аўтар летась адзначыў сваё 70-годдзе. Ведаем юбіляра і як майстра-словатворцу, і як слыннага даследчыка сусветнай, а найперш — беларускай літаратуры, яе невядомых і самабытных (як, напрыклад, слоўнае мастацтва блізкай — беластоцкай і далёкай дыяспары) старонак. Самых добрых слоў заслугоўвае і арганізацыйная дзейнасць шаноўнага прафесара па захаванні беларускага гожага і годнага слова і ў метраполіі, і за яе межамі. Роднаму слову, роднай мове ён служыць аддана і высакародна, выдаючы часопіс з гаваркой назвай — “Тэрмапілы”. А колькі сіл за 20 гадоў аддадзена “Белавежы” — суполцы талентаў, што за межамі Беларусі памнажаюць славу нашай краіны, ствараюць сапраўдныя эстэтычныя каштоўнасці, і бібліятэцы аб’яднання, дзе выдадзена каля сямі дзясяткаў тамоў цікавых кніжак!**

Зборнік “Адно жыццё” ўжо сваёй назвай акрэслівае звышзадачу аўтара, яго эстэтычнае крэда: жыццё нам дадзена адно, а таму заўсёды трэба памятаць пра гэта, жыць так, каб працягваўся вечна працэс неўміручасці:

*Ведаю, ведаю — свет быў перада мною!*
*Але й ведаю, што ён існуе са мною,*
*ува мне і праз мяне*
*ды будзе — калі мяне не стане!*
*перацячэ праз усё вядома і род чалавечы*
*і станецца формай, відавочна,*
*яшчэ больш дзівосна-лагічнай —*
*Але ўжо там, за тым мурам,*
*адкуль ні Слова, ні Рух*
*нас не паклічуць.*

Назва “Адно жыццё”, як і назвы ранейшых кніжак, сведчыць пра медытатыўнасць, філасафічнасць мыслення паэта, пра яго заўсёднае імкненне да маштабнай ацэнкі з’яў праз вузлавыя, шматзначныя вобразы-рэаліі, якія набываюць ці значэнне ўніверсальных сімвалаў (“Кругавая чара”, “Крэйдавае кола”, “Жменя пяску”), ці з’яўляюцца самі ўніверсальнымі паняццямі (“Неспакой”, “Светлы міг”, “Свет апошні і першы”, “Адно жыццё”). Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць вывад пра тое, што лірыка Яна Чыквіна стылёвай дамінантай мае скіраванасць на роздум, разважанне, маналагічную спавядальнасць як найвыразныя яе прыкметы. Выяўленча-апісальны пачатак быў уласцівы паэзіі Чыквіна пераважна на раннім этапе творчасці, у 60-я гады, калі з’явіліся кнігі “Іду”, “Святая студня”. Менш і менш выяўляў ён сябе ў наступных зборніках — то асобнымі радкамі ў творах-роздумах, разважаннях, то “застаўкамі” ў вершах пра жыццё і смерць, кругабег часу, сувязь чалавека са знешнім светам, мінулае і будучыню, мастацкую творчасць і іншыя вечныя тэмы. Не выявіў сябе ў творчасці беластоцкага паэта і эталагічны, нораваапісальны пачатак: у аўтара няма не толькі твораў дыдактычных, але і нават радкоў павучальнага зместу. Павучальнасць у чыквінскай творчасці вынікае з глыбокага аўтарскага разважання, роздуму, яна схаваная ў рэфлексіях, якія нарошчваюцца адна на адну, разгортваюцца ў спавядальныя маналогі.

Напачатку паэзія Яна Чыквіна мела ўзнёсла-рамантычны характар, поўнілася здзіўленнем, была метафарычна-асацыятыўнай і менавіта дзякуючы апошняй рысе асабліва блізкай да паэзіі Рыгора Барадуліна 1960-х гадоў. Ды ёсць тут адна асаблівасць, якая адразу кідаецца ў вочы і ангажуе лірыку замежнага аўтара і на непадабенства да лірыкі беларускага паэта — вельмі выразна бачацца ў ёй такія прыкметы модульнай паэтыкі, як вольная рытмічная арганізацыя верша, нечаканая асацыятыўная вобразнасць, раскаваная рыфмоўка і страфіка, спалучэнне натуральнай маляўнічасці ў духу Сярэднявечча і строгай графічнасці, апісальнасці і фальклорнага (багдановічаўскага кшталту) міфалагізму. Свет у вершах паэта “Дзяцінства...” (1961), “А дом наш...” (1962), “Іду” (1958), “Дождж” (1963) паўстае “надточаны”, ачалавечаны, адухоўлены ў цэлым, хоць і, паўтаруся, не губляе свайго контурнага абрысу:

*Вечарам духмяныя ўстаюць агароды,*
*Бярозы рукі апускаюць у крыніцы,*
*Чаромхі ўецца неслухмяны водар,*
*Як віно, якога нельга ўжо напіцца.*

*І галасы сяброў, і клёкат бусла з клуні,*
*І лугі, дзе конскія пасуцца грывы,*
*І сон глыбокі ветру ў самы поўдзень,*
*І трава іржавая па-над абрывам.*

*У садзе нашым зноў*
*цвітуць кусты язміну,*
*Макі грэюць рукі, узняўшыся высока.*
*А дом наш, як далёкія ўспаміны, —*
*Без дзвярэй, без тынку і без вокан.*

Працытаваны верш “А дом наш...” — яскравае сведчанне і рамантычных памкненняў аўтара (яго ўменне здзіўляцца, здаецца, самым звычайным рэчам і па гэтай прычыне прадстаўляць іх чытачу жывымі істотамі), і вастрыні зроку (чаго каштуе адзін эпітэт “...трава іржавая па-над абрывам”!), і майстэрства кампазіцыі: з’явы паўстаюць у двайной праекцыі — верх (“галасы сяброў”, “клёкат буслоў”, “чаромхі... водар”, “сон ветру”, высока ўзнятыя рукі макаў) — ніз (“агароды”, рукі бяроз у крыніцах, лугі, трава іржавая, абрыў). Але больш за ўсё ўражвае ўменне мастака слова пераключаць увагу з канкрэтнага на агульнае, з прадметнага на абстрактнае. Так, як гэта мог рабіць наш незабыўны Максім Танк. Кожная з трох строф верша — кампазіцыйны двухскладовік, у якім вобразы-рэаліі стаяць побач з вобразамі-ўніверсаліямі. Апошняя страфа ў гэтых адносінах самая паказальная. Думка аўтара тут адштурхоўваецца ад канкрэтыкі (сад, кусты язміну, макі, дом) і выходзіць на параўнанне апошняй прадметнай рэаліі “дом” з далёкімі ўспамінамі, якія, як і будынак, відаць, сіратлівыя, недагледжаныя, аказваюцца “без дзвярэй, без тынку і без вокан”.

Пераадоленне “прыземленай” апісальнасці адбывалася ў паэзіі Яна Чыквіна 80—90-х гадоў XX стагоддзя і пазней двума шляхамі: шляхам павелічэння ў ёй “удзельнай вагі” акмеістычнага стылю (тут паэт стаў прадаўжальнікам гумілёўскіх традыцый, што ў метрапалійнай лірыцы актыўна выявілася ў творчасці Т. Кляшторнага, У. Хадыкі, Ю. Таўбіна, З. Астапенкі, Хв. Ільяшэвіча, ранняга А. Звонака), і шляхам “канцэнтрацыі” ў апісальнасці філасафічнасці, “ушчыльнення” маналагічна-спавядальнага пачатку. Гаворачы іншымі словамі, аб’ект-суб’ектная паэзія выдатнага майстра станавілася суб’ектсуб’ектнай, рэальны свет усё больш і больш “раствараўся” ў аўтарскіх перажываннях, роздумах, сентэнцыях. “Экзотыка” акмеізму пры гэтым не проста раскевчвала і ўпрыгожвала думку, а надавала ёй большую маштабнасць, рысы шматзначнасці. Як вось у гэтым канкрэтным выпадку:

*Зялёным агнём набрыняла трава.*
*Гэта радасць вясны, а мяне там няма.*
*Ходзіць вецер на полі на тонкіх нагах.*
*Гэта песня зямлі, а мяне там няма.*

*Праз дзён пясок і каменне начэй*
*Прарастае сляза гарадскіх вачэй.*

Нават не спецыялісту на прыкладзе прыведзеных радкоў відаць, што і зялёны агонь набрынялай травы, і вецер, што ходзіць па полі “на тонкіх нагах” — выдатныя вобразы акмеістычнага плана — у першай страфе верша (катрэне) “працуюць” на вобразы-ўніверсаліі “радасць вясны” і “песня зямлі”, на аўтараў настрой (“а мяне там няма”). Два ж апошнія радкі склалі асобную страфу, дзе паралелізм паводле дыспазіцыі “канкрэтнае — агульнае” пераходзіць у суцэльную асацыятыўную вобразнасць, думка набывае адзнакі не толькі філасофскай значнасці, але і незвычайнасці, неардынарнасці. Мы, чытачы, “чапляемся” за вобразы “дзён пясок”, “каменне начэй”, устанаўліваем залежнасць паміж імі і вобразамі “сляза гарадскіх вачэй”, спрабуем адказаць на пытанне, чаму апошні вобраз “прарастае” з двух папярэдніх.

Акмеістычным (скажам больш правільна — экзатычным) стылем напісаны вершы 60-х гадоў. Такія, як “За вёскай з сена ўставала падранне...” (1964) з выключна непаўторнымі вобразамі, якія, бадай што, можна знайсці ў Д. Кедрына (“пальчыкі дажджу”) ды нашага Ю. Таўбіна: “І час стаяў, як ракіты на лузе”, “Над вёскай міску неба трымаў бусел”. Гэты стыль можа быць блізкім па выразнасці і яскравасці фарбаў да стылю сярэднявечнай літаратуры, Рабле ў прыватнасці. Характэрны ў гэтых адносінах і верш “Смерць вепрука” (1967), з натуралістычнымі дэталямі: вяпрук “раздвоіўся на мяса і сала”, “адпала галава, цёплая вантроба пацякла ў міску”, “кішкі пераліваліся ў балею” і інш. У асобных вершах і пазнейшай пары экзотыка засталася (у вершы 1985 года “Сад” Я. Чыквін піша: “Сад <...>, // Прыбяжы да мяне ў Беласток // У белай кашулі груш”, “З пахучых рук тваіх // Ссыплецца звон-цішыня”). Але такіх твораў засталося няшмат. Вершы са зборнікаў “Светлы міг”, “Кругавая чара”, “Свет першы і апошні”, “Крэйдавае кола”, “Жменя пяску” становяцца маналогамі паэтавай душы. Іх тэматычны змест лучыцца да такіх вечных сэнсаў, як Быццё — Чалавек — Бог — Час — Свабода — Няволя. Маналогі поўняцца болем пра перанесеныя ў мінулым і будучыя страты. Трагедыйны змест адліваецца ў форму элегіі — ментальнага для беларускай паэзіі жанру (прыгадаем творчасць Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва і многіх іншых аўтараў). Чытаем радкі верша “Феномен дня” (1989):

*Старэе дзень! Старэе сон, старэе дух.*
*І свет аціх ад музыкі на шыбе мух.*
*Састарылася сонца і агонь яго прытух —*

і разам з аўтарам стараемся зразумець, “як з крышталінак жывых расце жывы феномен дня”, чаму няўмольна адбываецца працэс старэння.

У вершы “Неадольнасць” мары паэта пра “вечнае царства світання”, падтрыманы экзатычнымі вобразамі тыпу “морак сабачыца”, “вешалка дзён”, перапыняюцца і з’яўляюцца радкі, ад якіх халадзее сэрца:

*Але мацней працэмра закруціла матавіла,*
*Сплятаючы і расплятаючы прывіды-зманы...*
*Каменне попела.*

Радкамі пра каменную нязрушанасць **працэмры** (зыходны вобраз) у чалавечым жыцці і заканчваецца твор-роздум.

Спавядальнасць, філасафічнасць паэзіі Яна Чыквіна абумоўлена спецыфікай лірыкі як самага суб’ектыўнага роду літаратуры. Яна ў яго творчасці нязрушная, як вечна нязрушны камень у аднайменным творы 2007 года. Яна не можа стаць сваёй супрацьлегласцю — лёгкай, “як пух лебядзіны”, вынутай з глыбіні і выцягнутай з вечнасці ісцінай. Гэтая глыбінная нялёгкасць, гэтая мыслёвая ўскладненасць з’яўляецца гарантам трываласці паэзіі Я. Чыквіна. Тым больш што яна — у адрозненне ад апанента камня — з’ява адухоўленая:

*Камень на дне ракі,*
*чырвоны, як вока рыбы,*
*нярухам плыве праз вякі*
*навечна руплівым няплывам.*

Ян Чыквін — “паэт думкі” (пушкінскае вызначэнне). І гэтым амаль усё сказана. Я паставіў бы яго творчасць у адзін рад з творчасцю Максіма Багдановіча (вядома, са скідкай на час Кніжніка), Максіма Танка, бадай, Алеся Салаўя і рускіх паэтаў-мадэрністаў — Андрэя Белага, Мікалая Гумілёва. Вядома, умоўна, бо беластоцкі паэт — непаўторная асоба ў слоўным мастацтве XX — пачатку XXI стагоддзя.



# Абаронца беларускіх скарбаў

Падсвядома заўсёды думаеш, што пэўныя людзі будуць жыць вечна, і калі яны ціха паміраюць, гэта агаломшвае і бянтэжыць: “Не, толькі не ён!”

У ноч з 5 на 6 чэрвеня на 78-м годзе жыцця адышоў у лепшы свет Уладзімір Міхайлавіч Конан —вядомы беларускі мысляр, чыё глыбокае слова на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў было маяком для многіх шукальнікаў ісціны і Беларусі.

Кнігі і артыкулы Уладзіміра Конана неадменна прыносілі больш, чым закладалася ў тэме або назве працы, бо адмета была ў самім ходзе думкі, яе разгалінаваных адценнях, кожнае з якіх варта асобнай манаграфіі. Ён паказваў вектар, куды можа вывесці пэўная праблема — гісторыі, эстэтыкі, культуралогіі. Вектар ад пачатку — з’ява нескончаная: гэта толькі напрамак, а не застылая догма. Уладзімір Конан яскраз і паказваў *магчымасці і магутнасці* беларускай культуры. З кожным яго артыкулам ці кнігай яны, па-першае, выходзілі з нябыту ў першародным выглядзе, па-другое, складалі неперарыўную ў часе сістэму, па-трэцяе, рухаліся з сучаснасцю і звярталіся да будучыні.

Слова ягонае, загартаванае класічнай адукацыяй і нястомнай самаадукацыяй, з самых першых прац было ачышчана і ад спрошчаных фармулёвак, а ў той жа час і ад расплывістага суб’ектывізму. Кнігі пра эстэтыку 1920-х гадоў, пазней — пра навуковы метад Адама Бабарэкі заклалі падмурак да грандыёзнай задумы — навуковай гісторыі беларускай эстэтыкі. Яна рэалізавалася ў шэрагу манаграфічных прац. Летась у выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў першы том (з трох запланаваных) фундаментальнай зводнай работы “Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі”. У ім філосаф выказаў тое, што ў савецкі час яму рабіць забаранялася: праверў глыбокі аналіз хрысціянскай духоўнай культуры, на аснове патрыстыкі вывеў канстанты духоўнага вопыту мастакоў Сярэднявечча і Рэнесансу, раскрыў архаічную прыроду народнай культуры. Гэтымі пытаннямі ён найбольш шчыльна займаўся ў апошні перыяд свайго жыцця: натуральны пераход ад прыватных назіранняў за гістарычным ходам эстэтыкі ў XIX — XX стст. да абагульненняў сістэматычнага кшталту, замацаваных у досведзе мастацтва старажытнага — як пісьмовых помнікаў, так і фальклору.

Доктар філасофскіх навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, аўтар дзясяткаў кніг і соцень артыкулаў, ён быў перш за ўсё выдатным вучоным — адным з тых, каму ў прынцыпе не можа быць замены. Запаветнай ягонай марай было стварэнне нацыянальнай па форме і духу філасофскай школы. Нельга сказаць, што гэта было здзейснена дарэшты. Аднак зерне трапляла не на камень, і на грунце прац Конана вырасла новае пакаленне культуролагаў, мысляроў, даследчыкаў эстэтыкі, міфалогіі і фальклору, паэтыкі і гісторыі нацыянальнага руху.

Няхай жа будзе пухам Вам зямля, доктар Конан, а ўсемагутны Бог, у Якога ў самы нязручны для гэтага час Вы працягвалі шчыра верыць, прыме Вашу светлую душу ў лёгкія нябесныя абіцелі.

**Рэдакцыя штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва”**

# Паэзія



Юрка Голуб

## З кнігі «Аберуч»

### *Супрасль*

*З-пад пазногця стрэмку вырву:*
*Гэх, любі цябе народ!*
*Ты даводзіш мне, што вырай —*
*Дзікіх птушак пералёт.*

*І што іх бяда чакае.*
*Выспы топяцца ў вадзе.*
*Голас выраю чаканны*
*Насупор ляціць бядзе.*

*Ціхама і сам не супраць*
*Кінуць-рынуць злосны свет,*
*Ды царква ў мястэчку Супрасль*
*Не жагнае спешны след…*

### *Спёка*

*Яшчэ не ўсчаўся сонца жар,*
*А слых са зрокам парадніліі*
*І невагомы ў небе жаўр,*
*І статак грузны пры даліне.*

*Шалёна гнала на прыпёк.*
*З антэн, як змеяў, лезла скура.*
*(Чаго вас, хлопцы, аддалёк*
*Панесла ў пекла з Байканура?)*

*І чыстай масці скрозь-наскрозь,*
*Смала вунь страціла прытомнасць,*
*І зашчымела ў бору косць,*
*Што пад насечкаю — раптоўна.*

*Жадаў дазвацца да крыніц*
*З шчарбатым выракам калодзеж,*
*Каб там сябе закараніць*
*І не забыць ваду на продаж.*

*За спёкай дрэмна назіраў*
*І летапісец пэўнай драмы.*
*Ён лоб далоняй выціраў*
*І атрасаў яе ў атрамант.*

### *Вырак тапалінаму пуху*

*Таполі. Алея. Бразь!*
*Звесці пад самы корань!*
*І пух тапаліны ў гразь*
*Шыўся, нібы пад коўдру.*

*Не роўня, сталёвы плуг,*
*Што ў глебу нырае раптам —*
*Жадаў тапаліны пух*
*Пырхаць у конскіх храпах.*

*Каб стаўся мінак сляпым,*
*Пух, як заплечны майстра,*
*І вочы мог заляпіць*
*Забеленым алебастрам.*

*І ён не цураўся нат*
*Прыкідвацца звонку ніцым,*
*Калі прыліп акурат*
*Пажадліва да спадніцы.*

*За глотку яго не ўзяць,*
*Не шмякнуць спрытнюгу вобзем!*
*Таполі шчытом стаяць:*
*На гэткіх смалу не возяць!*

*Ад стомы апух лапух*
*У загарадзі па суседстве.*
*Шалее ў тополях пух:*
*Ізноў стыхійнае бедства.*

### *Ветразі на возеры Белым*

Аляксандру Слашчову

*Заграбае вецер у пляцак*
*З возера аблокі, як бавоўну.*
*Іх замест — у вырай паляцяць*
*Чайкі, як выгнанніцы завоін.*

*Апускае ветразі яхт-клуб:*
*Адзвінелі струнамі — напята!*
*Бераг ім — не тое, што не люб:*
*Там крылу прасторы небагата.*

*Развіналі ж грудзі — нарасхрыст! —*
*Каб жа воля ім шугала ў грудзі!*
*Біў іх пырскаў безнадзейны хлыст,*
*І з надзеяю жагналі людзі.*

*Шмат змаўчу пра тую падарож,*
*Дзе мароз грукоча самапалам.*
*Толькі сэрца, дружа, не трывож,*
*Бо часова ветразі апалі…*

### *Вакзал*

*Расклады руху цягнікоў*
*Аднойчы страцілі харызму.*
*І шлях, пастаўлены на кон,*
*Здаваўся трызным і прыблізным.*

*А брукаванку на Парнас*
*Дарэшты хціўцы расцягнулі:*
*Невыпадкова там заграз*
*Знаёмец з квартай да цыбулі.*

*На схіле помнае гары,*
*Куды майстроў звялі анёлы,*
*Чакалі хабар ліхвяры —*
*Не ім прысвечаны шумёлы.*

*Маўчаць сугучна сад і стод.*
*Дуду гейнала песціць Кракаў.*
*Дарма пыхліва часу ход*
*Спрабуе вызначыць аракул.*

*Ці не паддасца ціску дух?*
*Слабак ці варты патурання?*
*Ды залачоны сонца круг*
*Сябе нястомна паўтарае.*



Фота Кастуся Дробава



Іна Фралова

## Край мой адзіны

*Край мой бялёсы, туманны, крынічны,*
*Вольны, як вецер у час навальнічны!*

*Край, як і прашчур калісьці далёкі,*
*Смелы, прыгожы, як лён, сінявокі!*

*Казачны край у палянах сунічных,*
*Моцны і шчодры,*
*як колас пшанічны!*

*Край закалыханы ў сэрцы паэта,*
*Ясны, пяшчотны, як цёплае лета!*

*Край адмысловы,*
*гасцінны, прыветны,*
*Край мой пушчанскі —*
*напеў запаветны!*

*Край шматпакутны,*
*як родная мова,*
*Ты ў маіх дзецях, ты —*
*сэрца палова!*

*Богам мой край у чало цалаваны,*
*Шчыры на слова, спагадны, каханы!*

*Край беларускі, крылаты, мядовы,*
*Рай мой салодкі, мой рай чабаровы!..*

## Добра дома

*Цемнагрывыя цярушыць снегам сцежкі,*
*Ад гасцінца я вяду сляды.*
*Мне суботняй ранiцай усмешкі*
*Дорыць тут марозік малады.*

*У калюжынах вадзіца-верхалёдка*
*На аблокі зрэдку, а зірне,*
*Здрыганецца да расколін і салодка,*
*Так салодка дома пазяхне.*

*Даўганогія вітаюцца сасонкі,*
*Ціснецца бачком да сцежкі лес.*
*Мне б з дзяцінствам тут наперагонкі —*
*Сталасць крочыць мне наперарэз.*

*Добра дома, добра да дрыготкі!*
*Ведаю, на прыпечку сквірчыць…*
*Нават мурканне санлівай шэрай коткі*
*Музыкай мне дома прагучыць!*

* * *

*Распрагу я гнядога*
*Ды й у ноч павяду.*
*Скакуна маладога —*
*У траву-лебяду.*
*Хай гуляе па волі,*
*Ад дарог адпачне,*
*Не сядзець мне ніколі*
*На шырокай спіне.*
*Не скакаць да знямогі*
*Без дарог напралом.*
*Не вязаць твае ногі*
*Даўгавусым вузлом.*
*Адпушчу я гнядога,*
*Як на розум прыйшло,*
*Каля пахкага стога*
*Ды пакіну сядло.*
*Хай цугляе трывога,*
*А бяда абміне!*
*Ды не плач ты, нябога,*
*Не шкадуй ты мяне!*

## Накувай мне, зязюлька, гадочак

*Накувай мне, зязюлька, гадочак!*
*Не шкадуй для мяне, маладой.*
*З зорным россыпам радасных ночак,*
*Хуткіх дзён з іх таропкай хадой.*

*Яшчэ зведаць хачу я спякотай*
*Холад родных гаючых крыніц*
*І знайсці пад апалай лістотай*
*Жаўтавокую жменьку лісіц.*

*Мне яшчэ аж да раніцы трэба*
*Салаўіная песня ўначы.*
*Каб пад сінім азораным небам*
*Нехта родны правёў па плячы.*

*Накувай мне, зязюлька, гадочак!*
*Не шкадуй для мяне, маладой,*
*Каб мой лёс, бы асенні лісточак,*
*Пакружыўся над грэшнай зямлёй.*

* * *

*Па спелым жыце назбіраю васількоў*
*І сінім воблакам табе іх падарую.*
*Ці гэта спёкай закіпае ў жылах кроў,*
*Ці то каханне мяне зводзіць, маладую.*

*Кладзецца вечар туманамі за ракой,*
*Туды сцяжыначка-насмешніца пабегла.*
*Ты абдымаеш мяне вольнаю рукой,*
*Бо на другой аблога кветак сініх легла.*

*Нам васількова пах*
*закружыць галаву,*
*Таму заблудзімся*
*на тым жытнёвым моры.*
*І паляцяць той ноччу кветкі на траву,*
*Як летуценныя на небасхіле зоры.*



Эдуард Гракович

* * *

*Вартуе белавокая спірэя*
*знаёмае трамвайнае "кальцо".*
*Бялеюць нерухома каля рэек*
*Пушыстыя галоўкі дзьмухаўцоў.*

*На клумбах так багата яркіх кветак —*
*усіх не перагледзець, не злічыць.*
*Прыйшло і цеплынёй дыхнула лета —*
*аж да нябёс хвала яму гучыць.*

*Хвале той аніхто не запярэчыць.*
*Нішто не перашкодзіць ёй гучаць.*
*Здаецца мне, што з лета на сустрэчу*
*Сюды трамваі беглі ў вясні час.*

* * *

*Падсохлі сцяжынкі лясныя.*
*Дзень добры, сасняк, — я твой госць.*
*Зімой баравіны ці сніліі*
*сягонняшніх дзён прыгажосць.*

*І ў лапак, і ў траў колер яркі —*
*як быццам падсвечаны ён.*
*Сінеюць пралескі, фіялкі,*
*а месцамі стрэнеш і сон.*

*Квяцістасць, такая жывая,*
*бясконца прыгожыць лясы.*
*Я ўзнёсла сябе адчуваю*
*між гэтай чароўнай красы.*

* * *

*Дубы, бярозы, сосны, вербы, —*
*багаты вамі мой куток.*
*Яго люблю, яму я верны,*
*як аніхто.*

*Вярнуўся з поўдня белы бусел —*
*выводзіць будзе немаўлят.*
*Ён краявідам Беларусі*
*бясконца рад.*

*Нясецца весні спеў буслiны*
*з вяршыні дуба ў сіняву.*
*Аблюбаваў жа птах мясціну,*
*дзе я жыву.*

*Шумяць таполі, ліпы, клёны, —*
*у кожным гуку свой сакрэт.*
*Цяністых дрэў густыя кроны —*
*пушысты свет.*

*Не можа далеч бліскай стацца.*
*Куды б каго лёс ні занёс —*
*з усіх канцоў імкнецца птаства*
*да родных гнёзд.*

* * *

*Было, мясіў мой бацька гліну,*
*пясок раз-пораз падкідаў —*
*з чырвоных гладзенькіх цаглінак*
*старанна грубку выкладаў.*

*Пры тым старанні не марудзіў.*
*Мне, хлапчуку гадоў пяці,*
*казаў: "Зімою грэцца будзем*
*і чай духмяны кіпяціць".*

*І я тады, пяцігадовы,*
*з тых слоў бацькоўскіх радасць меў.*
*Каб усцяшацца грубкай новай,*
*улетку марыў аб зіме.*

* * *

*Птаства пасвісты і перасвісты*
*абвясцілі, што лета прыйшло.*
*Я праходзіў па кладачцы хісткай*
*над рачулкай празрыстай, як шкло.*

*Паглядзеў, прыпыніўся на момант,*
*паланёны рачной чысцінёй.*
*Маладога вярбоўніку гоман*
*запрашаў пад вярбінкі ў цянёк.*

*Як было мне ў цяньку не прысесці*
*пры вадзіцы — жывым крышталі*
*і на тым мілым погляду месцы*
*прахалодай душу наталіць?*

*Там мяне невядомая сіла*
*(чым яе, як яе назавеш?)*
*на прыгожыя думкі натхніла,*
*што звязаліся потым у верш.*

# Калі гара не ідзе да Магамета…

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
Фота Кастуся Дробава

**У першыя цёплыя дні прывабіла вока, што побач з латкамі з бліскучымі цацкамі ў парку імя Горкага з'явіўся шапік "Белкнігі". Каляровыя тэнты гэтай кнігагандлёвай сеткі вы абавязкова сустрэнеце і побач з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, і ў парку Янкі Купалы, і ў іншых раёнах сталіцы падчас гарадскіх і рэспубліканскіх свят. "Белкніга" ахвотна адгукаецца на запрашэнні ўдзельнічаць у розных акцыях.**
**У Цэнтральным дзіцячым парку бываюць часта: у мінулым годзе ўдзельнічалі ў Рэспубліканскім фестывалі рамёстваў "Веснавы букет", мерапрыемствах, прысвечаных Міжнароднаму дню дзяцінства. Што тычыцца ўласнай ініцыятывы, ААТ "Белкніга" выязны гандаль традыцыйна пачынае з апошніх дзён красавіка. Пра гэта наша гутарка з вядучым маркетолагам ААТ "Белкніга" Кацярынай Сіман.**

**— Наколькі прыбытковы такі кнігагандаль?**

— Праведзены намі аналіз вынікаў сезоннага гандлю за межамі крам (супастаўляліся вынікі фінансавага паказчыка з затратамі часу і чалавечых рэсурсаў) філіялаў ААТ "Белкніга" за апошнія гады паказаў, што пакінуць кнігагандлёвыя павільёны каля філіялаў "Центральный книжный магазин" і "Книги & книжечки" мэтазгодна. На галоўным праспекце сталіцы знаходзяцца офісы многіх арганізацый і кампаній, летам у абедзенны перапынак людзі ахвотна набываюць кнігі ў павільёнах. Самы высокі працэнт продажаў прыпадае на канец жніўня – пачатак верасня, калі людзі рыхтуюцца да пачатку навучальнага года. Кожны год розныя філіялы ААТ "Белкніга" эфектыўна ўдзельнічаюць у кірмашы "Прывітанне, школа!", які праводзіцца ля Палаца спорта.

**— Дзе ахвотней набываюць кнігі? Якія новыя зоны сустрэчы чытача і кнігі яшчэ не задзейнічаны?**

— Прыбытак выязной кнігагандлёвай кропкі залежыць ад месца, адведзенага ёй на тэрыторыі арганізацыі, якая нас запрасіла, а таксама ад таго, наколькі інфармаваны яе супрацоўнікі. Каб была зразумелай сутнасць выязнога гандлю і метады яго арганізацыі, спынюся на канкрэтных прыкладах.

Кнігарня "Медицинская книга" — адзін з нашых філіялаў. На сайце Міністэрства аховы здароўя краіны ў пачатку кожнага года размяшчаецца інфармацыя пра плануемыя семінары і канферэнцыі медработнікаў (дзе будуць праходзіць і нават колькасць удзельнікаў). Мы звязваемся з арганізатарамі мерапрыемства і праводзім перамовы. Не заўсёды, дарэчы, вынік станоўчы. Кіраўніцтва ўстаноў іншым часам не разумее: сёння нельга чакаць, калі чытач дойдзе да кнігі, трэба самім актыўна яе прапагандаваць.

Іншы прыклад: упраўленне ідэалагічнай работы ААТ "Інтэграл" не толькі з захапленнем адгукнулася на нашу прапанову арганізаваць гандаль друкаванай прадукцыяй шырокага спектру, але і інфармавала работнікаў пра акцыю праз заводскія радыёвузел і газету. Надалей дамовіліся (раз на месяц) публікаваць на старонках газеты інфармацыю пра кніжныя навінкі, што паступалі ў бліжэйшую краму нашай сеткі "Живые буквы".



У выніку такія акцыі могуць перарасці ў пастаяннае супрацоўніцтва.

Варта назваць некалькі форумаў, якія не абмінула сваёй увагай "Белкніга": Чацвёрты Усебеларускі народны сход, сход Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, гарадскі семінар кіраўнікоў музеяў устаноў адукацыі, шэраг канферэнцый… Ганарымся пастаянным удзелам у Дні беларускага пісьменства. У гэтым годзе рыхтуем пашыраную выстаўку-продаж на "Дажынках" у Маладзечне.

**— Як фарміруецца асартымент спецыялізаванай літаратуры для абслугоўвання семінараў спецыялістаў?**

— У першую чаргу зыходзім з тэматыкі мерапрыемства. І канечне, арыентуемся на патэнцыяльнага пакупніка. Да анкалагічнага семінара ў рамках міжнародна-практычнай канферэнцыі студэнтаў і маладых вучоных "Актуальныя праблемы сучаснай медыцыны" кансультаваліся з арганізатарамі. Медыкі параілі апрача падручнікаў па анкалогіі ўзяць дапаможнікі па хірургіі, гастраэнтэралогіі, эндакрыналогіі, гематалогіі.

Калі едзем абслугоўваць дзіцячую ўстанову, улічваем, што хлопчыкі і дзяўчынкі будуць рознага ўзросту, і не заўсёды іх выбар засяродзіцца на кніжцы. Магчыма, яны захочуць набыць размалёўку ці проста альбом і набор алоўкаў. З дзецьмі будуць і бацькі, якім мы прадастаўляем магчымасць набыць развіваючую гульню ці які-небудзь дапаможнік для дзіцяці. І для сябе — літаратуру для правядзення вольнага часу, даведачную, мастацкую літаратуру.

Асартымент для ўдзелу ў міжнародных канферэнцыях абавязкова ўключае кнігі па гісторыі і культуры Беларусі, фотаальбомы з беларускімі краявідамі, сувеніры.

**— Ці можа паскардзіцца кнігагандаль на недахоп прафесійных кадраў? Дзе і хто рыхтуе будучых кнігагандляроў?**

— Галоўнае ў кнігагандлі — каб пакупнік быў задаволены абслугоўваннем. Нягледзячы на тое, што значную частку сярод гандлёвых метадаў займае самаабслугоўванне, роля гандляра не памяншаецца — не кожны пакупнік здольны выбраць, параўнаць і ацаніць вялікую колькасць прапануемай літаратуры. Супрацоўнік кнігарні павінен быць у першую чаргу спецыялістам кніжнай справы, гэта значыць разбірацца ў асартыменце тавараў і ў псіхалогіі пакупніка. Ён павінен даць інфармацыю пра наяўны асартымент і нават змест асобных выданняў. Калі патрэбная кніга адсутнічае, менавіта ён можа дапамагчы зрабіць заказ, запрасіць пакупніка прыйсці яшчэ раз. У сетцы ААТ "Белкніга" спрыяем кар'ернаму росту ўласных супрацоўнікаў, якія прадэманстравалі адказнае і кампетэнтнае выкананне абавязкаў. Таму працэнт выпадковых людзей невялікі. Практычна ўсе супрацоўнікі кнігарань — выпускнікі Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа паліграфіі імя В. Харужай. Ёсць і філолагі, і выпускнікі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**— Якія вы як маркетолаг бачыце перспектывы кнігагандлю?**

— Апошнім часам кнігараспаўсюджвальнікі б'юць трывогу з нагоды крызісу кніжнага рынку. Хвалюе і нізкая спажывецкая здольнасць. У гэтай сітуацыі асабліва значэнне набывае такі аспект, як прасоўванне друкаванай прадукцыі. Даводзіцца ўлічваць шмат фактараў, якія ўплываюць на попыт, спажывецкую здольнасць, палітыку збыту прадпрыемства. Трэба выкарыстоўваць усе магчымыя інструменты — ад маркетынгавых даследаванняў да электронных баз дадзеных і Інтэрнэта, вынаходзіць новыя формы дзейнасці з улікам сучасных тэхналогій. Распрацоўваюцца новыя фарматы кнігарань, аб'ядноўваюцца выдавецкія і кнігагандлёвыя арганізацыі.

На Захадзе некаторыя кнігі можна набыць нават праз аўтамат – белетрыстыку кішэннага фармату ці танныя даведнікі і вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў. Не трэба пакідаць па-за ўвагай і такі спосаб продажу літаратуры — хоць і дастаткова абмежаванага асартыменту.

Айчынным кнігагандлярам і выдаўцам варта аб'яднацца ў прасоўванні кніжнага асартыменту: выдаваць і распаўсюджваць бясплатныя каталогі кніжнай прадукцыі, укладаючы іх у кнігі, газеты і часопісы. Часцей праводзіць літаратурныя конкурсы і гульні, папулярныя і ў моладзі, і ў прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Можна прапаноўваць купоны латарэі да кожнай кнігі ці некаторых выданняў. Такія прыёмы будуць прыцягваць пакупнікоў у кніжныя крамы. На мой погляд, трэба дэталёва вывучыць накапляльную сістэму скідак з выкарыстаннем картак. У патэнцыяльнага пакупніка будзе магчымасць набыць больш кніг і перадаваць картку сябрам і знаёмым. Падарункавыя сертыфікаты, удзел "зорак" у рэкламных акцыях, правядзенне сумесных мерапрыемстваў з фірмамі іншых сфер — усё гэта трэба вывучаць і ўводзіць у кніжны гандаль.

Не трэба забывацца і пра Інтэрнэт — лёгкі выхад на міжнародны рынак, аператыўнасць размяшчэння і абнаўлення інфармацыі.

## *Прэзентацыя*

# Чалавек, які вярнуў танец

Вольга НОРЫНА,
фота Сяргея Анцуха

У выдавецтве "Чатыры чвэрці" ўбачыла свет кніга "Хто, калі не я", прысвечаная 60-годдзю Міколы Козенкі. Вядомы дзеяч беларускай культуры, этнограф, даследчык харэаграфічнай спадчыны беларусаў, аўтар шматлікіх публікацый па праблемах аўтэнтычнага фальклору і аматарскай харэаграфічнай творчасці, мастацкі кіраўнік і рэжысёр фестываляў "Беларуская полька" і "Берагіня" — вось няпоўны пералік таго, што можна сказаць пра чалавека, які распачаў на Беларусі "харэаграфічную рэвалюцыю".

Намаганнямі Міколы Аляксеевіча і яго паплечнікаў зроблена ўсё, каб не перарваўся ланцужок перадачы каранёвай харэаграфічнай культуры беларусаў ад старэйшага пакалення наступным. Дзякуючы яму ў рэпертуары многіх сучасных аматарскіх танцавальных калектываў кароннымі нумарамі сталі побытавыя танцы, мясцовыя асаблівасці якіх вывучаны дасканальна. Пра чалавека, які столькі зрабіў для захавання нематэрыяльнай спадчыны, на старонках гэтага выдання расказваюць прафесар культуралогіі Аляксей Рагуля, старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, сябры, вучні, аднадумцы. У кнігу ўвайшлі выбраныя артыкулы М. Козенкі, прысвечаныя танцавальнаму фальклору беларусаў, пералік яго публікацый, навукова-даследчых і практычных прац, радавод. Выданне багата ілюстравана фотаздымкамі з сямейнага архіва. Знойдуцца сярод ілюстрацый і ноты народных песень, і схемы старажытных танцаў. Думаецца, кніга пойдзе на карысць усім, хто цікавіцца народным мастацтвам і гісторыяй.

Укладальнік навукова-папулярнага выдання, выдадзенага пры падтрымцы Мінскага гарадскога камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, загадчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вячаслаў Калацэй адзначыў: "Кніга падрабязна адлюстроўвае жыццёвы і творчы шлях гэтага чалавека. Яго асоба заўсёды прывабная і прыцягальная для многіх людзей, таму што ён чалавек справы. Тое, пра што іншыя толькі мараць ды праектуюць, ён паспяхова здзяйсняе. Дзякуючы яму побытавы танец Беларусі зноў вярнуўся ў наша жыццё. Ім цікавяцца і дарослыя, і моладзь".



Сам юбіляр упэўнены: "Трэба выдаваць падрабязныя біяграфіі не толькі артыстаў балета і акцёраў кіно. Кожнаму, хто ўсё жыццё працуе на ніве культуры, трэба казаць "дзякуй" пры жыцці".

*Scripta manent*

# Евангелле са скрыні для вугалю

Алесь СУША,
вучоны сакратар
Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Беларусь — не толькі краіна замкаў, край, дзе цудоўна захавалася аўтэнтычная песенная і танцавальная традыцыя, дзе дасягнула росквіту рыцарская, гарадская і манастырская культура. Гэта яшчэ і краіна кніг.**
**Кніжная культура Беларусі вызначаецца даўнасцю і надзвычайным багаццем. У манастырскіх скрыпторыях кнігі перапісваліся яшчэ з XI стагоддзя. Больш ранніх кірылічных кніг усходнеславянскі свет не ведае.**
**Аднак калі замкі, цэрквы ды касцёлы заўсёды навідавоку, а вусная народная творчасць жыве, пакуль жыве народ, то багацце кніжнай спадчыны вядомае далёка не кожнаму. Мала хто з беларусаў меў магчымасць пабачыць і патрымаць у руках найбольш раннія беларускія рукапісы або першыя беларускія друкаваныя выданні.**

Яшчэ з XIX стагоддзя нашы продкі пачалі рабіць факсімільныя перавыданні найбольш значных помнікаў кніжнай культуры Беларусі — каб кожны ахвотны мог атрымаць даволі поўнае ўяўленне пра іх. Прычым выпуск факсіміле пачаўся, што вельмі разумна, з самых старажытных кніжных помнікаў айчыннай культуры.

Адным з такіх "першапомнікаў" было Тураўскае евангелле — усяго 10 невялікіх аркушаў, на якіх захаваўся фрагмент кнігі Новага Запавету XI стагоддзя. Евангелле напісана на царкоўнаславянскай мове карычневым чарнілам. Матэрыялам быў добра апрацаваны шчыльны пергамент (вырабляўся з недублёнай скуры жывёл). Тэкст у той час пісаўся так званым устаўным — выразным почыркам з вялікімі геаметрычна правільнымі літарамі, якія ішлі, пераважна, у адзін радок без нахілу і падзяляліся невялікімі інтэрваламі. Інтэрвалаў паміж словамі тады яшчэ не было, знакі прыпынку не выкарыстоўваліся, не практыкавалася і напісанне асобных слоў з вялікай літары. На захаваных аркушах Тураўскага евангелля маюцца даволі цікавыя элементы мастацкай аздобы: кінаварныя і чарнільныя контурныя загалоўкі, вялікія вынесеныя на палі ініцыялы, прамаляваныя чарнілами і размаляваныя чырвонай, зялёнай і сіняй фарбамі.

Евангелле было адшуканае М. Сакаловым у 1865 г. (нібыта ў скрыні для вугалю) у старажытным беларускім горадзе Тураве. Са знаходкай азнаёміліся вядомыя пецярбургскія даследчыкі-археографы І. Сразнеўскі і А. Бычкоў, якія прааналізавалі матэрыял, мову, характар пісьма і мастацкай аздобы рукапісу і датавалі яго XI стагоддзем. Ужо праз тры гады пасля таго, як рукапіс быў знойдзены, на сродкі Віленскай навучальнай акругі ў Пецярбургу выйшла каляровае літаграфічнае (літаграфія — гравюра на камені) выданне Тураўскага евангелля — па сутнасці факсімільнае ўзнаўленне старажытнага помніка. А яшчэ праз год у Вільні пабачыла свет выданне тэксту Тураўскага евангелля ў суправаджэнні каментарыяў П. Гільтэбранта.



Цікава, што Тураўскае евангелле апрача евангельскага тэксту XI стагоддзя ўтрымлівае таксама пазнакі пачатку XVI стагоддзя са звесткамі пра Тураў, тураўскіх святароў, вядомага князя Канстанціна Астрожскага і яго сям'ю, а таксама запісы XVIII стагоддзя аб пацвярджэнні царкоўных уладанняў.

Трэба сказаць, што амаль адразу пасля таго, як арыгінал Тураўскага евангелля быў знойдзены, рукапіс паступіў у зборы Віленскай публічнай бібліятэкі і захоўваецца ў Вільні да сённяшняга дня (цяпер у фондах Бібліятэкі Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы). У XIX стагоддзі Вільня была цэнтрам Паўночна-Заходняга краю, таму зразумела, што менавіта туды былі перавезены гэты кніжны помнік. Сёння ж далёка не кожны беларус можа пабачыць Тураўскае евангелле на ўласныя вочы. Нават спецыялісты, у пераважнай большасці, дагэтуль карыстаюцца факсімільным выданнем і публікацыяй тэксту, якія былі зроблены ў XIX стагоддзі і ўжо самі сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Нават вялікая праца "Тураў. Тураўскае евангелле" (Мінск, 2004) уключае віды не арыгінальных старонак Тураўскага евангелля, а старонак літаграфічнага выдання 1868 г. І гэта пры тым, што першае выданне па тэхнічных прычынах не магло паўнавартасна перадаць колеравыя асаблівасці арыгінала, а таксама ўтрымлівала памылкі ў нумараванні старонак.

Прыспеў ужо час узяцца за сапраўды якаснае факсімільнае перавыданне гэтага помніка кніжнай культуры. Нацыянальная бібліятэка Беларусі пачала распрацоўку гэтага пытання, і Тураўскае евангелле адным з першых увайшло ў Рэестр кніжных помнікаў Беларусі, якія патрабуюць вывучэння, алічбоўкі, факсімільнага ўзнаўлення і ўключэння ў склад ствараемай Нацыянальнай электроннай бібліятэкі Беларусі.

***На здымку:** старонка Тураўскага евангелля. Копія з літаграфічнага выдання 1868 г.*

*З нагоды*

# Крыніца радзімазнаўчых ведаў

Кастусь ЛАДУЦЬКА

**У Гродзенскай гарадской гімназіі адбылася прэзентацыя кнігі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, галоўнага рэдактара часопіса "Вясёлка" Уладзіміра Ліпскага "Вясёлка над Нёманам", што выдадзена ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Праект выдання рэалізаваны пад патранатам упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама і асабіста яго начальніка Аляксандра Сягодніка.**

За некалькі дзён перад імпрэзай усім вучням чацвёртых класаў вобласці быў уручаны асобнік "Вясёлкі над Нёманам", выдання, у якім раскрыта гісторыя ўсіх рэгіёнаў краю. Да ўдзелу ў прэзентацыі, на якую прыехаў і аўтар, былі запрошаны госці не выпадкова. З уступным словам да зборніка выступіў старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра. Пра тое, як ствараўся кніга, распавёў яе аўтар У. Ліпскі:

— Кніга задумвалася як падрабязны расповед пра розныя рэгіёны Гродзеншчыны. І, як мне падаецца, задача гэтая выканана. Я пабываў ва ўсіх раёнах вобласці. Праца была надзвычай захапляльнай. Давялося сустрэцца з многімі цікавымі людзьмі. Убачыў на свае вочы сапраўдныя цуды зямлі беларускай. Асабліва ўразіла мяне Беравставіччына. Здавалася, маленькі куточак Гродзеншчыны, а колькі тут усяго сабрана! Удзячны гродзенцам, кіраўніцтву аблвыканкама, асабіста Сямёну Барысавічу за падтрымку ў рэалізацыі гэтага клопату. Веру, што кніга стане добрым радзімазнаўчым дапаможнікам для ўсіх школьнікаў вобласці.



На прэзентацыі аўтара кнігі віталі намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Ігар Жук, начальнік упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Сягоднік, дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага Лідзія Мальцава. У адзін голас выступоўцы гаварылі пра вартасці гісторыка-краязнаўчай літаратуры, пра тое, што менавіта юнаму чытачу ў першую чаргу трэба ў папулярнай, даступнай форме даносіць веды пра нашых папярэднікаў, пра падзеі, якія адбываліся ў краіне ўчора, у мінулыя стагоддзі.

Дарэчы, і пра гэта гаварыў на прэзентацыі Аляксандр Сягоднік, у кнізе "Вясёлка над Нёманам" можа быць і праця. Яго павінны напісаць ужо школьнікі, якія цікавяцца гісторыяй, жадаюць адкрыць нешта новае і расказаць пра гэта сваім сябрам, настаўнікам, блізкім людзям і ўсяму свету. Кожная вёска, кожнае паселішча, кожная гарадская вуліца, замкі, старажытныя сядзібы, азёры і рэкі, паданні і легенды, звязаныя з імі, — хіба гэта не гісторыя, вартая ўшанавання і занатоўвання?! Тыя вопляскі, тыя шчаслівыя ўсмешкі, што падаравалі школьнікі аўтару кнігі, руплівасць, з якой яны працякаліся да Уладзіміра Ліпскага за аўтографамі, пераконваюць: прастора радзімазнаўства будзе і надалей шырыцца на Гродзеншчыне.

*У падтрымку чытання*

## Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч:

# Прапагандую беларускую літаратуру

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава



Я чытаю творы ўсіх беларускіх паэтаў і празаікаў. З ранніх год чытаю. Калі паступала ў тэатральны інстытут, многа чытала Максіма Танка, свайго земляка. Не буду маніць, што засынала з кнігай пад падушкай. Але для мяне заўсёды была падтрымка духоўная — наша беларуская літаратура. Я з ёй сябрую, я яе люблю, прапагандую, пастаянна чытаю. З апошніх кніг, якія прачытаны, назаву творы Янкі Сіпакова "Зялёны лісток на планеце Зямля", Сяргея Давідовіча "Выбранае". За кніжнымі навінкамі сачу. Не заўсёды атрымліваецца пазнаёміцца з імі адразу, як выйдуць, са спазненнем іншы раз, але стараюся прачытаць усё.

*Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● Да 11 ліпеня ў зале дакументаў міжнародных арганізацый Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі працуе выстаўка "Сусветны акіян: праблемы вывучэння, асваення і выкарыстання рэсурсаў", прысвечаная Сусветнаму дню акіянаў (з 2009 года адзначаецца 8 чэрвеня). Дакументы, прадстаўленыя на выстаўцы, пазнаёмяць наведвальнікаў з міжнароднай сістэмай мер і правілаў, накіраваных на забеспячэнне бяспекі судаходства і ахову марскога асяроддзя, а таксама з дзейнасцю Міжнароднай марской арганізацыі. Экспазіцыя налічвае каля 60 дакументаў: кнігі, брашуры, перыядычныя выданні. Большую частку выстаўкі складаюць дакументы міжнародных арганізацый на рускай, англійскай і французскай мовах.

— У Цэнтральным дзіцячым парку імя Максіма Горкага прайшла акцыя "Чытай — сталіца!", што была прымеркавана да Дня абароны дзяцей, арганізавана з мэтай прарэкламаваць бібліятэкі сталіцы і прывабіць дзяцей да чытання. У якасці ініцыятара акцыі выступіла Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г. Мінска. Супрацоўнікі 18 дзіцячых бібліятэк правялі флэшмоб (сумесна з выдавецтвам "Росчерк"), конкурс "Вершапад", рухомыя гульні — скок-шоу "Ад вясёлага бібліявусеня". У межах акцыі прайшла і гадзіна вясёлых паведамленняў "Пачытаем, пагуляем" па кнізе М. Пазнякова "Гульнясloў".

● У некаторых публічных бібліятэках Вялікабрытаніі для падлеткавых чытацкіх груп арганізуецца незвычайнае мерапрыемства, што карыстаецца нязменным поспехам і прываблівае новых карыстальнікаў. Гэта "Разбуральнікі бібліятэчных міфаў". Падчас правядзення эксперыменту невялікія каманды падлеткаў вывучаюць розныя бібліятэчныя міфы, а потым дзеляцца сваімі адкрыццямі з іншымі сябрамі чытацкіх груп. Калі ёсць дазвол, можна зняць фільм пра роздумы падлеткаў па вызначаным пытанні і дэманстраваць яго ў час зімніх ці летніх канікулаў.

— У Італіі пад эгідай ЮНЕСКА прайшоў другі Сусветны форум FOCUS, на якім больш як 200 спецыялістаў з 40 краін свету прапанавалі свае баччанне і магчымыя варыянты рашэння праблем, што сталі актуальнымі ў сувязі з ростам папулярнасці лічбавага кантэнту. FOCUS ладзіцца з мэтай абмеркавання актуальных пытанняў і распрацоўкі інавацыйных рашэнняў. На гэты раз форум быў прысвечаны праблемам кніжнай галіны і меў назву "Кніга заўтрашняга дня, будучыня друкаванага слова".

● Лаўрэатам расійскай літаратурнай прэміі "Национальный бестселлер" стаў пісьменнік Дзмітрый Быкаў. Гэты прыз ён атрымаў за раман "Остромов, или Ученик чародея" — пра літаратуру і масонства ў 1920-я гады, апошнюю частку трылогіі, у якую ўвайшлі кнігі "Оправдание" і "Орфография". У 2006 годзе Дз. Быкаў ужо станавіўся лаўрэатам "Нацбеста" за біяграфічную працу "Борис Пастернак".

— Пабачыў свет чэрвеньскі нумар часопіса "Книжная индустрия". Тэма выпуска: "Электронные рэсурсы для бібліятэк: Новы погляд на дыялектыку колькасці і якасці". Галоўным пытаннем для абмеркавання сталі праблемы, звязаныя са стварэннем якасных электронна-бібліятэчных сістэм. Такая тэма была абрана не выпадкова. Справа ў тым, што сёння работнікі ўніверсітэцкіх бібліятэк заклапочаны нездольнасцю ніводнага з электронных рэсурсаў цалкам задаволіць патрабаванні сур'ёзнай ВНУ. У сувязі з гэтым рэдакцыя "КІ" палічыла неабходным арганізаваць віртуальны "круглы стол", за якім спецыялісты маглі падзяліцца напрацаваным вопытам і выказаць сваё меркаванне па асноўных праблемах доступу да сучасных ведаў у электронным выглядзе.

# «Психо» — значит душа

**В центре изучения большинства гуманитарных наук, безусловно, находится человек. Но именно психология (от слов "психо" — душа и "логос" — наука) пытается разобраться в закономерностях развития психики как особой формы жизнедеятельности. Сегодня мы знакомим читателей "Кніжнага свету" с современными популярными книгами по психологии, вышедшими в ООО "Харвест".**















**Денис МАРТИНОВИЧ,**
**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,**
**Юзефа ВОЛК**

## Влияние разума на тело

Что такое психотерапия? Как считают исследователи, это система лечебного воздействия на психику и через психику — на организм человека. Впервые термин введён в конце XIX века английским врачом Тьюком. В опубликованной им в 1872 году книге "Иллюстрация влияния разума на тело" одна из глав названа "Психотерапия". Этим словом обозначалось терапевтическое действие, которое дух пациента мог иметь в отношении тела пациента благодаря влиянию врача. Книга **"Системы психотерапии"**, написанная **Джеймсом Прохазкой** и **Джоном Норкроссом**, представляет систематизированный, всесторонний обзор ведущих теорий психотерапии, выявляет аналогии между различными подходами, не затушёвывая в то же время их сущностные отличия.

Книга "Системы психотерапии" адресована, в первую очередь, аспирантам и студентам-выпускникам, посещающим вводные курсы психотерапии и консультирования — "Системы психотерапии", "Теории консультирования", "Основы психотерапии" или "Введение в консультирование", а также студентам, изучающим психологию, консультирование, социальную работу и психиатрию. Кроме того, данный труд предназначен для психотерапевтов всех направлений и убеждений, заинтересованных в сравнительном обзоре психотерапии как научной и прикладной дисциплины.

## Реклама — двигатель прогресса?

Тяжело найти человека, который не встречался в своей жизни с рекламой. В паузах между рекламными блоками отдельные зрители даже умудряются посмотреть фильмы. А лучшие рекламные слоганы давно вошли в память. **Лариса Федотова**, автор книги **"Социология рекламной деятельности"**, рассматривает такие направления рекламы, как политическая, социальная и коммерческая. Особое внимание уделено российской рекламе в ситуации зарождения рыночных отношений. Книга является не просто исследованием, а ещё и учебником для студентов вузов, обучающихся по специальностям "Реклама", "Социология", "Журналистика". Цель курса, основой которого является книга, состоит в изучении реального функционирования института рекламы в современном социуме, социологических методов обеспечения этой деятельности и формировании у студентов комплекса знаний по данному направлению. Как считает Л. Федотова, оптимальное усвоение дисциплины возможно на базе знания таких предметов, как "Правовое регулирование рекламной деятельности", "Основы рекламы", "Информационные технологии в рекламе", "Психология рекламной деятельности", "Массовые коммуникации и медиапланирование". Поэтому в приложениях даны буклет Американской ассоциации рекламных агентств, международный кодекс проведения маркетинговых и социологических исследований, вопросы к зачёту и экзамену по всему курсу, примерная тематика рефератов и курсовых работ, а также задания для самостоятельной работы.

## Тест, тест, тест…

Практическое пособие для психиатров, психотерапевтов, психологов **В. В. Драгунского "Цветовой личностный тест"** — замечательное методическое руководство, являющееся одновременно учебником и психодиагностическим инструментом. Тест Люшера, знакомый нам со студенческих времён, основан на том, что выбор человеком определённой цветовой последовательности во всей полноте отражает его эмоционально-чувственную сферу. С помощью этого теста можно с высокой точностью осуществить психологический анализ личности. То есть прояснить ситуацию с другими, а заодно и с собой. Применяя данное пособие, помните: люди не нуждаются в том, чтобы их поучали или разоблачали, они ищут помощи и поддержки.

Книга пригодится также художникам, дизайнерам, специалистам в области рекламы. Ведь, как утверждал известный биолог-эволюционист Э. С. Шноль, по нервным волокнам человеческого организма движется вовсе не электрический импульс, а цветовые потоки: нервное волокно — точный аналог известных современным технологам световодов. Подбирая цвета видеороликов, создатели рекламы, может быть, отучат нас выключать звук телевизоров во время рекламных пауз…

В издании содержится вклейка цветных таблиц и образец бланка тестирования.

## Недомолвка с намёком…

…и прочие уловки, которые успешно применяют манипуляторы при общении, — вот объект исследования книги **"Чёрная риторика по-русски"**. Основная цель издания — обучить широкие массы читательской аудитории способам борьбы с приёмами чёрной риторики, то есть противостоянию психологическому давлению. А это, согласитесь, мощное оружие. Ознакомившись с данной книгой, вы получите чёткую инструкцию по обучению искусству речи и другим навыкам общения, каковое, по словам Рокфеллера, — "товар, который можно купить точно так же, как сахар или кофе". И тогда человек, который говорит: "Я совершенно спокоен" с трясущимися руками и напряжённой спиной, вас в заблуждение уже не введёт, ибо в нашем теле не бывает ничего случайного.

Найдёт читатель в этой книге рекомендации, как вызвать собеседника на откровенный разговор с помощью наводящих вопросов, не совершая при этом типичных ошибок, к которым относятся критика, раздражение, полемика, советы и концентрация внимания на самом себе. Полезными окажутся и главы, посвящённые правильной аргументации и контраргументации. Понравится и глава о манипуляции с простыми доходчивыми примерами. Ваше тренированное ухо сразу услышит, что у вас намеренно вызывают чувство диссонанса, заставляют испытывать вину за что-то, пробуждают стыд или ощущение неполноценности.

Можно ли избежать ловушек манипуляции, обладая природным скепсисом и ничего не зная о технологиях паутины, которую нам расквдывают? Авторы книги утверждают, что природного скепсиса недостаточно — пример тому обычный поход в супермаркет. Скепсис возвращается почему-то только дома, когда мы выгружаем массу на самом деле ненужных вещей.

## Как защитить своё Я?

Анна Фрейд, младшая дочь основателя психоанализа Зигмунда Фрейда, прямой наследник научных мировоззрений отца, считается основоположником детского психоанализа. Она в первую очередь развивала психоаналитические представления о Я, фактически основав неофрейдистское направление в психологии — эго-психологию. Главной её научной заслугой считают разработку теории защитных механизмов человека, с помощью которых Я нивелирует влияние Оно.

Новый подход к психоаналитическому лечению детей, раскрывающий их внутреннюю эмоциональную и интеллектуальную жизнь и значительно объясняющий роль агрессии, изложен в книге **Анны Фрейд "Эго и механизмы психологической защиты"**, которая вышла в серии "Психология — лучшее". Данное издание посвящено конкретной проблеме, а именно обсуждению тех средств, с помощью которых эго защищает себя от отвращения и страха и пытается обуздывать импульсивное поведение, аффекты и влечения.

Впервые книга увидела свет в 1937 году и стала настоящей новостью для психоаналитиков. В 1975 году научный труд был переиздан, но, несмотря на то, что за тридцать восемь лет исследования автором были раскрыты новые аспекты изучения проблемы, текст опубликован без каких-либо изменений. Новые данные Анна Фрейд изложила уже в своей следующей книге. Поэтому и сегодня читатель, держа в руках современное издание, имеет возможность ознакомиться с первоначальным текстом исследования 1937 года.

## Жизнь как сон

Однажды китайскому философу Чжуан-цзы приснилось, что он стал мотыльком. И, проснувшись, он уже не знал, кто он: Цзы, видевший во сне, будто он стал мотыльком, или мотылёк, которому снится, что он Чжуан-цзы.

Уравнение сна и реальности в китайской философии даосизма играет важную роль: к жизни следует относиться как ко сну, но и ко сну тоже нужно относиться как к реальности. И китайские философы как всегда правы, ведь во сне мы проводим треть жизни. От того, как долго мы спим, в каком настроении засыпаем и с какими мыслями просыпаемся, часто зависит наше здоровье и благополучие в делах. Но, оказывается, сон может сигнализировать нам о болезнях, может помочь выйти из сложной ситуации и решить многие проблемы. Нужно только уметь к нему прислушиваться. Именно этому вас научит книга **Светланы Кузиной "Сны врут! Понимаем сны — понимаем себя"**.

Основанное на последних исследованиях в области изучения закономерностей сна, издание поможет улучшить память, предупредить болезни, распознать ваши истинные желания и намерения. Книга позволит заглянуть в подсознание других людей через толкование их снов, подскажет, как избавить детей от тревожных снов и кошмаров, расскажет о принципах и закономерностях толкования сновидений. Кроме того, книга содержит универсальный сонник (с поучением, каким снам и каким из разнообразных толкований верить), удивительные рассказы о вещих сновидениях, советы, как правильно спать, чтобы выспаться.



Кастусь ЛАДУЦЬКА

# Прыгажосць без межаў



**Філіпповіч Т.** *Падарожжа па ашмянскаму краю = A Journey about the Land of Ashmiany/ Тамара Філіпповіч. — Мінск: Конфидо, 2010. — 156 с.*

Вось якім уступным словам пачынае для чытача і гледача (бо адкрыццё адбываецца менавіта праз сімпатычны фотаальбом) знаёмства з Ашмянскай старонкай Тамара Філіпповіч — руплівы арганізатар вытворчасці, вядомы на Гродзеншчыне і ў Беларусі грамадскі дзеяч, майстар фатаграфічнай справы і проста ўлюбёны ў родны край чалавек: "…тут жывуць працавітыя, талерантныя, мірныя людзі, якія стараюцца захаваць свае традыцыі і сваю самабытную культуру. Магчыма, менавіта таму мяне вельмі цікавіць гісторыя краю, дзе праляцела значная частка майго жыцця, мяне захапляюць яго цудоўныя краявіды". І далей: "Праз стагоддзі мяняліся межы паветаў, раёнаў. Але не важна, дзе праходзяць зараз адміністрацыйныя граніцы, у якім раёне знаходзіцца той ці іншы помнік гісторыі або архітэктуры. Для нас гэта частка Беларусі — цікавая і непаўторная. Вакол нас чароўная прырода, і шкада, што за штодзённымі клопатамі мы не заўсёды бачым яе прыгажосць.

Спадзяюся, што кароткія гістарычныя спасылкі ў гэтай кнізе заахвоцяць многіх да больш глыбокага вывучэння свайго краю.

Запрашаю разам рушыць у падарожжа па прыгожых і багатых на гісторыю пуцявінах невялікай часткі нашай Радзімы".

Прымаем запрашэнне, Тамара Уладзіміраўна, і крочым далей разам з вамі, з вашым фатаграфічным угляданнем у Ашмяншчыну…

Была на адкрыцці першых старонак фотаальбома "Падарожжа па Ашмянскаму краю", прызнацца, некаторая асцярога: "А ці тую, знаёмую мне з ранейшага гісторыка-краязнаўчага асэнсавання, Ашмяншчыну ўбачу я ў новым выданні?.." Быў жа час — і я стараўся агледзець гэты край. Меў шмат для таго памагатых — і ашмянцаў, і жыхароў суседніх з Ашмянамі, Ашмянскім раёнам ваколіц. Шукаў і ўважліва слухаў. А сёе-тое з кніг, старых перыёдык пачэрпнутае — і зараз месціцца ў асобных блакнотах, сшытках, якія ці не заўжды навідавоку. І папкі з лістамі па ашмянскай тэме — асобным стосікам. А яшчэ — і некаторыя кнігі. Пра Ашмяны і ашмянцаў, проста кнігі, ашмянцамі напісаныя і да шырокага свету даведзеныя… Зірнуў на панараму цэнтра Ашмян, што заняла адзін з першых альбомных разваротаў, — і ўспомніў паэта і перакладчыка Пятра Бітэля. Нараджэннем з воранаўскага мястэчка Радунь, ён вучыўся на Ашмяншчыне, у Барунскай польскай настаўніцкай семінарыі, якая стваралася Сымонам Рак-Міхайлоўскім як беларуская. Мне пашчасціла крыху ведаць Пятра Іванавіча, ліставацца з ім. Ад яго і пра Баруны як старое і слыннае паселішча пачуў. Ужо пазней прачытаў у кнізе Міхася Казлоўскага "Галасы разбуджаных птушак" пра Барунскую семінарыю часоў вучобы Пятра Бітэля: "…У яе сценах яшчэ жывуць успаміны пра беларускіх настаўнікаў, Беларусь. Але новыя польскія выкладчыкі настойліва "раяць" пазбаўляцца такіх думак, больш дбаць пра "Polsku kachany", і што самае дзіўнае, сярод іх знаходзіцца і сын бацькі беларускага адраджэння Ф. Багушэвіча Тамаш, які гаворыць, што бацька яго памыляўся і не быў тым, за каго лічаць яго беларусы…" Але перагортваю яшчэ некалькі разваротаў, паступова ўнікаю ў інтанацыю, духоўны стрыжань, што паяднoўвае, здавалася б, асобныя фатаграфічныя выявы — і пранікаюся ўсведамленнем еднасці з ашмянскай старонкай, з тым краем, які адкрывае мне фотамастак і ўважлівы да жыцця ў розных яго праявах радзімазнаўца Тамара Філіпповіч.

"У першай палове XV ст. адбыўся падзел Ашмяны на Старую і Новую (многія мясцовыя жыхары і зараз называюць свой горад так, як ён зваўся ў старажытнасці — Ашмяна, з націскам на апошнім складзе), — чытаю ў альбоме на старонках, што знаёмяць з горадам. — Новая Ашмяна пачала будавацца за некалькі кіламетраў ад Старой, якая перайшла ў спадчыну Аляксандру Ягелончыку. Ён і паставіў там для ордэна францішканцаў касцёл, ад якога да сённяшняга дня захаваліся адны сцены…" Спалучаючы сучасны фотапогляд на горад, асобныя яго аб'екты, Тамара Уладзіміраўна дазваляе зазірнуць у даўніну, знаёміць са старымі выявамі — напрыклад, са здымкамі і малюнкамі канца XIX ст. Параўнанні, магчымасць глыбей угледзецца ў даўніну заўсёды прыносяць іншыя, болей багатыя эмоцыі. Так і ў выпадку з адкрыццём Ашмян і іншых паселішчаў.



Касцёл Яна Хрысціцеля, вёска Гальшаны.

Тое, што робіць Тамара Філіпповіч як фотамастак, я назваў бы краязнаўча-турыстычнай фатаграфіяй. Архітэктурныя аб'екты, прыродны ландшафт выяўляюцца ў яе працах з адчувальным жаданнем паказаць адметнасці краю, асаблівасці, якія павінны, абавязаны прыцягнуць шырокую ўвагу, зрабіцца доказнымі ілюстрацыйнымі аргументамі ў распаведзе пра незвычайны характар Ашмяншчыны. Відаць па ўсім, што фатаграфічнаму рашэнню, калі націскаць на кнопку, каб зафіксаваць у вечнасці мімалётную праяву гістарычнай і прыроднай прыгажосці, у Тамары Уладзіміраўны спрые не толькі думка, але і сардэчнае рашэнне, што той ці іншы кадр будзе выглядаць найлепей. Месцамі здаецца, што параўнанне жывапісных твораў і фатаграфій Ашмянскай старонкі з альбома Філіпповіч на карысць адназначна здымку.

…З Ашмян мы выбіраемся ў Гальшаны. Рэшткі Гальшанскага замка — і смутак, і журба, і напамін пра колішнюю велічнасць. Поруч са здымкамі — план Гальшанскага палаца ў рэканструкцыі Д. Бубноўскага. Лірычным, эмацыйным аўтарскім эсэ падаецца трыпціх на адным з разваротаў, дзе расказваецца пра драўляны млын. Так, фотамастаку дапамагае пэўны гістарычны ландшафт, сама прырода. Але ж і на маёй памяці — многія сустрэчы з тым самым млыном, ды толькі гэтулькі перажыванняў, уражанняў яны не далі, колькі эмоцый пакінулі здымкі млына, рачулкі, дрэў ля Гальшанкі… Пачатак у ракі, якую яшчэ на працягу яе 60 кіламетраў завуць і Альшанкай, і Вішнёўкай, і Жыгянкай, і Лускай, — ля ашмянскай вёскі Людвікаўшчына. А тут, ля Гальшан, рака падаецца асабліва трапяткой. І гэта ўсё — на здымках, у гульні цячэння з сонцам і гарачым вятрыскам… Краязнаўча-турыстычная фатаграфія Тамары Філіпповіч — напамін пра многія часы і падзеі. Ля ўезда ў Баруны стаіць помнік экіпажу самалёта "Ілля Мурамец", які ў Першую імперыялістычную вайну здзейсніў тут подзвіг. Барунскі касцёл святых Пятра і Паўла, будынак школы базыльян… Усё гэта — пра Баруны. Сказана яркай выявай і лаканічным тэкстам.



Царква Святога Георгія, вёска Лоск.

Старонка за старонкай гартаючы альбом, я выпрацаваў і свой уласны турыстычны маршрут па Ашмяншчыне. Кропкі, дзе буду спыняцца ў заўтрашняй сваёй дарозе, ужо абазначаны фатаграфічнымі выявамі. Бянюны, валожынскі Лоск, не міну і сам Валожын, Багданава, Трабы, Жамыслаўль, Ліпнішкі, Іўе… У вандроўках па гэтых мясцінах не лішнім будзе згадаць імёны многіх славутых ураджэнцаў краю. Са згаданых неаднойчы Баруноў — грамадскі дзеяч, гісторык, аўтар успамінаў "Справы і людзі КПЗБ" Мікалай Арэхва. У Гальшанах нарадзіўся яўрэйскі журналіст, псіхолаг, аўтар кнігі "Падарожжа па СССР" Бен Цыён Гольдберг. З Жупранаў — беларускі гісторык Браніслаў Залескі. Навасады — радзіма паэта і каталіцкага святара Андрэя Зязюлі. У Ашмянах нарадзіўся мастак Юльян Карчэўскі, з Балванішак — беларускі, грэчаскі, польскі грамадскі дзеяч Зыгмунт Мінейка… Агароднікі — радзіма польскага паэта Мар'яна Нікадона… Сугучча культур раскрываецца праз розныя лёсы ашмянскіх людзей. Адчувальна гэтае сугучча і ў фатаграфічным альбоме Тамары Філіпповіч. Зроблены з цеплынёй, ён з'яўляецца сапраўдным падарункам усім, хто жыве і працуе на Ашмяншчыне. Гартаць старонкі прыкметнага краязнаўчага альбома — асалода і задавальненне для сэрца і душы. Кніга можа быць і вартым дапаможнікам у школьным вывучэнні гісторыі, геаграфіі і нават літаратуры нашай Айчыны.

# Для турыстаў і вандроўнікаў

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі "Турыстычная мазаіка Беларусі", якая выйшла ў выдавецкім доме "Беларуская навука". Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.**

Пытанні развіцця турыстычнай галіны з'яўляюцца прыярытэтнымі для любой дзяржавы. Беларусь, якая размешчана на зручным шляху паміж Еўропай і Расіяй, не можа быць выключэннем. Таму з'яўленне кнігі "Турыстычная мазаіка Беларусі", напісанай Аляксандрам Лакоткам, Вольгай Князевай, Яўгенам Марозавым і Вольгай Ізотавай, выглядае цалкам лагічным крокам.

Прыемна, што выданне стала не асабістай ініцыятывай аўтараў, а вынікам інавацыйнага праекта, выкананага ў 2006—2008 гадах па замове Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. Інтэлектуальнай пляцоўкай для даследаванняў выступіў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, на базе якога праводзіліся фундаментальныя і прыкладныя даследаванні ў галіне народнага і прафесійнага мастацтва, этнакультурных працэсаў, народна-традыцыйнай культуры, фальклорыстыкі, гісторыка-культурных каштоўнасцей, архітэктуры.

"Турыстычная мазаіка Беларусі" складаецца з раздзелаў, колькасць якіх адпавядае абласцям нашай краіны. Кожная частка ўключае такія падраздзелы, як "Гісторыя фарміравання тэрыторыі", "Асноўныя этапы гісторыі і фарміравання паселішчаў", "Традыцыйная культура", "Промыслы і рамёствы", "Лакальныя раёны комплекснай гісторыка-культурнай спадчыны". Але галоўнае, што кніга змяшчае канцэпцыю развіцця турызму ў краіне на аснове 52 лакальных раёнаў. У іх на аснове існуючых прыродных кампанентаў, помнікаў археалогіі, гісторыі, архітэктуры, народнага дойлідства, этнаграфіі, што захаваліся да нашага часу, а таксама музеяў, прапануюцца найбольш перспектыўныя турыстычныя маршруты (як сухапутныя, так і водныя).

Багата ілюстраванае 640-старонкавае выданне прапануе сваім чытачам рэкамендацыі па захаванні і выкарыстанні аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны малых гарадоў і гістарычных мясцін Беларусі. Яно зможа паспрыяць стварэнню навуковай асновы для дзяржаўнай палітыкі ў галіне захавання і развіцця культурна-гістарычных рэгіёнаў усіх абласцей Беларусі, дазволіць распрацаваць і ўкараніць новыя турыстычныя маршруты, стане карысным для развіцця сельскага турызму, для падрыхтоўкі спецыялістаў у сферы турызму, у практычнай працы экскурсаводаў.

## Мастак і выданне

# Запавет для кніжнага графіка

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Адказваючы на пытанне, якіх запаветаў павінен прытрымлівацца кніжны графік, Ірына Лобан назаве толькі адзін: "Не забі". Не забі кнігу, а ў выніку — чалавечую душу, якая зазірне ў стваранае табой люстэрка свету.**

**Ірына Мікалаеўна — член аб'яднання "Верасень", арганізаванага ў 1989 годзе як таварыства прафесійных мастакоў-адзінадумцаў, мэта якіх — сцвярджаць сваёй творчасцю высокія маральныя і духоўныя агульначалавечыя каштоўнасці.**

### Пра ўзнагароды

А на пытанне пра адзнакі сваёй творчасці адкажа: "Я — двойчы народны мастак". І прыгадае выпадак, калі студэнт пры знаёмстве з ёю выгукнуў: "Дык гэта вы — той самы мастак?!", збегаў за папкай, выцягнуў з яе малюнак, які яму вельмі падабаўся і які захоўваў ва ўласным архіве, раз-пораз разглядаючы. І другі, калі ў музеі, куды завітала з нагоды арганізацыі выстаўкі, прысвечанай бацьку, убачыла адну са сваіх работ у якасці застаўкі на камп'ютары. Запытала, можа, ёй наўмысна захацелі зрабіць прыемнае. Аказалася, не. Карыстальніца проста падабрала сабе ў якасці "шпалер" пяшчотную акварэль, не ведаючы, хто аўтар.

А калі сур'ёзна, Ірына Лобан узнагароджана дыпломамі 1, 2 і 3 ступені ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў "Мастацтва кнігі" за афармленне выданняў "Маленькі прынц", "Таджыкскія народныя казкі".

### Як важна захоўваць дзіцячыя малюнкі

Яна нарадзілася ў Мінску, у сям'і пісьменніка і журналісткі. Бацькі выпісвалі безліч часопісаў і газет. Яе дзіцячыя малюнкі захавалі тагачаснае светаўспрыманне — на сённяшні погляд яны заідэалагізаваныя, з "правільнымі" надпісамі: хто з правадыроў у якой краіне змагаецца за мір і да т.п. А яшчэ іх адметнасцю з'яўляецца сюжэтная пабудова — нібыта дзяўчынка рыхтавала ілюстрацыі да кнігі. Кнігі свайго жыцця. Вось яе пачатак: два хлопчыкі ў чырвоных гальштуках пад вялікай лямпай з шаўковым абажурам робяць урокі, а дзяўчынка гуляе побач. Краявіды парку і выявы будынкаў у цэнтры горада, міма якіх кожны дзень ходзіш у хлебную краму... Уражвае колькасць малюнкаў, пяшчотна захаваных бацькамі. І адбіткі горада, якія сталі гісторыяй: няма ўжо мастка ў парку, перабудаваная балюстрада перад Домам афіцэраў, змяніў колер будынак былога царкоўна-археалагічнага музея 1913 года, вывяай якога так любілі ўпрыгожваць каробкі шакаладных цукерак кандытары, стары дом, з якога сям'я Ірыны пераехала ў асобную кватэру. А малюнкі расказваюць, якімі былі вуліцы горада, па іх можна дакладна ўявіць савецкае піянерскае дзяцінства. Ірына Мікалаеўна расказвае, з класам ёй вельмі пашанцавала: сярод тых, з кім вучылася, дактары і кандыдаты навук, вядомыя мастакі.

Бацька вельмі ўважліва ставіўся да яе прагі маляваць. Відаць, прычынай быў уласны нераскрыты талент. Менавіта ён, у каго даволі мала часу было займацца дзецьмі, адвёў дачок Ірыну і Людмілу ў гурток пры Палацы піянераў, якім кіраваў Сяргей Каткоў. Менавіта ён параіў Ірыне паступаць у Маскоўскі паліграфічны інстытут.



### Час збіраць уражанні

"Першы год не прайшла па конкурсе, паступіла на другі, — прыгадвае Ірына Мікалаеўна. — Наш інстытут — пераемнік ВХУТЕМАСа, пасля ВХУТЕІНа, захаваў аўру гэтых устаноў. Дагэтуль помню заняткі па жывапісе прафесара А. Д. Ганчарова. Выкладчыкі не абмяжоўвалі наша развіццё рамкамі сацрэалізму.

Помню, раман Булгакава "Майстар і Маргарыта" чыталі ў дачкі Уладзіміра Фаворскага ў майстэрні, пры свечцы, на другім паверсе, услых. Чыталі шмат і так прагна, што я ўжо ўсё і не назаву. "Белая гвардыя", Цвятаева, Мандэльштам, Пастэрнак… Коба Абэ — вялікая цікавасць да Усходу. Аднойчы на выстаўцы Родчанкі ў музеі Маякоўскага быў такі выпадак. У зале я і яшчэ дзве жанчыны — маладая і даволі сталага ўзросту, але настолькі прыцягальная, дагледжаная, як кажуць, "пародзістая" жанчына. На ёй былі боты з кракадзілавай скуры — неверагодна па тым часе. Я проста не магла адвесці ад яе вачэй. А яна падышла да плакаціка Родчанкі, на якім маладая Ліля Брык да нечага заклікае, і сказала досыць гучна: "Якой жа я была па-д'ябальску прыгожай!"

Масква віравала. Ледзь дачакаўшыся канца заняткаў, беглі на канцэрты, у кіно, я ўжо не кажу пра шматлікія выстаўкі. Трэба было ўсюды паспець, увабраць у сябе вызваленае хрушчоўскай "адлігай". І сёння кажу сваім студэнтам: трэба чытаць, трэба глядзець. Гэта не менш важна за вучобу. А калі гэтага не рабіць, вучоба прападзе дарма.

**Візітка**

*Ірына Лобан працуе ў кніжнай і станковай графіцы. Работы прадстаўлены на розных выстаўках у Беларусі і за яе межамі. Скончыла Маскоўскі паліграфічны інстытут. Член Саюза мастакоў Беларусі з 1985 года. Працуе старшым выкладчыкам на кафедры жывапісу на кафедры дызайну Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ.*

### Залаты век кніжнай графікі

Пасля Масквы была праца ў Мінску. Выдавецтвы "Народная асвета", "Мастацкая літаратура". А потым адчынілася "Юнацтва". З асаблівым задавальненнем Ірына Лобан ілюстравала казкі розных народаў свету. Шмат часу праводзіла ў бібліятэцы, вывучала народную культуру, шукала дэталі. Казкі паўночных народаў, грузінскія, таджыкскія...

У сённяшніх кнігарнях яна павядзе ўнукаў да паліцкі з маскоўскімі дзіцячымі кнігамі — куды больш прывабнымі за астатнія. Добрыя ілюстрацыі, добрыя тэксты. Якасная папера, на якой не губляецца колер.

Ці канчаткова пахаваны лепшыя часы беларускай, ды і не толькі, кніжнай графікі? Ірына Мікалаеўна адказвае: "Думаю, што нешта будзе, але не адразу: калі адкрыецца аддзяленне кніжнай графікі. Неабходна, каб у мастака быў мастацкі рэдактар — чалавек, прафесійна здольны зрабіць канструкцыю кнігі, адчуваць яе структуру, улічваць шрыфт. Так, сёння на першым месцы выданні электронныя. Але ім ніколі не саступіць друкаваная кніга як мастацкі твор, выданне-падарунак: з вольнымі старонкамі, дзе адчуваецца паветра, ілюстрацыямі высокай якасці і г.д.

На жаль, падрыхтоўка кадраў пакідае жадаць лепшага. Пачынаючы са школы, з раскладу якой знік прадмет "Сусветная мастацкая культура", скарацілася колькасць гадзін на вывучэнне літаратуры, мовы, чарчэння. Калі і ёсць дзе спробы на ўзроўні факультатываў далучыць дзяцей да мастацтва і культуры, нярэдка гэта прафанацыя. Ведаю выпадкі, калі педагогі былі вымушаныя рабіць за дзяцей работы, каб ім захавалі гадзіны на гэты факультатыў. Культура, літаратура — гэта ж аснова ўсяго".



## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА



**Башлакоў, М. З. Віно адзінокіх / Міхась Башлакоў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 288 с.**

Новую кнігу паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхася Башлакова склалі лепшыя вершы, прысвечаныя Радзіме, маці, каханай, харастве палескіх дарог і родных краявідаў. Яны напісаны ў розныя гады і таму дазваляюць у нейкай ступені прасачыць творчую эвалюцыю аўтара. Але ў той жа час з імі трэба абыходзіцца асцярожна, бо, як піша ў прадмове да кнігі Юрый Фатнеў, "Віно адзінокіх" неабходна піць павольна, па кропельцы, пажадана сам-насам, захапляючыся тонкім водарам. "Віно адзінокіх" для тых, хто нарадзіўся паэтам, але па розных прычынах ім не стаў, для тых, хто па-сапраўднаму цэніць паэзію…"



**Бардон, У. Я. Мінералы. Горныя пароды. Метэарыты: У свеце беларускага каменя / Усевалад Бардон. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 71 с.**

Бясконцы і разнастайны свет каменя. Яркачырвоныя або барвовыя рубіны, аранжавыя сердалікі, сонечны бурштын, сакавіта-зялёныя ізумруды… Колеры і адценні гэтых незвычайных, загадкавых мінералаў можна пералічваць бясконца, падбіраючы новыя і новыя эпітэты. Аўтар навукова-папулярнага выдання, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі Усевалад Бардон адчуў гэта на ўласным вопыце, бо сутыкаўся з каралеўствам каменя ў розных яго праявах — у мінералагічных музеях Масквы, Санкт-Пецярбурга, Мінска, Кіева, іншых гарадоў, даследаваў пароды і ў натуральным заляганні. Думаецца, што яго кніга дапаможа глыбей спазнаць гэты чароўны свет.



**Сіпакоў, І. Д. Малады вецер: Мужчынскія апавяданні / Янка Сіпакоў. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2011. — 224 с.**

Ён і Яна. Мужчына і жанчына. Ад таго, як складваюцца адносіны паміж імі, залежыць іх жыццё, ды і — у больш глабальным сэнсе — усё чалавечае існаванне на планеце. Каханне можа прынесці шчасце і асалоду, а можа выклікаць цяжкія, амаль невыносныя пакуты. І якая розніца тады, хто пакутуе — мужчына ці жанчына. Пра ўсё гэта новая кніга Янкі Сіпакова, яго шчырыя мужчынскія апавяданні.



**Пратчетт, Т. Кот без прикрас / Терри Пратчетт; пер. с англ. Н. Аллунан. — Москва: Эксмо; Санкт-Петербург: Домино, 2010. — 160 с.**

"Сапраўдныя каты ніколі не носяць на шыі бант. Не красуюцца на калядных паштоўках. Не бегаюць за цацкамі, што звіняць. Сапраўдныя каты не носяць ашыйнікаў…. Сапраўдны кот нават з самага далёкага закутка кватэры чуе, як на кухні адчыняецца халадзільнік" і яшчэ шмат-шмат крытэрыяў адрознення сапраўдных катоў ад несапраўдных. Рух у падтрымку *сапраўдных* катоў арганізаваў у сваёй кнізе адзін з самых папулярных брытанскіх пісьменнікаў Тэры Пратчэт. Ён у гумарыстычна-саркастычна-іранічным стылі дасць карысныя парады, як завесці ката, як правільна падабраць мянушку для гадаванца, як катоў карміць, чым яны могуць хварэць.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89**



Лідзія Адамовіч

*Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Лідзія Адамовіч жыве і працуе ў славутай вёсцы Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне. Яна — аўтар кніг прозы "Першая споведзь" і "Кветкі самотнай князёўны". Напісала новую аповесць "Свет моцных жанчын", у якой шмат кахання, дабрыні, спагады, і ў той жа час адносіны паміж персанажамі даволі складаныя і няпростыя. Увазе чытачоў "ЛіМа" прапануем урывак з твора, а цалкам вострасюжэтная аповесць "Свет моцных жанчын" будзе друкавацца ў бліжэйшых нумарах часопіса "Полымя".*

# Свет моцных жанчын

На пачатку верасня ажывала жыццё ў школе. Пачыналіся заняткі, аднак самым цікавым было з'яўленне новага настаўніка: прыгожага, спартыўнага, пахмурнасінявокага Паула Стрыжэўскага. Вёсачка Росіца жыла сваім размераным, нетаропкім жыццём, і Павел яшчэ тут добра не асвоіўся, не паспеў агледзець мясціны, пахадзіць па наваколлі: ля рэчкі, ля старога млына, у лесе. Ён прывыкаў да новай працы. Праводзіў час у спартзале ды за паперамі. Жыў ён у невялічкай хаціне, якую купіў тут за грошы, што засталіся ад яго ранейшага бізнесу. Засталася ў яго і машына. І сына свайго, Улада, ён забраў ад Бэці і перавёў у сёмы клас вясковай школы…

Павел павярнуўся на скрып дзвярэй. У спартыўную залу ўвайшла дзяўчына. Яна была апранута ў джынсы і кароткую маечку. Павел не адразу пазнаў у ёй Таццянку.

— Прывітанне! — сказала яна, падыходзячы да яго. — А мне тут кажуць: новы фізрук, новы фізрук!.. Ну, думаю, пайду пагляджу, прозвішча такое знаёмае — Стрыжэўскі. Мусіць, носішся тут, як стрыж, за дзяўчатамі, га?

— А цябе які вецер прынёс?

— Спадарожны! — гарэзліва адказала дзяўчына. — Я працую тут, у клубе, — Таццянка падхапіла валейбольны мячык і кінула ў яго, аднак Павел злавіў мяч, прадухіліўшы ўдар.

— Ой, які ты спрытны! — пакпіла з яго Таццянка. — Сапраўдны спартсмен — мячык злавіў. Як цябе ў школу занесла? Ты што, настаўнік?

— У свой час я скончыў універсітэт фізічнай культуры, — адказаў Павел. — Потым займаўся прафесійным спортам, альпінізмам, затым пайшоў у бізнес. А цяпер вось вярнуўся да таго, з чаго пачынаў.

— А чаму менавіта ў Росіцу прыехаў? Ты ж з таткам болей не сябруеш.

— Татка ў Клётным, а гэта — дванаццаць кіламетраў ад Росіцы. Ды ў мяне асаблівага жадання сустракацца з ім няма. Агульных размоў не знойдзем.

— Гэта таму, што ты ў яго Альжбэту адбіў?

— Не твая справа!

— Ды ты не крычы на мяне, настаўнік! Ведаю я: не мёд з табою жыццё было ў Альжбэты, бо баламут ты і адналюб. А адналюб нікому не люб! — зазначыла яна і пайшла са спартзалы.

Ён здзекліва кінуў ёй услед:

— Не мёд будзе і таму, хто з табою ажэніцца!

Дзяўчына павярнулася да яго і пакпіла:

— Прыгожымі мы былі і засталіся,
І справа не ў формах нашых цел,
Хай плачуць усе, каму мы не дасталіся,
Хай здохне той, хто нас не захацеў!

— А ты — вар'ятка, — заўважыў Павел. — Ну і верш! Лухта лухтой!..

— Дзякую за камплімент, — усміхнулася яму Таццянка. — А пра цябе кажуць, што ты — першы хлопец на сяле. Якое раздолле! Столькі ўдоў, незамужніх, разводных і проста — старых дзевак.

— У тым ліку і ты, старая дзева! — падхапіў Павел.

— А вось і не ўгадаў! — верхаводзіла Таццянка. — Мне цыганка наваражыла, што я ў гэтым годзе замуж выйду. А ў мужа свайго закахаюся на ўласным вяселлі.

— Пэўна, ты так надакучыла бацькам, што яны выдадуць цябе замуж за першага стрэчнага, — хмыкнуў Павел.

— А я думаю інакш, — весела адказала Таццянка. — Ён у мяне спачатку закахаецца, а я ў яго — толькі на вяселлі. Мусіць, будзе прыгожа апрануты!

— Цыганка ўгадала! Ты ж хлопцаў толькі за знешнасць любіш ды за багацце, каб да бацькавага іміджу падыйшоў.

— А ты цяпер зайздросціш багатым?
— не здавалася дзяўчына.

— Спачатку навучыся паважаць мужчын і весці нармальную гутарку з імі, — зазначыў Павел. — Можа, тады хто-небудзь і возьме цябе замуж.

— Спусціўся з гор — мудрым стаў? — здзекліва мовіла Таццянка. — І якія горы табе скараліся?

— Ідзі ты лепш дадому, — адмахнуўся ён. — Надакучыла!

Пакрыўджаная словамі Паула, Таццянка вярнулася ў клуб, узяла чысты аркуш, алоўак і задумалася. Ён сказаў, што яна толькі за знешнасць любіць мужчын. А вось і не! Сёння, якраз на маладзіку, яна створыць у думках вобраз паўнавартаснага мужчыны, і ён абавязкова з'явіцца ў яе жыцці! Нездарма старыя людзі кажуць: "Што на маладзіку пачата, да поўні збудзецца". І дзяўчына акуратна вывела загаловак: *"Вобраз майго мужа"*. Затым унізе, у слупок, напісала: *"моцны духам, сяброўскі, цікавы субяседнік, вясёлы, мае пачуццё гумару, любіць свой род, народныя традыцыі, таму ў нас з ім агульныя захапленні, і мне заўсёды цікава з ім, ён мяне разумее, заўсёды падтрымлівае і можа аказаць сяброўскую дапамогу"*. Таццянка крышку падумала і вырашыла, што ідэальных людзей не бывае, таму падзяліла аркуш папалам і з левага боку напісала адмоўныя рысы характару будучага мужа, бо ў сямейным жыцці вельмі трэба разумець адно аднаго, прабачаць невялікія недахопы і саступаць адно аднаму, так вучыла яе маці. І тут Таццянка ўпершыню асэнсавала свае беспадстаўныя прыдзіркі да Анжэлы. Можа, і праўду казаў Павел, што яе маці мудрая, і Таццянцы трэба вучыцца ў яе?

І дзяўчына пачала шукаць антонімы да добрых якасцей будучага мужа. Атрымаўся такі "накід":

сяброўскі, *але ганарысты і сябруе толькі з выбранымі людзьмі;*

цікавы субяседнік, *але больш за ўсё любіць адзіноту, цішыню і камфорт;*

вясёлы, мае пачуццё гумару, *але напышлівы;*

любіць свой род, народныя традыцыі, *але не паважае бездухоўных людзей;*

ў нас з ім агульныя захапленні, мне заўсёды цікава з ім, *але ён не падпарадкоўваецца нікому і заўсёды хоча быць лідарам;*

ён мяне разумее, *але ён упарты і на ўсё мае сваю думку;*

ён заўсёды падтрымлівае мяне і можа аказаць сяброўскую дапамогу, *але ён не паважае людзей, якія жывуць без мэты ў жыцці.*

Больш дрэнных рыс для вобраза будучага мужа Таццянка не прыдумала, а тыя, якія яна запісала ў ліку дрэнных, найбольш падыходзілі Паулу. Такія якасці яна магла прабачыць будучаму мужу. Але, каб ён быў горшы за Паула, яна не хацела. Горшыя за яго — гультаі ды тыя, што спазналі смак у гарэлцы, а такіх Таццянка на вагі жыцця не ставіла, іх сама прырода выбракоўвала.

Дзяўчына яшчэ раз перачытала напісанае, склала аркуш папалам і схавала яго ў сваю спецыяльную папку для дзявочых сакрэтаў. А потым яна ўспомніла яшчэ адзін спосаб, які даўней выкарыстоўвалі маладыя дзяўчаты, каб выйсці замуж. Дзяўчаты шылі лялькі: жаніха і нявесту.

Магічныя лялькі набіваліся кветкамі, якія ўвасаблялі каханне. Гэта былі пялёсткі руж, мята, рамонак, сушаныя плады рабіны. Імі набіваліся лялькі жаночага тыпу. Лялькі мужчынскага тыпу набіваліся травамі, якія адпавядаюць мужчынскаму характару. А гэта — лісты дуба, жалуды, кветкі канюшыны.

Таццянка вырашыла зрабіць ляльку-нявесту і ляльку-жаніха, а гэта значыць, сябе і будучага мужа.

І дзяўчына прынялася за працу. Ляльку, якая ўвасабляла б яе саму, Таццянка зрабіла хутка, падабрала прыгожую сукенку, а жаніха апранула ў штаны з каштоўнай тканіны і такі ж пінжак. Дзяўчына хацела, каб муж у яе быў дзелавы мужчына. Пінжак атрымаўся прыгожы, стыльны, адно што гузікі аказаліся неаднолькавыя. Але на гэта Таццянка не звярнула ўвагі. Яна хуценька схавала лялькі ў каробку і ў радасным настроі заспявала вясёлую песню. Яна была ўпэўнена, што за час ад маладзіка да поўні сустрэне сваё шчасце.

Пасіху ў клубе пачала збірацца моладзь. Па суботах заўсёды былі танцы. І Таццянка прадчувала, што менавіта сёння яе запросіць на танец будучы муж. Загучала музыка. Хлопцы пачалі запрашаць дзяўчат. Таццянка чакала свайго. Сёння на танцах дзяжурылі настаўнікі, у тым ліку і Павел. Ён стаяў ля ўваходных дзвярэй у прыгожым мужчынскім гарнітуры, які застаўся з часоў яго заможнага жыцця. Павел не зводзіў вачэй з Таццянкі. Потым падыйшоў да яе.

— Можна вас? — галантна падаў ён ёй руку. — Ці вы на працы не танцуеце?

— На працы — не! — адказала яна.

— А калі б гэта быў не я, а іншы?

Таццянка стрымана прамаўчала.

— Тады сёння я правяду цябе дадому. Хачу папрасіць прабачэння за нашу размову ў спартзале. Я падумаў: мы можам стаць сябрамі. Гэта вельмі важна, калі паміж людзьмі ёсць злучная нітка, агульныя інтарэсы…

— Я не альпіністка! — зазначыла Таццянка.

— Ну чаму менавіта альпіністка? Я займаюся выхаваннем моладзі, і ты — таксама. І задачы ў нас аднолькавыя: патрыятычнае выхаванне, здаровы лад жыцця, этнаграфія і фальклор.

— Ідзі да сваіх настаўніц і з імі пра гэта размаўляй! — буркнула на яго Таццянка.

— О! Дык ты ўжо й раўнуеш? — нібы здзівіўся Павел. — А гэта — першая прыкмета кахання!

Таццянка са злосцю схапіла яго за штрыфелі пінжака і адпіхнула ад сябе. І ў гэты момант яна заўважыла, што ў яго на пінжаку неаднолькавыя гузікі.

— У цябе гэта што: модны прыкід ці адсутнасць жонкі? — казытнула яго дзяўчына. — Гузікі на пінжаку — неаднолькавыя!

— Якая ты ўважлівая, — засмяяўся ён. — Бадай, сама ў жонкі набіваешся! Так мяне адкінула, што ўсе пачалі азірацца на нас. Хутка скажуць, што ты замуж за мяне збіраешся, сцэну рэўнасці ўстроіла. Глядзіш, і ўсе твае тайныя прыхільнікі заварушацца: навыперадкі пабягуць да Лявона Прыходзькі прасіць тваёй рукі. А можа, яны яго баяцца? Таму ты і адна дагэтуль.

— Затое ты ў нас самы смелы! Нявесту ў яго адбіў, хутка і дачку забярэш. Не такія вяршыні скараў, праўда? І заўсёды любіш быць пераможцам. Адно цябе хвалюе, што я табе не патураю, як іншыя бабы, што сцелюцца ля цябе, улагоджваюць!

— Як ты трапна падмеціла мой характар і дала мне такую высокую адзнаку! — зазначыў Павел. — Дзякую! Аднак у жонкі ты мне не падыходзіш — з мужчынамі размаўляць ты не ўмееш.

— Гэта я не ўмею? А давай паглядзім! Ты мяне сёння дахаты правесці збіраўся, то і праводзь! А я пагляджу, як ты ўмееш весці з дзяўчатамі інтэлігентныя размовы! Не зможаш — з цябе скрынка шакаладак!

У той вечар Павел правёў Таццянку дадому. А назаўтра прывёз ёй на працу скрынку шакаладак. Таццянка з ахвотай падзялілася шакаладам са сваімі дзецьмі-гурткоўцамі.

* * *

Лявон заключыў удалую здзелку з фермерам Дзянісам Корзунам, гаспадарка якога знаходзілася каля Налібоцкай пушчы. Цяпер свежая садавіна і агародніна будзе кожны дзень на стале турыстаў, што наведаюць Лявонаву сядзібу. І дагэтуль яна называлася "Венерын чаравічак" — назву некалі прыдумала Альжбэта. Цяпер ён можа быць спакойны — жыццё Бэці ўладкавалася. Яна шчаслівая жыве з блізкім яе сэрцу чалавекам, з Кевінам, у Нясвіжы. Адно баліць душа за дачку. Таццянцы час замуж ісці і мамай станавіцца — дваццаць сем гадоў дзяўчыне. Пра гэта і дбаў Лявон, мяркуючы аддаць дачку за фермеравага сына. Адась Корзун быў слаўны хлопец, працавіты, негаваркі, ён мог бы стаць для Таццяны добрым мужам. І Лявон запрасіў хлопца наведаць сядзібу. Таццянка з нецярпеннем чакала знаёмства з ім.

* * *

Павел выключыў лямпачку ў спальні, каб не перашкаджала сыну спаць. Сам жа пайшоў на кухню і пры святле начной лямпы пачаў працаваць над рабочым планам. Хацеў выключыць гук на мабільніку, але тут пазваніла Таццянка. Ведаючы, што да яе днямі павінен прыехаць жаніх, Павел пацікавіўся:

— Ну што, сасваталі?

— Не, — адказала яна і папрасіла: — Прыедзь, калі ласка, на сядзібу.

— Навошта я там? Для параўнання, ці што?

— Я адмовіла свайму жаніху, — прашаптала Таццянка. — Калі ласка, прыедзь! Тата злуецца.

— Нешта не прыпомню, каб я быў у штаце тваёй аховы, — сказаў Павел, аднак вырашыў ехаць.

У холе сядзібы "Венерын чаравічак", на канапе ля каміна, сядзела, падціснуўшы пад сябе ногі, Таццянка. Побач з ёю — Анжэла, суцяшала дачку. Лявон сустрэў Паула строгім позіркам, стаяў ля каміна і моўчкі пазіраў на госця.

— Усім прывітанне, — сказаў Павел.

— Прывітанне! — усхапілася насустрач яму Анжэла. — Я зараз чаю падам.

І заспяшалася да дзвярэй на кухню.

— Сядай, — кінуў Паулу Лявон Прыходзька.

— А ты чаго стаіш?

— І я сяду.

Мужчыны селі ў мяккія крэслы насупраць адзін аднаго.

— Зараз ты забіраеш гэтую артыстку, — кіўнуў Лявон на дачку, — і вязеш яе куды хочаш.

— У якім сэнсе? — не зразумеў Павел.

— У прамым! — раззлавана кінуў Лявон. — Ты ў сябе ў хаце міні-паркінг стварыў? Яна ў цябе там абедае, начуе…

— Калі такое было? — абурыўся Павел. — Яна нават да мяне ў хату не заходзіла. Я адзін сына выхоўваю, і мяне жанчыны не наведваюць!

— А чаму ж тады пра вас з маёй дачкою ўсе гавораць? Чаму з-за гэтых размоў я сёння выгадната жаніха для Таццяны пазбавіўся?

— Для сябе жаніха прыдбаў, для сябе і пазбаўся!

— А ты, значыць, для сябе плёткі пра маю дачку распусціў?

— Які ты здагадлівы! — абурыўся з яго Павел.

Анжэла паставіла перад імі чай і пачала супакойваць мужчын.

— Ну, а што тут такога? — сказала яна. — Павел — выдатны чалавек, добры настаўнік, добры бацька. Бач, сына да сябе забраў, хоць і не бізнесмен ужо…

— Але хоча вярнуцца ў бізнес — праз пасаг маёй дачкі! — сказаў Лявон.

Аднак Павел нічога на гэта не адказаў, падняўся з крэсла і скіраваў да дзвярэй, кінуўшы на хаду:

— Мне чужога не трэба!

**У Карэліцкім раёне адбылося IX свята мастацтваў "Мірскі замак". Яно ладзілася Нацыянальным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны, Карэліцкага райвыканкама і Мірскага гарпасялковага савета.**



# Новыя абертоны

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**

Хто б мог падумаць, што чорна-белыя аматарскія фотаздымкі, якія захоўваюцца ў хатнім архіве ўжо больш як тры дзясяткі гадоў, з часам ператворацца не толькі ў кранальны напамін пра эпізоды твайго ўласнага дзяцінства, але і ў сведчанні аб'ектыўнай гісторыі! У кампаніі сяброў мы зрэдчас пераглядаем тыя здымкі, прыгадваючы колішнія вандроўкі ў Мір: краявід мястэчка, тады непрыкметнага, шэрага; кантрастам, нібы маляўнічая дэкарацыя, — узгорак, а на ім... заняпад старасвецкай, знявечанай, ды не вынішчанай архітэктурнай красы; цагляны друз у дворыку замка; вінтавыя лесвіцы ў пыльным цэментным вэлюме; крутыя прыступкі, ад узыходжання па якіх цэлы тыдзень балелі ногі; скразнякі ў пустэчы халодных абдрапаных сцен; дзікунскія "аўтографы" і нават сляды вогнішчаў...

Тады мы сумавалі па страчаным, з болем глядзелі на знакі варварскага разбурэння і не сумняваліся, што ўсё гэтак і застанецца і ўнікальнаму беларускаму замку наканавана яшчэ не адно стагоддзе векаваць у маляўнічых руінах. Цяпер думаем, што цуды здараюцца не толькі ў рамантычных мроях і казках. Бо хіба ж гэта не цуд: сённяшніх гасцей папрыгажэлага Міра сустракаюць ужо не "сівыя муры" пабітага часам легендарнага замка, а ўрачыстыя і велічныя, абноўленыя сцены, вежы ды інтэр'еры ўнікальнага помніка не толькі беларускай, але і еўрапейскай, і сусветнай гісторыі! Да таго ж, амаль дзесяцігоддзе атмасферу гэтага знакавага кутка самабытнай карэліцкай зямлі падсілкоўвае жыватворны сінтэз класічнага мастацтва, сучаснай навукі ды асветніцтва — фестываль "Мірскі замак".

Так, старажытнае мястэчка разам з неацэннай архітэктурнай спадчынай перажывае сваю другую маладосць. А, дарэчы, пра сапраўдны ўзрост Міра і яго замка яшчэ спрачаюцца. Калі прыняць чарговую гіпотэзу і годам заснавання старажытнай крэпасці лічыць 1506-ы, дык сёлета можна было б адзначыць прыгожую дату — 505-ю гадавіну аднаго з найвыдатных помнікаў беларускай гісторыі і культуры XVI — XVIII стст. У кожным разе лозунг сёлетняга фэсту мастацтваў гучаў урачыста і знамянальна: "Мірскі замак — гонар ЮНЕСКА". Бо нарэшце завяршыўся няпросты шматгадовы працэс рэстаўрацыі шэдэўра айчыннага дойлідства, і старадаўняя каштоўнасць, уключаная ў ганаровы спіс сусветнай спадчыны, адкрыла для ўсіх сваю адроджаную прыгажосць.

Для беларусаў Мірскі замак зрабіўся аптымістычным сімвалам узнаўлення мастацка-гістарычнай спадчыны. І невыпадкова тут узнікла арганічнае сумоўе архітэктурных набыткаў, "застылай музыкі", — з мілагучнымі ўзорамі нашай музычнай даўніны ды еўрапейскай музычнай класікі, на традыцыях якой выпеставана творчасць лепшых айчынных кампазітараў новага часу. З першага ж фестывалю канцэртныя праграмы мелі абгрунтаваную асветніцкую канцэпцыю, спалучаліся з тэматыкай выязных навуковых чытанняў, набывалі яскравае візуальнае атачэнне дзякуючы арганізацыі дакументальных краязнаўчых фотавыставак, экспазіцый выяўленчага мастацтва. Музыка выконвалася ў фае і ў зале пасялковага Дома культуры; на часовай сцэнічнай пляцоўцы ля замкавых сцен. У 2009 годзе ўпершыню за ўсю пасляваенную



гісторыю Міра высокая класіка загучала ў мясцовым Свята-Мікалаеўскім касцёле — помніку архітэктуры XVI — XVII стагоддзяў (доўгачаканая рэстаўрацыя разгарнулася і там). А сёлета ўжо і сам замак прымаў музыку!

Яе ўваходзіны ў легендарныя сцены пачаліся ранішнім канцэртам-інтрадай, сапраўды ўрачыстым уступам — сонечна яркай праграмай ансамбля "Інтрада", у якім іграюць "залатыя трубы Беларусі", лепшыя маладыя музыканты, выпеставаныя прафесарам Мікалаем Волкавым. Адбылося выступленне трубачоў ва ўнутраным дворыку замка. І візіт Яе Вялікасці Музыкі працягваўся ў адноўленай Партрэтнай зале: для ветэранаў вайны і працы Карэліцкага раёна тут наладзілі пазнаваўчую сустрэчу з камернымі калектывамі Нацыянальнага канцэртнага аркестра. У пранікнёным выкананні хору пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай, а затым у дыялогу ансамбляў драўляных духавых — чаргаванні нумароў, выкананых з ювелірнай вытанчанасцю кларнетыстамі на чале з Генадзем Забарам ды флейтыстамі (мастацкі кіраўнік ансамбля Уладзімір Скараходаў), — гучалі творы Аляксея Туранкова і Рыгора Пукста, Мацея Радзівіла і Напалеона Орды... А вядучая праграмы, доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава суправаджала гэтую захапляльную гістарычную вандроўку па музычных абсягах Беларусі жывым папулярным каментарыем.

*"У той дзень у Карэліцкім раённым Доме культуры прайшла сустрэча Міхаіла Фінберга з творчымі калектывамі раёна. Пад кіраўніцтвам маэстра адбыўся эстрадны гала-канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі.*

У Доме культуры адбылася прэм'ера канцэртнай праграмы "Музычная спадчына Беларусі: песняры гродзенскай зямлі Ян і Мячыслаў Карловічы". Творы гэтых волатаў беларускай ды польскай культуры, іх сяброў-кампазітараў ды музычных куміраў гучалі ў выкананні камерных калектываў аркестра.

Сапраўднай духоўнай кульмінацыяй доўгага фестывальнага дня стаўся канцэрт Камернага хору пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай ды Камернага аркестра на чале з дырыжорам Валерыем Сарокам. Тактоўна і далікатна, суладна з асаблівай атмасферай храма, складзеная праграма ўключала заходнееўрапейскую класіку, узоры беларускай музычнай даўніны. Знаёмая музыка, у тым ліку і тая, што даводзілася слухаць у звычайных залах, набывала новыя тэмбравыя нюансы, узбагачалася абертонамі, нібыта ў акустычных інструментаў і спеўных галасоў з'яўляліся дадатковыя аб'ёмы, новыя выразныя магчымасці. У музыцы адчуваўся і ўзлёт, і палёт чыстага духу! І міжволі падумалася: як цудоўна было б, калі б наступным годам, падчас юбілейнага, X свята "Мірскі замак", пад купалам старажытнага храма натхнёныя галасы хору ды інструментаў аркестра зліліся ў адзіным гучанні, каб хоць бы адзін узор высокай малітоўнай музыкі гэтыя калектывы выканалі разам...

У межах фестывалю адбылася сустрэча яго арганізатараў і ўдзельнікаў з журналістамі. Старшыня Карэліцкага райвыканкама Віктар Шайбак падкрэсліў, што фінансавыя праблемы не павінны негатыўна адбівацца ні на развіцці культуры, ні на адукацыі, ні на стане аховы здароўя. Таму фестывалю "Мірскі замак" наканавана жыць і штогод узбагачацца новымі фарбамі. Знаходжанне на яго тэрыторыі ўнікальнага помніка робіць Мір цэнтрам прыцягнення для шматлікіх гасцей. І сам фестываль мае вялікую сілу прыцягнення. Жывы гук, жывы кантакт з выканаўцамі, грунтоўная прафесійная аснова ўсіх праграм Нацыянальнага канцэртнага аркестра на чале з энергічным маэстра Міхаілам Фінбергам — гэта дарагога каштуе. Праз фестываль развіваецца ў людзях любоў да культуры. "Каб паспяхова і ў комплексе вырашаць надзённыя праблемы, — мяркуе В. Шайбак, — трэба, каб у кожным чалавеку была глыбінная культура, каб жыла душа, а калі ўсё вымяраць толькі ў лічбах, жыццё робіцца бессэнсоўным. Толькі духоўна багатыя людзі будуць плённа працаваць, умацоўваць эканоміку і рабіць прыгожым жыццё на роднай зямлі".



***На здымках: пейзаж А. Будзейкі "Мая вёсачка", прадстаўлены на выстаўцы мясцовых мастакоў у Доме культуры Міра; першае выступленне Ансамбля кларнетыстаў у адноўленай Партрэтнай зале замка; канцэрт хору і аркестра ў мірскім Свята-Мікалаеўскім касцёле.***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Другі міжнародны фестываль-форум аматарскіх хароў "Гукі лета" прайшоў у Мінску. Акцыю арганізаваў творчы цэнтр "BelArtSound" Беларускага саюза музычных дзеячаў пры падтрымцы Пасольства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь. Сярод удзельнікаў былі такія вядомыя мінскія калектывы, як маладзёжны камерны хор "Светач" пад кіраўніцтвам Андрэя Кунцэвіча, "Concordia chor" пад кіраўніцтвам Галіны Казіміроўскай, студэнцкі камерны хор Інстытута тэалогіі БДУ пад кіраўніцтвам Настассі Каляды, а таксама госці са шведскай сталіцы — Камерны хор царквы Святога Яханеса (дырыжор Карын Олдгрын). Апроч канцэртных выступленняў і творчых сустрэч адбылася дыскусія за "круглым сталом", якая прыцягнула ўвагу спецыялістаў сферы культуры і адукацыі, музыкантаў-педагогаў, экспертаў, студэнтаў. Удзельнікі форуму мелі на мэце акрэсліць праблемы, якія паўстаюць найперш перад аматарскімі калектывамі, вызначыць шляхі развіцця беларускай харавой культуры, стымулы для стварэння новых спеўных калектываў і пашырэння слухацкай аўдыторыі.

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі парадаваў сваіх прыхільнікаў адразу некалькімі прыемнымі весткамі. На XIII міжнародным фестывалі "Мельпамена Таўрыі", які прайшоў ва ўкраінскім горадзе Херсоне, беларускія артысты паказалі на пленэры сваю вядомую пастаноўку чэхаўскай "Чайкі". Вынікам — шэраг узнагарод. Дыплом у намінацыі "Лепшы акцёрскі ансамбль" паводле версіі прафесійнага журы і чатыры дыпломы журналісцкага журы ў наступных намінацыях: "Лепшая мужчынская роля" — Дзяніс Паршын (Трэплеў), "Лепшая жаночая роля другога плана" — Юлія Шаўчук (Маша), "Лепшая мужчынская роля другога плана" — Сяргей Шымко (Сямён Сямёнавіч) ды "Высокі ўзровень тэатральнай культуры і лепшы акцёрскі ансамбль". Паралельна з гэтым фэстам РТБД наведаў XIX міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў Бранску (Расія). Там мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Анісенка атрымаў дыплом у намінацыі "Лепшая рэжысёрская работа" — як пастаноўшчык спектакля "Сонечка" Алены Паповай паводле рамана "Злачынства і пакаранне" Фёдара Дастаеўскага.

Бенефіс народнай артысткі Беларусі Наталлі Рудневай, прысвечаны 30-годдзю яе творчай дзейнасці, адбыўся ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь Знаная спявачка выступала ў гэты вечар поруч з аркестрам і хорам тэатра і разам са сваімі партнёрамі па спектаклях. Першае аддзяленне юбілейнай канцэртнай праграмы, якая атрымала назву "Вам прысвячаю...", складалася з оперных арый, ансамбляў і аркестравых фрагментаў. Пасля антракту ў вялікай опернай зале панаваў старадаўні рускі раманс.

У Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі сёння мае адбыцца канцэрт Марэка Стэфаньскага — аднаго са славутых польскіх арганістаў, актыўнага прапагандыста музыкі сваёй краіны, які паспяхова гастраляваў у Бельгіі, Галандыі, Германіі, Даніі, ЗША, Ізраілі, Іспаніі, Італіі, Літве, Расіі, Румыніі, Францыі, Эквадоры. Ён удзельнічаў у Еўрапейскім форуме царкоўнай музыкі, падчас Польскага сезона ў Францыі вызначыўся сольным выступленнем у легендарным саборы Notre Dame de Paris, граў у Архікатэдры Масквы на Першым міжнародным фестывалі "Музыка касцёлаў свету"... Мінскае выступленне Марэка Стэфаньскага, які выканае творы Баха, Райнбергера, Ліста ды Луцюка, ладзіцца ў межах канцэртнага цыкла "Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва".

Таццяна БІРУК,
Вольга ЛЯЎКЕВІЧ,
студэнткі Інстытута
журналістыкі БДУ

# Модны прысуд,

## або Навошта нам «Dolce&Gabbana»?

**"Якіх беларускіх дызайнераў адзення вы ведаеце?" — з такім пытаннем мы выйшлі на вуліцы Мінска. Найчасцей у адказ чулі імёны такіх прафесіяналаў, як Іван Айплатаў, Вольга Асіпенка. Як ні сумна, амаль палова апытаных наогул не ведае беларускіх дызайнераў. Дык чаго ж не хапае айчынным творцам, каб стаць паспяховымі і запатрабаванымі?**

### Гэта ўсё ж бізнес

Людзі, дасведчаныя ў дызайнерскай справе, неаднойчы адзначалі, што ў нашай краіне наогул няма ніякай fashion-індустрыі. Па-першае, індустрыя моды постсавецкіх краін, у тым ліку і нашай, адстае прыблізна на два стагоддзі. Яшчэ 200 гадоў таму ў Парыжы была сфарміравана модная індустрыя ў яе цяперашнім выглядзе: з паказамі, заказамі, закупкамі і продажамі. У краіны ж былога СССР гэтая тэндэнцыя прыйшла каля 15 год таму, а працаваць пачала толькі апошнім часам. Па-другое, адсутнічаюць сур'ёзныя інвестыцыі ў працу айчынных дызайнераў.

Зрэшты, усё можна растлумачыць прасцей: асноўная частка беларускага насельніцтва не гатова насіць дызайнерскае адзенне. З аднаго боку, няўцямнасць модных трэндаў (не кожную дэталь гардэроба, якая дэманструецца на подыуме, можна выкарыстаць у штодзённым жыцці), з другога — дарага. Нятаннасць — вынік неверагоднай накруткі на дызайнерскую вопратку, якая накіроўваецца да пакупніка. А калі ўлічыць уласнаручную працу творцы, выкарыстанне дарагіх матэрыялаў, то набягае не надта "салодкая" сума. І пакупнік адмаўляецца плаціць такія грошы нават за рэчы, што існуюць у адзінкавым экзэмпляры. Да таго ж, нашых суайчыннікаў трэба навучыць рацыянальна траціць грошы на вопратку, не купляць шмат рэчаў, якія будуць вісець у шафе, а набываць адзенне, якое можна насіць некалькі сезонаў запар.

Мода — гэта ўсё ж такі бізнес, які неабходна фарміраваць. "Ёсць пэўныя цяжкасці ў стварэнні дызайнерскага адзення. Ніхто не спрачаецца: мода — гэта мастацтва, аднак які ж гэта дызайнер, калі ён не прадаецца? Аднак дызайнерскае адзенне паводле вызначэння не можа каштаваць танна. Сусветна вядомы куцюр'е Лакруа да моды ставіўся, у першую чаргу, як да мастацтва, а не як да камерцыі. Так, дызайнер — гэта творца, але існуе ён за кошт таго, што прадае. Fashion-індустрыя ў пэўнай ступені павінна арыентавацца на задавальненне інтарэсаў і запатрабаванняў спажыўца. У нашай краіне модная індустрыя знаходзіцца на стадыі фарміравання", — мяркуе Таццяна Рума, камерцыйны дырэктар салона дызайнерскага адзення "Арка".

### Будучыня за новымі імёнамі

Сёння ў краіне ёсць пэўная колькасць самастойных дызайнераў і больш як дзясятак тэкстыльных прадпрыемстваў са штатам мадэльераў. Плён іх творчай працы знойдзеш, безумоўна, у беларускіх магазінах. Ды вось дзіва: знайшоўшы цэлы аддзел адзення ад беларускіх тэкстыльных прадпрыемстваў, мы ні на адным цэтліку не ўбачылі імя аўтара-дызайнера. Атрымліваецца, што "наша" вопратка — безабліччая! Гэтая акалічнасць вымушае таленавітых канструктараў шукаць магчымасці хоць як-небудзь заявіць пра сябе. І калі дызайнеру ўдаецца прабіць сабе дарогу, ён, як правіла, знаходзіць перспектывы самарэалізацыі за мяжой. Так, ужо на працягу сямі гадоў у Польшчы працуе знакаміты на Захадзе беларускі дызайнер Наталля Паўлючэнка, якая апранала на Нобелеўскі баль сям'ю эканаміста Уільямсана.

"Нашым прадпрыемствам неабходна адкрываць новыя імёны, прапаноўваць супрацоўніцтва маладым дызайнерам, якія не могуць дазволіць сабе арганізацыю ўласнай вытворчасці; ствараць іх аўтарскія калекцыі ў межах таго ж прадпрыемства. А дзеля таго, каб у айчыннага дызайну з'явілася-такі сваё непаўторнае аблічча, абавязкова трэба паказаць сябе за мяжой. Думаю, удзел у тыднях моды ў Мілане, Парыжы, у іншых прэстыжных сусветных паказах — найбольш для гэтага эфектыўны", — перакананая мадэльер і бізнеслэдзі Вольга Асіпенка.

Яшчэ адным шляхам рэалізацыі творчых ідэй і памкненняў для маладога дызайнера з'яўляецца ўдзел у спецыялізаваных конкурсах, якія, дарэчы, з размахам праводзяцца і ў нашай краіне. Моладзь заяўляе пра сябе, прымаючы ўдзел у Міжнародным фестывалі моды і фота "Млын моды". Цікава, што на іх няма першых, другіх, трэціх месцаў. Журы дае пуцёўку ў свет прафесійнага дызайну 25 прыярытэтным калекцыям. Аднак у пагоні за выгаднымі "прывілеямі" кожны ўдзельнік, як правіла, імкнецца здзівіць журы якімі-небудзь неардынарнымі ідэямі, забываючыся на тое, што галоўная функцыя адзення — "насібельнасць"! Напэўна таму, што на "Млыне…" бракуе размежавання моды на авангардную і «prêt-à-porter» (тое, што можна насіць у паўсядзённым жыцці), у пройгрышы апынаюцца і вытворцы, і спажыўцы.



### "ДзіКаВаТа"?

"Млын моды" — не адзіны шанц для маладога перспектыўнага дызайнера ўвасобіць свае ідэі ў жыццё. Штогод ладзяцца такія конкурсы, як "Мамант", "Белая амфара", галоўная мэта якіх — пошук і падтрымка таленавітай моладзі, удасканаленне яе прафесійнага майстэрства і развіццё творчай ініцыятывы. Праводзяцца абласныя і рэгіянальныя фестывалі-конкурсы маладых мадэльераў і дызайнераў адзення. Аднак гэтага недастаткова, бо маладым неабходна даваць магчымасць развівацца не толькі праз удзел у конкурсах. Трэба знаёміць іх з сусветнымі сталіцамі моды, выпраўляць на масштабныя fashion-мерапрыемствы. І зусім не для таго, каб "падгледзець" еўрапейскія сакрэты, а для таго, каб адшукаць свой уласны стыль і шлях.

Аднак у свеце высокай моды распаўсюджана меркаванне, што тое самае запаветнае пачуццё моды, модныя густы даюцца "кімсьці зверху". У такім разе хто не ведае ніякіх агульных прафесійных рэчаў, той не паўтарае штампаў. Такой пазіцыі прытрымліваецца аўтар і кіраўнік праекта "DзіKaVaТа" ("Дзіцячы калейдаскоп вашага таленту") Кацярына Аўсейчык. Свой праект яна стварыла, калі была студэнткай 3 курса БДПУ імя М. Танка. І добра, што не пабаялася рызыкнуць самастойна ўліцца ў хвалю дызайнерскага "мора". Сёння яе "DзіKaVaТа" — міжнародны праект, у якім удзельнічаюць дзіцячыя, падлеткавыя і авангардныя калекцыі. У 2010 г. на конкурсе было прадстаўлена 36 калекцый з Беларусі, Літвы, Расіі.

"Праект "DзіKaVaТа" яшчэ зусім малады, аднак, нягледзячы на гэтую акалічнасць, за чатыры гады мы дасягнулі шмат чаго, а менавіта — "узгадавалі" конкурс з факультатыўнага да міжнароднага ўзроўню. На цяперашнім этапе развіцця імкнёмся прасоўваць імёны нашых удзельнікаў у разнастайных акцыях і праектах БДПУ, а таксама за яго межамі, намагаемся папулярызаваць творчасць таленавітых дызайнераў праз СМІ. Адзначу, што галоўная мэта нашага праекта — дапамагчы айчыннаму пакупніку вызначыцца з асабістым густам. І сёння ўсё часцей у крамах Мінска заўважаю насамрэч прыгожае адзенне ад беларускіх вытворцаў. А яшчэ некалькі гадоў таму сітуацыя была зусім іншая: там віселі бясформенныя рэчы сумнiўнай якасці, а пакупнік намагаўся набыць чарговую кітайскую абноўку на якім-небудзь кірмашы", — адзначае Кацярына Аўсейчык.

### Лён — беларуская візітоўка

З якіх матэрыялаў трэба зрабіць адзенне, каб яно на ўвесь свет "крычала": "Я беларускае, мяне ні з чым не пераблытаеш"? Сказаць, што яно павінна быць зроблена беларускім майстрам на беларускім прадпрыемстве, — мала. А задумаўшыся пра выкарыстанне айчыннай і замежнай сыравіны, рацыянальна будзе ўспомніць пра лён. Ні для кога не сакрэт, што ён — частка нацыянальнай культуры, своеасаблівая візітоўка Беларусі. Лён для нашага этнасу — штосьці накшталт знітавання паміж фальклорнымі каранямі нашай мінуўшчыны і моднай будучыняй. Дык, магчыма, гэты матэрыял і ёсць ключ ад дзвярэй сусветнай моднай індустрыі і сэрцаў нашых пакупнікоў? Балазе, ёсць у нашай краіне майстры, якія працуюць з гэтай культурнай раслінай.

Сярод дызайнераў тэкстыльных вытворчасцей ужо які год ладзіцца фестываль "Лён", які праходзіць у межах Беларускага тыдня моды. Традыцыйна большасць калекцый выканана з матэрыялаў Аршанскага льнокамбіната. Кожны фестываль — своеасаблівая спроба раскрыць магчымасці ўсіх фактур лёну, стварыць шыкоўны вобраз сучаснага беларуса. Гэта яшчэ і пошук беларускага сакрэту моды, які схаваны ў стварэнні трапных калекцый.

У працэсе стварэння прадметаў прыгажосці з лёну мадэльер кіруецца не толькі ўласным густам і пачуццём стылю, але і пэўнымі прынцыпамі. А гэта элегантнасць, экстравагантнасць і эмацыянальнасць. Відавочна, што айчынныя мадэльеры пільна працуюць над тэхнікай "зачароўвання" пакупніка беларускім нацыянальным багаццем, якім з'яўляецца лён.

> *"Моду нельга назваць модай, калі яе не носяць на вуліцы", — казала сусветна вядомая Како Шанэль. Значыць, мода існуе толькі тады, калі яна набывае спажывецкі характар. Своеасаблівымі рухавікамі сучаснай fashion-індустрыі з'яўляюцца дызайнеры. Аднак чамусьці ў свядомасці нашага чалавека такія паняцці, як "дызайнерскія брэнды" і "мода для народа" сумяшчаюцца цяжка. У чым тут праблема?*

Фестываль "Лён", мабыць, адзін з самых цікавых і запамінальных дзён Тыдня моды. Аднак не трэба забывацца і на тое, якая гэтая культура даткліваая! Яна, як і сапраўдны беларус, патрабуе да сябе пільнай увагі. Ох і даводзецца папакутаваць дызайнеру, пакуль атрымаецца стварыць сапраўдны цуд! Акрамя майстэрства і фантазіі калекцыі фестывалю павінны дэманстраваць магчымасць іх рэалізацыі і запатрабаванасці сярод спажыўцоў. Вось што кажа пра гэта Кацярына Аўсейчык: "Адзенне з лёну камечыцца, таму праз нейкі час набывае не надта прэзентабельны выгляд. Да таго ж, недахопам ільнянога валакна з'яўляецца тое, што яму цяжка надаць каляровы выгляд. Ды ў той жа час ільняная вопратка высакаякасная, устойлівая да механічных пашкоджанняў, мае ўласцівасць ахалоджваць арганізм у спякотнае надвор'е і саграваць у халоднае. Ды і цэны на льнопрадукцыю адны з самых прымальных".

### Шлях праз… "Арку"

Вось, на першы погляд, ідэальная сітуацыя. Студэнт-дызайнер скончыў універсітэт. За час навучання прайшоў некалькі стажыровак за мяжой, разабраўся ў практыках тэкстыльнай вытворчасці і змогтакі стварыць калекцыю, якая перамагае ў прэстыжным конкурсе. І што далей? Куды падзецца маладому "куцюр'е" з яго калекцыяй, калі яе не купілі адразу ж пасля дэфіле? Павесіць у шафу "да лепшага часу"? Гэта не варыянт. Каб такіх "непрыемных" сітуацый паменела, Кацярына Пятруша і Таццяна Рума адкрылі салон дызайнерскага адзення "Арка".

Такім чынам, "Арка" стала своеасаблівым злучнікам паміж "высокай" модай і звычайным спажыўцом. "Адрозненне нашага салона ад іншых магазінаў дызайнерскага адзення ў тым, што кансультанты, якія супрацоўнічаюць з нашым модным кутком, максімальна індывідуальна працуюць з кожным пакупніком. Акрамя таго, мы знаходзімся ў няспынным пошуку таленавітых дызайнераў. Нашы калекцыі якасныя і эксклюзіўныя, шыкоўнага крою, створаныя з натуральных тканін. Мы не імкнёмся найхутчэй прадаць пэўны элемент гардэроба. Асноўная мэта — падараваць кліенту сапраўдную радасць ад набыцця высакаякаснай рэчы ад айчыннага дызайнера", — адзначае дырэктар салона Кацярына Пятруша.

Салон дызайнерскага адзення "Арка" нярэдка называюць своеасаблівай пляцоўкай для рэалізацыі дызайнерскага таленту. "За пяць гадоў насамрэч рэальна наладзіць уласны бізнес, раскруціць належным чынам асабісты брэнд. Аднак пачынаць трэба з малога. Малады дызайнер, стварыўшы пэўны касцюм, без клопатаў можа прыйсці да нас і прапанаваць свой шэдэўр на продаж. І ў выпадку, калі мы будзем задаволены тэхнікай выкананай работы, у творцы з'явіцца шанц выстаўляць свае калекцыі ў "Арцы", — дадае Кацярына.

Апроч "Аркі" ёсць і іншыя шляхі для прасоўвання работ крэатыўных мадэльераў: калі майстар тканіны на ўласныя альбо спонсарскія грошы адкрывае свой магазін. Аднак, каб раскруціць уласны брэнд, аднаго дызайнерскага таленту недастаткова. Трэба яшчэ валодаць сакрэтам вядзення бізнес-справ. "Цэ-цэ" — салон дызайнерскай вопраткі яшчэ аднаго беларускага мадэльера закрыўся, так і не паспеўшы знайсці прыхільнікаў…

### Без анархіі

Аднак у вытворчасці наогул, і ў вытворчасці адзення ў тым ліку, не павінна быць анархіі. І ў нашай краіне функцыю гэтак званага бар'ера паміж недабраякасным прадуктам і рынкам выконваюць ГОСТы.

Зрэшты, мода — дама капрызлівая, і каб яе зразумець, неабавязкова ведаць правілы дзяржстандартаў, дастаткова мець густ і грошы ў кішэні. А дызайнеры — ёсць, і стыльнае адзенне для народа ёсць каму ствараць. Вось толькі ведаць іх трэба — тых, хто стварае аблічча айчыннай fashion-індустрыі…

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ “Залатая Ліцера”

### Слова краязнаўцы



**Сяргей Ганчар, дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея, разважае пра адметнасці краязнаўчых вышукаў:**

—Цікавасць да даследавання ўзнікае падчас саміх вышукаў. Праца ў архівах, палявыя даследаванні ці вывучэнне пэўнага матэрыялу — усё захапляе. І калі чалавек гэтым жыве — абавязкова прыйдзе да адкрыцця, знойдзе нешта ўнікальнае. Даследаваннем нашай даўніны я пачаў займацца яшчэ ў дзяцінстве, калі на гарышчы ў бабулінай хаце шукаў нешта незвычайнае і цікавае. А вясковыя гарышчы, як вядома — цэлы “музей старажытнасцей”, дзе захоўваюцца рэчы, якімі актыўна карысталіся ў мінулым, але цяпер яны страцілі сваё ўтылітарнае значэнне ды набылі вялікую музейную вартасць. Потым быў універсітэт, музейная справа. Тут і краязнаўчыя пошукі, і вывучэнне сімволікі і семантыкі народнага арнаменту, і больш глабальныя навуковыя даследаванні ў аспірантуры.

Ды і сёння кожны дзень — пошук і адкрыцці. Цікава ўсё: радаводы, жыццё і творчасць знакамітых людзей, фальклор, этнаграфія, народныя рамёствы, археалогія. Асабліва ж захапляе праца са старымі фотаздымкамі. Гэта своеасаблівая энцыклапедыя мінулага. У кожнага чалавека на здымку — сваё жыццё, свая гісторыя, не менш цікавая, чым гісторыя цэлай краіны. А архітэктурныя будынкі на картках — нібы аповед пра даўнія часы мясцін. Колькі на іх можна заўважыць цікавых дробязей, якія ў перспектыве выведуць факты, вартыя цэлай навуковай работы. Вось мы ў музей не так даўно замовілі фотаздымкі разбуранай Вілейкі, што цяпер захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі. Цэлы альбом з 14 фотакарткамі. Думалася: што там можа быць новага, столькі ўспамінаў запісана, столькі фотаздымкаў з асабістых архіваў гараджан. Аднак кожны здымак — новы момант адкрыцця. Зусім іншы час, зусім іншы ракурс, і — як вынік — новыя факты.

У краязнаўстве важна і жывая гутарка з чалавекам. Гэта нават цэлая навука: разгаварыць, выклікаць прыхільнасць да сябе. Але калі ўсё атрымліваецца — гадзіны цікавай гутаркі забяспечаны. Краязнаўчае даследаванне — цэлы свет, які зацягвае і прывáблівае да сябе навукоўцаў і аматараў, які патрабуе ахвяры часу, але прыносіць хвіліны задавальнення і непаўторныя моманты эйфарыі.

### Адзінства чатырох элементаў

Чэслава ПАЛУЯН

Пабачыў свет трэці нумар альманаха Цэнтра Этнакасмалогіі KRYŬJA. Новы выпуск *DRUVIS* мае шматузроўневую канцэпцыю, што складаецца з чатырох асноўных элементаў: Поўнач (Балтаскандыя), індаеўрапейцы, блізнячы міф, імперыя. Усе гэтыя элементы звязаныя між сабою глыбіннымі повязямі, дазваляюць зразумець сутнасць адно аднаго ў арганічным адзінстве. Сярод аўтараў нумара — вядомыя даследчыкі і супрацоўнікі цэнтра Аляксей Дзермант, Ягор Чурылаў, Сяргей Санько, Алег Латышонак, Аляксей Ластоўскі і іншыя.

### Музейны ўнікат

Настасся ВЕСЯЛУХА

**У Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі ў студзені 2011 года была адкрыта першая чарга экспазіцыі “Рэлігія і культура ў Беларусі”, якая адлюстроўвае гісторыю культуры і рэлігіі нашага краю як грамадскую з’яву, сцвярджае культуратворчую ролю архаічных вераванняў, хрысціянскіх канфесій, ісламу і іудаізму. Сярод экспанатаў утрымліваюцца і ўнікальныя помнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: каменны абразок з выявай Святога прарока Ілы ў пустыні і іконкі-амулеты-змеевікі.**





# З каменю і металу

#### Ілья ці Іаан?

Каменны абразок з даволі рэдкім сюжэтам: Святы прарок Ілья ў пустыні (Афон, XIII ст.) быў канфіскаваны Гродзенскай мытняй і перададзены ў музей гісторыі рэлігіі. Ён невялікі па памеры. Па меркаванні мастацтвазнаўцы Васіля Пуцко з Мастацкага музея Калугі, сэнс кампазіцыі на абразку не быў зразумелы на мяжы XVI—XVII стст., калі ў верхняй частцы іконы быў выразаны надпіс “С Ю Бо”, г. зн. Святы Іаан Багаслоў. Характэрнае надпісанне “сігмы” (грэч. літара) сведчыць пра тое, што ікона гістарычна звязана з Беларуссю. Манера нанясення гэтага надпісу ўказвае: ён не мог быць зроблены рэзчыкам рэльефу — лініі больш тонкія і напісаныя больш упэўненай рукой. Відавочна, што гэты надпіс быў нанесены памылкова, бо выявы Святога прарока Ілы, якога корміць крумкач, і Святога Іаана Багаслова на в. Патмас маюць аддаленае падабенства, хутчэй асацыятыўнае, чым рэальнае. Сам жа сюжэт кармлення крумкачом прарока Ілы добра вядомы ў візантыйскай іканаграфіі.

Схема кампазіцыі каменнага абразка больш за ўсё нагадвае іканаграфічныя ўзоры XII — XIII стст. Па характары разьбы можна знайсці пэўнае падабенства з творамі першай чвэрці XII ст. Аднак шматлікія супастаўленні метадаў адлюстравання і экспрэсіўнасці фігур, праведзеныя Васілём Пуцко, дазволілі даследчыку датаваць каменны абраз у Гродне апошнімі дзесяцігоддзямі XIII ст.

#### Паміж язычніцтвам і хрысціянствам

У Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі захоўваюцца два медныя змеевікі (тыпалагічна вызначаюцца як створцы), якія датуюцца XIII ст. (Кіеў). Адзін з іх змяшчае выяву Маці Божай Адзігітрыі ў сярэдніку, вобразы святых на створцах, Спаса Нерукатворнага — на рухомым навершы, другі — толькі выяву Маці Божай Адзігітрыі.

Супрацоўнік музея Ігар Ганчарук распавёў: “Змеевікі — своеасаблівая з’ява старажытнарускага культавага мастацтва. Значэнне саміх амулетаў-абярэгаў не выклікала сумненняў, але ў тлумачэнні “змяінага гнязда”, што поруч з хрысціянскімі выявамі размяшчаецца на вырабе (адсюль і назва — “змеявік”), не было адзінства меркаванняў. Адны прымалі адлюстраванне галавы са змеямі за галаву Мядузы Гаргоны, іншыя меркавалі, што галава сярод змей сімвалізуе багіню Ладу, рускую Афрадыту. Палічыўшы змей, некаторыя інтэрпрэтавалі іх як дзесяць значных ідалаў, якіх абагаўлялі на Русі”.

Ёсць версія, што культ змяі зарадзіўся ў архаічнай Грэцыі, адсюль ён перайшоў у візантыйскае мастацтва. Але на Русі яшчэ задоўга да пранікнення візантыйскага мастацтва людзі пакланяліся боствам, так ці інакш звязаным са змеямі. Да прыкладу, у VI — VII стст. у насельніцтва Сярэдняга Прыдняпроўя існавалі ўяўленні пра жаночую багіню, спадарожнікамі якой былі птушкі і змеі. Верагодна, гэты вобраз можна супаставіць з Бярэшнай — багіняй жыцця, выявы якой сустракаюцца на прыдняпроўскіх фібулах. Язычніцкія вераванні доўга існавалі на Русі, таму візантыйскія амулеты са змяінымі кампазіцыямі тут былі лёгка ўспрынятыя і па-свойму пераасэнсаваныя.

Амулеты-змеевікі, з’явіўшыся ў XI—XII стст., бытавалі аж да XVI ст., іх насілі на грудзях паверх адзення. Адваротны бок абярэга, што прылягаў да грудзей уладальніка, быў нябачны для мінакоў, менавіта на ім адлюстроўваліся змеі. Змяя ж на Русі лічылася сімвалам хвароб і бед, таму амулеты выкарыстоўвалі і пры лячэнні. Акрамя гэтага яны змяшчалі надпісы-загаворы ад чорнай магіі. Царква змагалася з падобнай праявай язычніцтва. Але нягледзячы на гэта, змеевікі карысталіся папулярнасцю, і сёння яны ўспрымаюцца як яскравы прыклад хрысціянска-язычніцкага двухвер’я.

***На здымках: каменны абразок з выявай Святога прарока Ілы ў пустыні (Афон, XIII ст.) і амулеты-змеевікі (Кіеў, XIII ст).***

### Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб “Асэнка”*



*Герб “Брант-ІІ”*



*Герб “Гербурт”*

#### Герб «Асэнка»

Гербам карысталіся: Навіцкі, Сіла-Навіцкі, Шалкоўскі, Шаткоўскі.

#### Герб «Брант–ІІ»

Гербам карысталіся: Бурнейка, Жандэцкі.

#### Герб «Гербурт»

Гербам карысталіся: Гейбовіч, Герберскі, Завіша, Казека, Мадзалеўскі, Мазалеўскі, Навіцкі, Прушаноўскі, Швейцар, Эрдман.

#### Герб «Наліўка»

Гербам карысталіся: Грынкевіч, Грыцкевіч, Грыцэвіч, Дактаровіч, Налівайка, Рачынскі-Грыцкевіч, Юрэвіч.

#### Герб «Нявельскі»

Уласны герб роду Нявельскіх.

#### Герб «Шульц»

Уласны герб роду Шульцаў.



*Герб “Наліўка”*



*Герб “Нявельскі”*



*Герб “Шульц”*

**Вядучы рубрыкі — Уладзімір Крукоўскі**

# Заалогія для ўкраінскага паэта

## *Тарас Шаўчэнка на лекцыях Сцяпана Кутаргі*

Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ

**Далёкая ўскраіна царскай Расіі 50-х гадоў XIX стагоддзя… Форт Нова-Пятроўскі на беразе Каспійскага мора. Тут 25 студзеня 1856 года Тарас Шаўчэнка, сасланы і прымусова аддадзены ў салдаты, таемна, урыўкамі пачаў пісаць аўтабіяграфічную аповесць “Мастак”. Вось толькі адзін фрагмент гэтай аповесці, які прыцягнуў маю ўвагу: “Два разы на тыдзень, вечарамі, я хаджу ў залы Вольнага эканамічнага таварыства слухаць лекцыі фізікі прафесара… Хаджу яшчэ, разам з Дзямскім, раз на тыдзень слухаць лекцыі заалогіі прафесара Кутаргі. У мяне, як вы самі бачыце, дарма час не праходзіць”. Спачатку я падумаў, што Тарас Шаўчэнка пераблытаў прозвішча прафесара Міхася Кутаргі — нашага земляка, выхадца з Магілёва, вядомага гісторыка антычнасці, назваўшы яго “заалогіі прафесарам”. Але неўзабаве стала відавочным, што памяць не падвяла вялікага кабзара і на гэты раз, нягледзячы на тое, што мінула больш як пятнаццаць год.**



Сапраўды, у Пецярбургскім універсітэце быў яшчэ адзін прафесар заалогіі — Сцяпан Кутарга, старэйшы брат Міхася Сямёнавіча. Нарадзіўся ён у горадзе Мсціславе Магілёўскай губерні 12 лютага 1805 года. Бацькі яго былі небагатыя, але далі сыну адукацыю. У 1813 годзе сям’я пераехала ў Пецярбург, дзе служыў бацька двух будучых прафесараў. Першапачатковую адукацыю Сцяпан Кутарга атрымаў дома пад кіраўніцтвам бацькі Сямёна Мартынавіча, які памёр у 1817 годзе. З гэтага часу ўвесь клопат пра яго наступную адукацыю належаў маці.

У 1818 годзе Сцяпан Кутарга быў вызначаны вольнапрыходзячым у Пецярбургскую губернскую гімназію, на той час адзіную ў сталіцы. У гэтай навучальнай установе ён прабыў два гады. У 1820 годзе, калі быў заснаваны “Настаўніцкі інстытут” на 30 казённакоштных выхаванцаў, Сцяпан Кутарга перайшоў у гэтую ўстанову. Яго выхавальнікамі і настаўнікамі былі вядомыя пасля педагогі: Бусэ, Цімаеў, Абадоўскі і Свенске. Але ў 1823 годзе інстытут быў зачынены і ўсе вучні пераведзены ў наноў заснаваную Пецярбургскую трэцюю гімназію, якую Сцяпан Кутарга паспяхова скончыў і ў студзені 1827 года паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт. Але ў лістападзе 1827 года быў дадзены Найвысокі наказ адабраць ва ўніверсітэтах чалавек дваццаць здольных студэнтаў і адправіць іх для навуковых заняткаў спачатку ў Дэрпт, а потым у Берлін ці Парыж. У лік шасці навучэнцаў Пецярбургскага ўніверсітэта трапіў і Сцяпан Кутарга.

Праслухаўшы ў Дэрпцкім універсітэце поўны курс медыцыны і хірургіі, ён вытрымаў у 1832 годзе іспыт на ступень доктара медыцыны і пасля абароны дысертацыі быў зацверджаны ў гэтай ступені. Доктарская дысертацыя Сцяпана Кутаргі — плён самастойнага натуральна-гістарычнага даследавання, яна надоўга захавала сваё значэнне.

Тым часам прафесар заалогіі Дэрпцкага ўніверсітэта Ратке, маючы намер распачаць навуковую вандроўку ў Крым, папрасіў Міністэрства камандзіраваць разам з ім і доктара Сцяпана Кутаргу, які, як пісаў Ратке, “вельмі шмат абяцае для навукі”. Ратке атрымаў дазвол. Пасля вяртання з гэтай экспедыцыі С. Кутарга атрымаў кафедру заалогіі ў Пецярбургскім універсітэце, якую да гэтага займаў прафесар Ржэўскі. Паступіўшы выкладчыкам заалогіі ў Пецярбургскі ўніверсітэт у 1833 годзе, ён у 1835-м быў зацверджаны ў званні экстраардынарнага, а ў 1837 годзе — у званні ардынарнага прафесара.

Варта сказаць, што Сцяпан Кутарга быў адным з першых і лепшых у Расіі папулярызатараў натуральнагістарычных ведаў. Ён дасканала валодаў словам, і як лекцыі ва ўніверсітэце, так і артыкулы ў “Библиотеке для чтения” і “Журнале Министерства народного просвещения” знаёмілі рускую публіку са шматлікімі актуальнымі пытаннямі прыродазнаўчых навук, прыцягвалі жывую ўвагу грамадскасці. Ён, па словах Клімента Ціміразева, першы ў Расіі даў “цвярозую аб’ектыўную ацэнку” эвалюцыйнай тэорыі Чарльза Дарвіна амаль адразу ж пасля яе з’яўлення.

На жаль, Тарас Шаўчэнка не распавёў ні пра змест лекцый С. С. Кутаргі, ні пра яго лектарскае майстэрства. Але да нас дайшлі ўспаміны былога студэнта Пецярбургскага ўніверсітэта, выдатнага рускага географа і грамадскага дзеяча Пятра Сямёнава-Цян-Шанскага, у якіх ён пісаў: “Самым грунтоўным і вучоным з прафесараў Пецярбургскага ўніверсітэта нашага часу на фізіка-матэматычным факультэце быў прафесар і акадэмік Ленц, які выкладаў фізіку і фізічную геаграфію, а самым таленавітым і цікавым — Сцяпан Сямёнавіч Кутарга, які чытаў нам параўнальную анатомію, заалогію і палеанталогію. Выкладанне яго было надзвычай цікавым, аўдыторыя на яго лекцыях была заўсёды поўная студэнтамі. Заалагічны кабінет, дзякуючы яго высілкам, быў па тым часе абсталяваны здавальняюча”.

Мімаволі напрошваецца пытанне: якія акалічнасці прымусілі студэнта Акадэміі мастацтваў Тараса Шаўчэнку слухаць на працягу года лекцыі прафесара С. С. Кутаргі па заалогіі? Вядома, што першая сустрэча Шаўчэнкі са сталічным універсітэтам звязана з імем рускага мастака Карла Брулова. Уладзімір Стасаў, які ў канцы 1850-х гадоў блізка сышоўся з паэтам, успамінаў: “Я з самім Шаўчэнкам не раз гаварыў пра Брулова, і ён… адстойваў яго ўсё больш, як свайго дабрадзея і ў многім — асветніка”. Роля Карла Брулова як “дабрадзея” Шаўчэнкі высветлена падрабязна: менавіта Карл Пятровіч прыняў самы актыўны ўдзел у вызваленні Шаўчэнкі з прыгоннай залежнасці. Што да Брулова-асветніка, тут мы амаль нічога не ведаем.

Па ўласных словах Карла Пятровіча, “любімчыкі-вучні”, а Шаўчэнка быў менавіта такім, праходзілі ў яго своеасаблівы “ўніверсітэт”. Таму для нас з’яўляюцца асабліва каштоўнымі мемуарныя сведчанні равесніка Шаўчэнкі Мікалая Рамазанава, які пісаў пра Брулова: “Нельга забыцца, як гэты мастак, які ўжо здабыў сусветную славу, займаў сціплае месца на лаўцы паміж студэнтамі Пецярбургскага ўніверсітэта”. А гэта значыць, што лекцыі па заалогіі Сцяпана Кутаргі слухаў не толькі Шаўчэнка, але і яго “вялікі настаўнік” Карл Брулоў.

Застаецца адказаць яшчэ на адно пытанне: ці спатрэбіліся Тарасу Шаўчэнку веды, атрыманыя ім на лекцыях прафесара Сцяпана Кутаргі? Вядома, спатрэбіліся. Калі ён быў сасланы ў асобны Арэнбургскі корпус радавым з забаронай пісаць і маляваць, Шаўчэнка ў 1848 — 1849 гадах, амаль праз дзесяць год пасля наведвання лекцый Кутаргі, адпраўляецца разам з Аляксеем Бутаковым і Аляксеем Макшэевым у Аральскую экспедыцыю ў якасці мастака для замалёўвання берагоў і іх фауны. Менавіта гэтыя моманты пракаменціраваны Марыэтай Шагінян у аповесці “Тарас Шаўчэнка”. Але імя С. С. Кутаргі, універсітэцкага прафесара, чые лекцыі маглі толькі садзейнічаць станаўленню дапытлівых адносін Шаўчэнкі да прыроды, чамусьці адсутнічае. А між тым варта толькі звярнуць увагу на сінхроннасць выканання згаданых замалёвак і працы над аповесцю “Мастак”, дзе згаданы ўніверсітэцкі прафесар заалогіі, каб адпрэчыць думку пра выпадковасць гэтай згадкі.

***На здымку: Тарас Шаўчэнка. Аўтапартрэт. 1840 г.***

**Пабачыла свет манаграфія Аляксея Загідуліна “Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.)” (Гродна, ГрДУ, 2010).**

## Пра нацыянальную палітыку — аб’ектыўна

Юэзфа ВОЎК

На падставе ўмоў Рыжскай мірнай дамовы ад 18 сакавіка 1921 года Беларусь была палітычна і культурна раз’яднаная: заходняя яе частка стала тэрыторыяй Другой Рэчы Паспалітай, а ўсходняя склала ССРБ. Беларускі народ аказаўся пад уплывам розных ідэалогій, у цэнтры рэалізацыі рознай нацыянальнай палітыкі, што абумовіла яго разагуленасць на працягу доўгага перыяду. Месцу, значэнню і вырашэнню беларускага пытання ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921 — 1939 гг.) прысвечана манаграфія гродзенскага даследчыка.

У сваім даследаванні Аляксей Загідулін адзначае праблемнасць і складанасць вырашэння нацыянальнага пытання ў Другой Рэчы Паспалітай, бо адносіны мясцовага насельніцтва да новай улады былі пераважна варожыя і недаверлівыя. Ён звяртае ўвагу і на дыскусійнасць паходжання тэрміна “Заходняя Беларусь”, нявызначанасць яе геаграфічных межаў, прыводзіць высновы вучоных на гэты конт, але пакідае пытанне адкрытым. Сам гісторык не ўдакладняе, якую тэрыторыю лічыць Заходняй Беларуссю, што размывае геаграфічныя межы даследавання.

Нацыянальная палітыка Польшчы паказваецца праз аналіз планаў і канцэпцый польскіх палітыкаў па беларускім пытанні, праз ажыццяўленне гэтых планаў, у тым ліку і ў галіне беларускай адукацыі. Навуковец прыходзіць да высновы, што польскія ўлады так і не здолелі выпрацаваць адзінай лагічнай праграмы для рэалізацыі дзяржаўнай асіміляцыі беларусаў, а ў 1930-я гг. сваёй мэтай яны паставілі ўжо нацыянальную асіміляцыю. Адукацыйная палітыка праводзілася згодна з вышэйзгаданай агульнай дзяржаўнай канцэпцыяй, што абумовіла скарачэнне колькасці беларускіх навучальных устаноў.

Канфесійная палітыка польскіх улад раскрываецца праз іх узаемаадносіны з праваслаўнай, каталіцкай і уніяцкай царквой, пратэстанцкімі кірункамі. Даследчык сцвярджае, што праваслаўная царква падвяргалася рэпрэсіям, канфіскацыі маёмасці, рэвендыкацыі. Такія дзеянні былі накіраваныя на прыстасаванне яе да палітычных рэалій дзяржавы, выкараненне русіфікатарскіх тэндэнцый. Адносіны да іншых канфесій вызначаліся ў супрацьстаянні з іх беларусізацыяй, дзе таксама мелі месца прымусовыя метады.

# Ноч музеяў на Случчыне

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Агульнасусветная традыцыя правядзення “ночы музеяў” займела свой працяг. Напрыканцы мая Слуцкі краязнаўчы музей вось ужо трэці год запар запрашае сваіх наведвальнікаў на адпаведную акцыю, якая сёлета мела назву “Свет дзяцінства”.**

Уверцюрай праграмы, якая пачалася а шостай гадзіне вечара ля ўвахода ў музей, стаў невялікі канцэрт. Падчас яго прагучалі дзіцячыя песні ў выкананні юных жыхароў горада. Акрамя таго, для гараджан ладзілі разнастайныя конкурсы. Напрыклад, падчас аднаго з іх тры сям’і павінны былі намаляваць на мальберце карціну, прысвечаную тэме дзяцінства.

Потым у памяшканні музея адбылася прэзентацыя выстаўкі работ рускіх мастакоў XIX — пачатку XX стагоддзя з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея. Яе ўключэнне ў праграму з’яўлялася невыпадковым. Справа ў тым, што падчас першай “ночы музеяў” сярод наведвальнікаў правялі анкетаванне. Яно паказала, што гараджане хацелі б убачыць у Слуцку выстаўку жывапісу. Сярод карцін былі названы творы як знакамітых майстроў — Васіля Трапініна (“Партрэт хлопчыка”), Васіля Пярова (“Гора вандроўнага катрыншчыка”), Івана Крамскога (“Партрэт хлопчыка”, “Дзеці ў лесе”), Уладзіміра Макоўскага (“Ля гарадской сталовай. За дармавым абедам”, “Спатканне”), так і іх менш вядомых калег. Мастацтвазнаўцы нездарма лічаць, што сапраўднае адкрыццё асобы дзіцяці адбылося ў рускай культуры ў першай палове XIX стагоддзя. У выставе, якая будзе працаваць на працягу ўсяго чэрвеня, прадстаўлены творы розных перыядаў: як часоў рамантызму, калі аблічча дзяцей і іх асяроддзе паўставала крыху ідэалізаваным, так і рэалізму, калі на першы план выходзіла натуральнае адлюстраванне іх жыцця (асабліва ў прадстаўнікоў бедных саслоўяў).

А 19-й гадзіне святкаванні плаўна перамясціліся ў Галерэю мастацтва — філіял музея, адкрыты ў 2005 годзе. У галерэі прайшоў майстар-клас Алены Латушкі па вітражнай размалёўцы. А потым сваю выстаўку прэзентаваў мінскі мастак Леанід Гурбо, чый бацька родам са Случчыны. Сярод 33 прац у жывапісе і графіцы адно з найбольш моцных уражанняў пакінула карціна “Званы Хатыні”. Яе прастора заключана ў кола. На ім безліч званоў, якія сімвалізуюць усе спаленыя вёскі. А прастору рассякаюць свaімі крыламі птушкі. Яны ці то ратуюцца ад бяды, ці то спяшаюцца паведаміць людзям вестку пра трагедыю.

Упершыню ў Слуцку быў праведзены аўкцыён твораў мясцовых мастакоў.

Яркім завяршэннем акцыі “Ноч музеяў” стала прэзентацыя альбома “Слуцкая палітра”, які выйшаў у РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Дырэктар музея Наталля Серык, якая выступіла складальнікам кнігі, прадставіла на яе старонках творчасць Людвіга Асецкага, Уладзіміра Басалыгі, Міхася Басалыгі, Ігара Бархаткова, Міхася Блішча, Мікалая Валынца, Уладзіміра Вішнеўскага, Міхася Карпука і іншых мастакоў —усіх без выключэння значных майстроў, чые біяграфія і лёс звязаныя са слуцкай зямлёй.

# З Гомеля — у Чарнігаў і Бранск

Ірына ТУЛУПАВА

**Гэтым годам у Гомельскай абласной бібліятэцы распрацаваны праект “Бібліятэчныя скрыжаванні”, які паспяхова ўдзельнічае ў конкурсе бібліятэчнай асацыяцыі Еўразіі. На прамежкавым этапе ён прызнаны пераможцам (ад Беларусі). Праект прадбачыць развіццё міжкультурных сувязей, у тым ліку — стварэнне куточкаў беларускай літаратуры і культуры, папулярызацыю беларускай літаратуры і культуры ў краінах СНД.**
**Такім чынам адкрываюцца дадатковыя магчымасці для выхаду беларускай кнігі па-за межы нашай краіны. Разам з кнігавыдаўцамі і распаўсюджвальнікамі друку шлях да чытацкай аўдыторыі іншых краін пракладваюць і бібліятэкі.**
**Пра праект развіцця міжкультурных і прафесійных сувязей “Бібліятэчныя скрыжаванні” распавядае яго аўтар, намеснік дырэктара Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. Леніна Юрый Максіменка.**

— Ад праекта мы чакаем, што ён паспрыяе стварэнню карпаратыўных інфармацыйных рэсурсаў, гэтаксама як і развіццю інавацыйных працэсаў у бібліятэках рэгіёнаў, якія стануць удзельнікамі праекта, прафесіяналізацыі кадраў.

**— Як паставіліся да праекта вашы блізкія партнёры — у Бранскай і Чарнігаўскай абласцях?**

— Калегі з Бранска, калі ўбачылі прамежкавыя вынікі конкурсу на сайце БАЕ, адразу ж (што прыемна) даслалі віншаванні і падтрымалі нас сваёй упэўненасцю, што такі праект зможа яшчэ больш умацаваць сяброўскія і прафесійныя сувязі бібліятэк Расіі, Украіны і Беларусі. Але без іх актыўнага ўдзелу гэты праект не будзе рэалізаваны ў той ступені, як мы задумвалі. У 2012 годзе спаўняецца 40 гадоў садружнасці бібліятэк Гомельшчыны, Чарнігаўшчыны і Браншчыны. І мы лічым, што гісторыя нашых узаемадачыненняў знаходзіцца на самым уздыме. Усё лепшае чакае нас наперадзе! Больш таго, збіраемся аднавіць сувязі з нашымі цвярскімі калегамі, умацаваць адносіны з бібліятэкарамі Карэліі, Курска, Арла, Смаленска, Белгарада.

**— Ці магчыма сёння ўзбагачэнне фондаў бібліятэк краін-суседзяў беларускімі выданнямі? Што перашкаджае абмену літаратурай?**

— Ведаеце, калі расійскую літаратуру мы атрымліваем у дастатковай колькасці, то ўкраінскіх выданняў у нас зусім мала. У асноўным гэта перыядычныя выданні (часопісы “Літературний Чернігів” і “Сіверянський літопис”, газета “Десняньска правда”) і метадычныя матэрыялы Чарнігаўскай абласной бібліятэкі. Амаль 40 гадоў бібліятэкары трох сумежных абласцей абменьваюцца не толькі вопытам працы, шукаюць новыя шляхі супрацоўніцтва і вырашэння агульных праблем, але і прадукцыяй мясцовых выдавецтваў, метадычнай літаратурай, базамі даных на электронных носьбітах, бібліяграфічнымі ўказальнікамі, абласнымі газетамі і прафесійнымі выданнямі.



Праект “Бібліятэчныя скрыжаванні” дасць магчымасць стварыць у абласных бібліятэках-партнёрах куточкі беларускай літаратуры, папаўняць іх і тым самым прапагандаваць у блізкім замежжы беларускую літаратуру і культуру. У бліжэйшых планах бібліятэк Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей — падпісанне трохбаковага Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж абласнымі універсальнымі бібліятэкамі памежных тэрыторый Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны; правядзенне сумеснага праекта “Літаратура не мае межаў. Чытаем разам”, што дазволіць чытачам азнаёміцца з сучаснай мастацкай літаратурай славянскіх дзяржаў, абмеркаваць кнігі і больш даведацца пра духоўны свет адно аднаго.

**— Наколькі рэальнай стане магчымасць вяртання вывезеных беларускіх кніжных каштоўнасцей за мяжу?**

— На жаль, гэта вялікая праблема. Цяпер калі вяртанне такіх каштоўнасцей і магчыма, то толькі ў электронным выглядзе.

**— Якія пытанні будзе вырашаць пры выпадку яе стварэння (гэта прадбачыць праграма) асацыяцыя бібліятэк-пабрацімаў?**

— Мэты ў бібліятэк-пабрацімаў будуць такімі ж, як і ў гарадоў-пабрацімаў. Але, у першую чаргу, асацыяцыя будзе спрыяць рашэнню агульных праблем: камплектаванне фондаў, фарміраванне ўнікальных інфармацыйных баз, развіццё агульнакультурных сувязей, падтрымка літаратурнага працэсу ў рэгіёнах.

**— Адзін з пунктаў “Бібліятэчных скрыжаванняў” датычыць дзейнасці беларускіх дыяспар у краінах-удзельніцах праекта, устанаўлення больш цеснага з імі кантакту.**

— Сучасная беларуская літаратура амаль не знаёмая чытачам блізкага (а што ўжо гаварыць пра далёкае) замежжа. І, напэўна, беларускім дыяспарам пакуль складана адно толькі сваімі сіламі прапагандаваць класічную і сучасную беларускую літаратуру. І мы падтрымаем іх, высветліўшы, дзе найперш патрэбна дапамога.

Сёлета, прыкладам, мы перадалі ў агульную бібліятэку беларускай літаратуры імя У. Караткевіча 78 экзэмпляраў кніг беларускіх аўтараў. Камплекты беларускіх кніг будуць паступаць і ў бібліятэкі Расіі і Украіны.

Правядзенне ў Гомелі штогадовага фестывалю “Славянскія літаратурныя дажынкі” (сумесна з Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі) таксама дапаможа лепшаму азнаямленню з літаратурай і культурай славянскіх народаў.

**— У праекце закладзена неабходнасць стварэння мінідрукарні на базе Гомельскай абласной бібліятэкі. Якія выданні плануеце друкаваць? Ці ёсць падобны вопыт у іншых бібліятэках?**

— Стварэнне на базе бібліятэкі рэдакцыйна-выдавецкага цэнтра дасць магчымасць друкаваць творы гомельскіх пісьменнікаў з мэтай іх далейшай папулярызацыі ў Беларусі, Расіі і Украіне.

Такі вопыт, наколькі мне вядома, ёсць у нашых калег з Бранскай абласной навуковай універсальнай бібліятэкі імя Ф. І. Цютчава. Думаю, і нам трэба выходзіць у міжнародную інфармацыйную прастору.

# Зачытаныя кнігі

**Бібліятэкары без ваганняў назавуць найбольш чытаемыя насельніцтвам кнігі, у якую б пару года да іх не звярнуўся. Ёсць асаблівасці чытацкага попыту восенню, свае прыярытэты вызначае зіма. А вось тое, чым цікавяцца наведвальнікі бібліятэк напрыканцы вясны і ў пачатку лета, — у спісах самых “зачытаных” кніг з Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. Леніна.**

### Аддзел беларускай літаратуры:

**1. Гісторыя** Беларусі: у 6 т. / (рэдкалегія: М. Касцюк і інш.). — Мн.: Экаперспектыва, 2000—2007.

**2. Гісторыя** беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4 т. / (навук. рэд. В. А. Каваленка). — Мн.: Беларуская навука. — 1999—2003.

**3. В. А. Мельник.** Основы идеологии Белорусского государства: пособие для студ. вузов / В. А. Мельник. — Мн.: Выш. шк., 2009.

**4. Я.К. Новік.** Гісторыя Беларусі: ад старажыт. часоў — па 2008 г.: вучэб. дапам. для ВНУ / Я. К. Новік, І. Л. Качалаў, Н. Я. Новік; пад рэд. Я. К. Новіка. — Мн.: Выш. шк., 2009.

**5. Современная** Беларусь: энциклопедический справочник: в 3 т. /редкол.: М. В. Мясникович (и др.) — Мн.: Бел. навука, 2006—2007.

**6. Сучасная** беларуская мова: вучэб. дапаможнік /Л. М. Грыгор'ева (і інш.) — Мн.: Вышэйшая школа, 2010.

### Сектар краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі:

**1. Л. В. Алексеев.** Археология и краеведение Беларуси. XVI в. — 30-е годы XX в. / Л. В. Алексеев. — Мн.: Бел. навука. 1996.

**2. Віцебшчына** ў 1941—1944 гг.: Супраціў. Вызваленне. Памяць: матэрыялы рэсп. навук. практ. канф., Віцебск, 18—19 чэрв. 2009 г. / рэдкал.: В. У. Акуневіч (і інш.). — Віцебск: Віцеб. дзярж. ун-т імя П. М. Машэрава. —2009.

**3. Памяць.** Віцебск: гіст.-дакум. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі: у 2 кн. — Мн.: БелЭн, 2002.

**4. Слава** и гордость земли Витебской: биографический справочник / (сост. М. Н. Пригожий; редкол.: М. П. Кузьмич (и др.)). — Витебск: Витеб. обл. тип., 2009.

**5. Статистический** ежегодник Витебской области, 2010 / редкол. С. М. Кулаженко (и др.). — Витебск: Витеб. обл. упр. стат., 2010.

### Аддзел дзіцячай літаратуры:

**1. Артиллерия**: для среднего школьного возраста / худож. А. Аринушкин (и др.). — Смоленск: Русич, 2006.

**2. К. Матюшкина.** Кот да Винчи. Улыбка Анаконды: повесть-сказка / К. Матюшкина; худож. К. Матюшкина. — М.: Астрель; СПб.: Сова, 2010.

**3.В. Ночкин.** Пищевая цепочка: (фантаст. роман) / Виктор Ночкин. — М.: АСТ: Астрель, 2010.

**4. В. Ю. Постников.** Карандаш и Самоделкин в деревне Козявкино: (повесть-сказка) / В. Ю. Постников; худож. Ю. Якунин. — Мн.: Соврем. шк., 2010.

**5. С. Л. Прокофьева.** Маша и Ойка: забав., необыкнов., страш., смеш. ист. для мален. девочек и мальчиков / С. Л. Прокофьева; худож. И. Панков. — М.: Махаон, 2008.

### Абанемент:

**1. Аксенов, В. П.** Таинственная страсть: роман о шестидесятниках / В. Аксенов. — Москва: Семь дней, 2009.

**2. Вишневский, Я.** Бикини: (роман): пер. с пол. / Я. Вишневский. — М.: АСТ: Астрель, 2010.

**3. Леви, М.** Каждый хочет любить: роман: пер. с фр. / М. Леви. — М.: Иностранка, 2009.

**4. Некрасов, А. А.** Жизнь без кризисов. Кризис открывает ваши возможности / Анатолий Некрасов — Москва: АСТ, 2010.

**5. Шлинк, Б.** Чтец: (роман): пер. с нем. / Б. Шлинк. — СПб.: Азбука-классика, 2009.

### Камерцыйны абанемент:

**1. Барбери, М.** Элегантность ёжика: роман: пер. с фр. / М. Барбери. — М.: Иностранка, 2010.

**2. Грэй, Д.** Мужчины с Марса, женщины с Венеры. — Men are from Mars. Women from Venus: (пер. с англ.) / Джон Грэй — Москва: София, 2011.

**3. Ларссон, С.** Девушка с татуировкой дракона: (роман: пер. со шведск.) / С. Ларссон. — Москва — Санкт-Петербург: Эксмо: Домино, 2010.

**4. Рубина, Д.** Синдром Петрушки: роман / Д. Рубина. — М.: Эксмо, 2011.

**5. Улицкая, Л.** Зеленый шатер: роман / Л. Улицкая. — М.: Эксмо, 2011.

## Штрых-код

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

### Што было

**У Гродзенскай** абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Пісьменніца. Грамадскі дзеяч. Жанчына” да 170-годдзя з дня нараджэння сусветна вядомай пісьменніцы Э. Ажэшкі.

**У межах** канферэнцыі была арганізавана экспазіцыя дакументаў з фондаў Гродзенскай бібліятэкі і Падляскай ваяводскай бібліятэкі імя Л. Гурніцкага, прысвечаная жыццю і творчасці пісьменніцы; прайшла дабрачынная акцыя для дзяцей-сірот (узноўленая традыцыя Э. Ажэшкі), сустрэча з пісьменнікамі і паэтамі Гродзеншчыны, літаратурная вечарына паэта з г. Беластока Я. Леанчука; атрымалі ўзнагароды пераможцы конкурсу “Эліза Ажэшка вачыма маладых”.

**У Налібоцкай** сельскай бібліятэцы Навагрудскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы прайшла гістарычная гадзіна “Светачы зямлі беларускай”. Вядучыя Г. Панчанка і Н. Стома расказалі пра жыццёвы шлях Еўфрасінні і зрабілі агляд літаратуры беларускіх аўтараў, прысвечанай вялікай асветніцы. Была наладжана кніжная выстава “Святая заступніца Беларусі”.

**Праваслаўныя** чытанні “Беларускія падзвіжнікі праваслаўнай веры” адбыліся ў філіяле № 1 цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы г. Баранавічы. Сустрэча прысвячалася святым, якія нарадзіліся і здзяйснялі свае духоўныя подзвігі на беларускай зямлі. Гэта Еўфрасіння, ігумення Полацкая; Свяцііцель Кірыла, епіскап Тураўскі; Елісей Лаўрышаўскі; Праведная Сафія, княгіня Слуцкая; пакутнік Афанасій, ігумен Брэсцкі. Мерапрыемства ўвайшло ў цыкл праваслаўных чытанняў “Духоўнасць і кніга”, якія праводзяцца ў бібліятэках Баранавічаў з 2003 года.

### Што ёсць

**Сёння** Рытанская сельская бібліятэка Астравецкага раёна на базе школьнага лагера праводзіць гадзіну роднай мовы “Нам засталася спадчына”. На мерапрыемстве будуць гучаць уласныя вершы дзяцей пра Радзіму і родную мову.

### Што будзе

**11 чэрвеня** Кемелішкаўская сельская бібліятэка Астравецкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы запросіць у завочнае падарожжа па Гродзенскай вобласці “Край мой — гонар мой”. Бібліятэкар раскажа ўдзельнікам пра знакамітых людзей, запаведныя мясціны, помнікі архітэктуры Гродзеншчыны.

**11 чэрвеня** наведвальнікі Славацідкай сельскай бібліятэкі Зэльвенскага раёна адправяцца ў літаратурнае падарожжа “Уладар чароўнага ключыка” (да 100-годдзя з дня нараджэння В. Віткі), якое рыхтуецца ўдзельнікамі аматарскага аб'яднання “Буслік”. Дзеці пазнаёмяцца з казачным светам дзіцячага пісьменніка.

**14 чэрвеня** ў гарадской дзіцячай бібліятэцы (філіял № 3) Баранавічаў адбудзецца гульня “Нядобрыя звычкі”. Яна пройдзе ў межах традыцыйнага конкурсу “Лета і кніга”. Сёлета ён мае назву **«Летнія чытанні “Сонца на кніжнай старонцы”»**.

**17 чэрвеня** ў бібліятэцы — цэнтры нацыянальнай культуры пас. Юбілейны адбудзецца літаратурнае чытанне “Дар душэўнай дабрыні” (па творах В. Гардзея). Удзельнікі прышкольнага лагера пазнаёмяцца з жыццёвым і творчым шляхам пісьменніка, у выкананні дзяцей прагучаць урыўкі з яго твораў.

**17 чэрвеня** супрацоўнікі Смаргонскай бібліятэкі запросяць гасцей на гадзіну мастацтва“Колькі ў небе зорак”, прысвечаную жыццю і творчасці вядомага земляка Аляксандра Шыдлоўскага. Да мерапрыемства будзе падрыхтавана аднаймённая электронная прэзентацыя.

**19 чэрвеня** ў Плоскінскай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна адбудзецца выстаўка-агляд “Кнігі, якія трэба прачытаць і перачытаць” (да 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны).

**26 чэрвеня** ў Любчанскай гарпасялковай бібліятэцы Навагрудскага раёна пройдзе свята беларускай мовы “Жывая спадчына”. На яго будуць запрошаны бацькі дзяцей. Вядучыя, апранутыя ў нацыянальныя касцюмы, заглянуць у далёкае мінулае і прасочаць шляхі станаўлення беларускай мовы. У выкананні дзяцей прагучаць вершы і песні, прысвечаныя роднай мове. Бацькі паўдзельнічаюць у гульні “Чароўны куфэрак”. Ім трэба будзе назваць па-беларуску кожны прадмет з куфэрка.

Прэміі

# Віншаванні ад прафсаюза



**Таццяна МАСТОЎСКАЯ,**
**фота Кастуся Дробава**

Лаўрэатамі прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года сталі 11 дзеячаў літаратуры і мастацтва. Так, за актыўную работу па развіцці народнага і аматарскага мастацтва сярод працаўнікоў, за высокія дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці, а таксама за поспехі ў галіне журналістыкі ўзнагароджаны: кампазітар Алег Елісеенкаў, рэжысёр Валерый Анісенка, акцёры Ігар Сігаў і Людміла Сідаркевіч, мастак Сямён Дамарад, мастак-пастаноўшчык Марына Шуста, пісьменнік Васіль Ткачоў, журналісты Барыс Крэпак і Рыгор Мацюшнікаў, а таксама народны хор ветэранаў працы "Славянскі сувенір" і дырэктар "Культсэрвіса" Мінскага трактарнага завода Уладзімір Кірута.

З прызнаннем заслуг і ганаровай прэміяй лаўрэатаў павіншаваў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леанід Козік:

— З задавальненнем віншую лаўрэатаў 2011 года. Гэта розныя людзі, розныя напрамкі, але ўсіх іх аб'ядноўвае адно: яны жывуць і працуюць ва славу нашай вялікай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь. Гэта і ёсць сапраўдная любоў да дзяржавы і радзімы — рабіць так, каб пра цябе гаварылі з павагай, гордасцю і радаваліся тваім поспехам. Я віншую лаўрэатаў з прэміяй і хачу проста сказаць: вялікі вам дзякуй за вашу працу, вашы поспехі і дасягненні — за ўсё, што вы зрабілі.

У гэты ж дзень на святочную сцэну выходзілі не толькі дзеячы культуры і мастацтва — заслужаныя ўзнагароды атрымалі і прадстаўнікі іншых сфер. Прэміі былі ўручаны за дасягненні ў галіне прамысловасці і будаўніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, бытавога абслугоўвання, гандлю, а таксама ў сацыяльнай сферы.

Прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі па традыцыі ўручаюцца раз у два гады пачынаючы з 1989 года. Дванаццаты раз лаўрэаты названы ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці і сёмы — у галіне працы.

Яшчэ адным падарункам для ўдзельнікаў урачыстасці стаў невялікі канцэрт, падрыхтаваны лаўрэатамі 2011 года, а таксама іх сябрамі і калегамі, сярод якіх, магчыма, і лаўрэаты будучыя.

***На здымку: старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леанід Козік віншуе аўтарскі калектыў спектакля "Каласы пад сярпом тваім" Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.***

Зваротная сувязь

# Абавязкі перад сябрам



— Алена Ігараўна ў сваіх развагах займае абсалютна бяспройгрышную пазіцыю, бо дбае пра ўшанаванне памяці дзядулі, чалавека без усялякіх перабольшванняў вялікага.

Так склалася, што мы, беларусы, — вельмі багатая на таленты нацыя, таму і не дбаем пра сваіх значных пісьменнікаў: Шамякіна, Макаёнака, Куляшова. А гэта ж гіганты нашай літаратуры. Да ліку гігантаў можна смела далучыць і Кандрата Крапіву, бо ў любым родзе літаратурнай творчасці ён быў паспяховы.

**20 мая ў "ЛіМе" (№ 20) была апублікавана гутарка нашага карэспандэнта з Аленай Атраховіч, унучкай беларускага пісьменніка, мовазнаўцы Кандрата Крапівы. У інтэрв'ю Алена Ігараўна разважала пра магчымасць стварэння ў Мінску музея Кандрата Крапівы. Ідэю ўнучкі Кандрата Кандратавіча ў гэтай жа публікацыі падтрымаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Але аказалася, лёс будучага музея хвалюе не толькі сваякоў і пісьменнікаў, але і навукоўцаў. Так, на публікацыю адгукнуўся даследчык творчасці Кандрата Крапівы, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук прафесар Сцяпан Лаўшук:**

У яго выдатная лірыка, нашу байку ён узняў на сусветны ўзровень. Адметная і творчая манера Кандрата Кандратавіча ў драматургіі. Не магу сцвярджаць, што ўсе крапівоўскія п'есы — класіка, аднак нават самая першая з іх, "Канец дружбы", і сёння гучыць актуальна. Я ўжо не кажу пра п'есы "Хто смяецца апошнім", "Мілы чалавек", "Брама неўміручасці"… І проза Крапівы выдатная, а яе мы практычна не ведаем.

Варта нам сёння думаць пра ўшанаванне памяці класіка не толькі шляхам выдання збору твораў, але і шляхам стварэння музея пісьменніка. Магу адзначыць, што аўтэнтычных (а гэта важна) рэчаў класіка можна назбіраць на любую экспазіцыю. У сваіх разважаннях Алена Ігараўна схіляецца да таго, каб музей Кандрата Крапівы размясціць у Мінску, што ў наш час вельмі складана. Але гэта не значыць, што мы павінны апусціць рукі. Як варыянт адразу паўстае музей-кватэра. Па такім шляху пайшлі стваральнікі музея Петруся Броўкі. Але ў выпадку з Крапівой мы наўрад ці здолеем такое зрабіць. Яшчэ адна магчымасць — пашырэнне плошчаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры з мэтай вылучэння асобных экспазіцый творцаў. У ліку іх магла б быць і экспазіцыя Кандрата Кандратавіча. Як варыянт — стварэнне тэматычнай экспазіцыі, да прыкладу, прысвечанай беларускай байцы, дзе Кандрату Крапіве, натуральна, было б адведзена значнае месца. Але самым разумным выйсцем мне падаецца адкрыццё музея на радзіме пісьменніка — ва Уздзе — з захаваннем мемарыяльнага пакоя ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне, дзе і нарадзіўся класік. Гэта можа быць музей, прысвечаны слаўным выхадцам з гэтай зямлі, а іх тут шмат: Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Алесь Махнач, Лідзія Арабей… Ён можа набыць статус і экспазіцыйнай, і даследчай установы, можа быць уключаны ва ўсе турыстычныя схемы. Гэта цалкам рэальна.

Работу па стварэнні музея Кандрата Крапівы варта пачынаць ужо цяпер — з арганізацыі рабочай групы. Можна пакуль на грамадскіх пачатках. Я сябраваў з Кандратам Кандратавічам (гэта ён сам так казаў), хоць і розніца ва ўзросце ў нас была каля пяцідзесяці год. І таму маю вялікія абавязкі перад сябрам, з радасцю ўвайду ў рабочую групу і буду рабіць усё, што ад мяне залежыць, каб ушанаваць імя гэтага гіганта беларускай літаратуры.

Штрыхі жыцця

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,**
**фота Зіновія Прыгодзіча**

# Адчуўшы цяпло стагоддзяў

**Дарога на Полацк адкрывалася нам насустрач яркай зелянінай дрэў паабапал шашы, лагойскімі ўзгоркамі і докшыцкімі раўнінамі, ушацкімі азёрамі, што, як сподачкі, разлегліся сярод буяння духмяных лугоў. Для нас з Алесем Савіцкім гэта быў даўно знаёмы шлях да родных мясцін, а для нашага сябра Зіновія Прыгодзіча — падарожжа ў першую гістарычную сталіцу, радзіму святой Еўфрасінні...**

Мы ехалі на святкаванне 1149-й гадавіны самага старажытнага горада Беларусі, і хоць дата не юбілейная, свята чакалася радаснае і ўрачыстае. І як не запрасіць на яго ветэрана, ганаровага грамадзяніна горада Алеся Савіцкага, які яшчэ амаль падлеткам у полацкіх лясах змагаўся з чужынцамі, што разам са свастыкай хацелі прынесці ў горад новы парадак, сваё нялюдскае панаванне!.. Толькі што выйшаў пяты нумар часопіса "Беларуская думка", на старонках якога мы з Алесем Ануфрыевічам разважалі пра тыя суровыя выпрабаванні, якія выпалі на долю полацкага юнака, пра трывалыя гаючыя сокі роднай зямлі, пра вечныя хвалі магутнай Дзвіны і вірлівай Палаты, якія шмат бачылі на сваім вяку... Нумар часопіса мы ўзялі з сабой, каб падарыць Ушацкаму музею народнай славы, дзе захоўваюцца многія кнігі ўдзельніка легендарнага Прарыву.

Але яшчэ адна мэта была ў нашай вандроўкі: хацелася пабываць ля родных котлішчаў, дакрануцца да цеплыні Барысавага каменя, што стаіць на стромым беразе Дзвіны ля самага Сафійскага сабора. Як сказаў Алесь Ануфрыевіч, у год майго нараджэння выйшаў з друку яго першы мастацкі твор, але што тая розніца ў гадах у параўнанні з высокімі вежамі Сафійкі, з велічным Валам Івана Грознага, Чырвоным мостам, купаламі храмаў Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра!..



Менавіта там, за Валам, па сцежцы ад Чырвонага моста, стаіць хата, якая памятае маленькага Алеся. Дзякуй Богу, яна захавалася разам са сціплай брамай, веснічкамі. Але побач узнік палац нейкага "новага беларуса" — такі нечакана пышны сярод сціплых полацкіх забудоў.

Іншыя людзі жывуць і ў хаце былога "Пітомніка", дзе я нарадзіўся. Але наша суседка Вера Ягораўна пазнала мяне і падзялілася ўспамінамі пра маю маму, жанчыну, як сказала яна, "пранзіцельнага ума".

Успаміны з намі на святочных полацкіх вуліцах, у радасных сустрэчах з землякамі, у ціхай вёсачцы Зыкова, дзе нас гасцінна прымаў мой швагра Васіль. Вёска гэтая ўсяго за сем кіламетраў ад Вароніч — вялікага старадаўняга паселішча, дзе ў гады вайны стаяў фашысцкі гарнізон і адкуль прыйшоў ваяваць у партызанскі атрад "Бальшавік" Іван Стрыкель — баявы сябра і паплечнік Алеся Савіцкага. Пасля вайны Іван Іванавіч працаваў дырэктарам Вароніцкай сярэдняй школы, штолета да яго з Мінска прыязджаў пагасціць Алесь Ануфрыевіч.

Так вось і ў гэтай празрыстай вясковай цішыні, ля прыгожага возера Саламір'е, пад ярасны разліў салаўіных трэляў не адпускалі ветэрана ўспаміны пра сяброў баявога юнацтва, пра гады выпрабаванняў, калі так хацелася жыць і верыць у шчаслівы лёс сваёй зямлі.

І быў яшчэ комплекс "Прарыў", куды мы заехалі пакланіцца светлай памяці тысяч народных мсціўцаў, якія палеглі каля ўшацкай вёскі Матырына, прарываючы варожую блакаду.

Ва Ушачах, у музейнай цішыні, мы пакінулі запіс у кнізе наведвальнікаў, часопіс з нашай гутаркай, кнігу "Полацк — бацька гарадоў беларускіх", якая выйшла ў мінулым годзе ў выдавецтве "Пачатковая школа".

Крыху сумна было ад таго, што ў выхадны дзень у музеі няма ніводнага наведвальніка, што пуста і адзінока было ля велічнага мемарыяльнага комплексу "Прарыў"…

"Адчуць цяпло стагоддзяў" — так называецца гутарка з пісьменнікам у "Беларускай думцы". Своеасаблівым працягам яе і стала падарожжа па нашых родных мясцінах.

***На здымку: Алесь Савіцкі і Навум Гальпяровіч у Полацку.***

**Музей гісторыі горада Гомеля — установа маладая. Ён быў адкрыты на пачатку 2009 года ў сувязі з правядзеннем у Беларусі Года роднай зямлі. Экспанаты для яго збіраліся некалькі гадоў. Адметна, што сярод іх шмат такіх, якія падарылі жыхары горада. Месціцца музей у так званым “паляўнічым дамку”, які належаў вядомым рускім графам Румянцавым і Паскевічам.**

# Бязмежнасць фантазіі



**Вера ІЛЬЯНКОВА, навуковы супрацоўнік Музея гісторыі горада Гомеля, фота аўтара**

Музей заснаваны як навукова-асветніцкі цэнтр, які здзяйсняе пошук, сістэматызацыю, навуковую апрацоўку інфармацыі і матэрыялаў па гісторыі горада Гомеля і яе далейшую прэзентацыю шырокаму колу насельніцтва. Акрамя таго, тут цікавяцца, зноў-такі, не толькі гісторыяй, але і сучасным культурным і творчым жыццём, дзейнасцю сваіх землякоў.

Нядаўна ў музеі адбылося адкрыццё выстаўкі пад назвай “Я люблю цябе, Радзіма!” разьбяра па дрэве Барыса Васількова. У экспазіцыі — больш як пяцьдзясят разьбярных скульптур аўтара. Выстаўка сціплая па маштабе і хутчэй уяўляе невялікі зрэз творчасці мастака, але яна напоўненая цеплынёй і дабрынёй рук майстра.

А цяпер некалькі слоў пра аўтара. Барыс Міхайлавіч нарадзіўся ў 1929 годзе ў горадзе Гомелі. Выхоўваўся ў дзіцячым доме, які ў гады вайны быў эвакуіраваны ў Казахстан. У дванаццацігадовым узросце ў Барыса выявіліся здольнасці да разьбярства, і ён пачаў асвойваць традыцыі апрацоўкі дрэва. У 1945-м скончыў школу фабрычна-заводскаганавучання і быў накіраваны на працу ў Тэміртау. Пасля вайсковай службы ў 1952 годзе вярнуўся ў Гомель, дзе паступіў на працу на станкабудаўнічы завод імя С.М. Кірава.

У 1967 годзе работы Барыса Міхайлавіча ўпершыню былі прадстаўлены на абласной выстаўцы. З тых часоў ён неаднаразова браў удзел ва ўсесаюзных, рэспубліканскіх, абласных выстаўках народнай творчасці. Творы Барыса Васількова экспанаваліся ў Чэхаславакіі і іншых краінах. Яго работы захоўваюцца ў музеях Беларусі, Літвы, у прыватных калекцыях. Ён быў узнагароджаны знакам “За дасягненні ў самадзейным мастацтве”, медалём лаўрэата ІІ Усесаюзнага фестывалю і іншымі шматлікімі медалямі. На працягу пяці гадоў Барыс Міхайлавіч кіраваў гуртком разьбярства па дрэ-





ве ў СШ № 24, дзе перадаваў сваё ўменне дзецям.

Барыс Васількоў стварыў прадстаўленне на выстаўцы скульптуры ў 1960—2011 гадах матэрыял — ліпа, хвоя, бяроза, капа бяроза і елка. Кожная з іх дбайна распрацавана і мае свае ўласныя рысы, якія адрозніваюць іх ад работ іншых аўтараў. Ёсць нават нейкія дэталі, якія не заўважныя на першы погляд, але разгледзеўшы якія наведвальнік музея ўбачыць штосьці жывое і эмацыйнае. Што датычыць сюжэтаў твораў, то тут трэба падкрэсліць жаданне аўтара ахапіць як мага больш пласт тэм. У сваіх скульптурах і на сваіх пано ён адлюстроўвае, выказвае глыбокую пашану да традыцый, цікавасць да гісторыі, да беларускіх і рускіх народных казак, да савецкіх мультфільмаў, да роднай прыроды. У многіх з іх увасобіліся ўспаміны пра ваенные дзяцінства (“Пісьмо на фронт”, “Дзеці вайны”). І ўсё гэта зроблена дзякуючы бязмежнай фантазіі майстра. Гэта відаць і ў скульптурах, і ў работах прыкладнога характару: у дэкаратыўным посудзе, скрыначках, падсвечніках і чарнільным наборы.

У цэлым, творы Барыса Міхайлавіча шчырыя і адкрытыя, наіўныя і светлыя, яны выкананыя ў казачнагумарыстычным ключы, які адгукнецца ў сэрцы кожнага наведвальніка музея ўсмешкай.

***На здымках: Барыс Васількоў і яго работы.***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай “Дзівасвет”.**

## З глыбінкі

### «Веснавы карагод» у Пашуках

Міжнародны фестываль самадзейных артыстаў ладзіўся грамадскім аб’яднаннем аматараў мастацтва рэгіёнаў Белавежскай пушчы “Брэстчына-тур” у вёсцы Пашукі Камянецкага раёна. Сустрэча адбывалася на пляцоўцы перад вясковым праваслаўным храмам. Цудоўна выступілі ў гасцях здольныя зямлячкі з Лобчы. Вядомы байкапісец Настасся Якавец чытала свае вясёлыя творы, а спявалі з ёю разам сяброўкі па захапленні — Вера Калешка, Таццяна Юрко і Вольга Якавец. Пазнаёміліся прысутныя і з самабытнай творчасцю аматараў фальклору з іншых мясцін — ансамбля “Орліца” з в. Навіцкавічы, якія прадстаўлялі гаспадароў свята, вакальнага трыа сясцёр Лук’яновіч з в. Лясніki Драгічынскага раёна, калектыву дударскай музыкі “Ветах” з Мінска.

— Найбольш радаваліся сустрэчы з ансамблем “Жэмэрва” паселішча Студзіводы Бельска-Падляскага ваяводства, — расказвае Настасся Якавец. — Сёлета зноў захапіліся спевамі і танцамі маладзёжнай групы замежнага фальклорнага гурта, які па-свойму выконвае беларускія творы, здзіўляючы нават убранем — вяночкамі з бруснічніку.

“Веснавы карагод…” з песнямі прайшоў па вёсцы Пашукі, размешчанай на ўскрайку Белавежжа. Арганізатары фэсту адзначалі, што вялікая колькасць удзельнікаў і гасцей фестывалю пераконвае ў жыццяздольнасці глыбінкі.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ, г. Лунінец**

### На сустрэчу з «Маладосцю»

Галоўны рэдактар часопіса “Маладосць” паэтка Таццяна Сівец, падтрымліваючы традыцыі выдання, сустрэлася з чытачамі і супрацоўнікамі Радашковіцкай гарпасялковай бібліятэкі. Імпрэза атрымала назву “Паэзіі радок чароўны”. Школьнікаў цікавіла найперш, як патрапіць на старонкі часопіса, а бібліятэкараў і настаўнікаў хвалявалі праблемы сучаснага літаратурнага жыцця. Дарэчы, Ала Краўцова — загадчыца бібліятэкі — адзначыла, што на сустрэчы з літаратарамі “заўсёды збіраюцца людзі, бо чытаць у пасёлку любяць”. Не так даўно ў гасцях былі Васіль Жуковіч і Леанід Левановіч, а ў свой час — Віктар Шніп, Алесь Пісьмянкоў ды іншыя.

Па словах супрацоўнікаў бібліятэкі, найбольшым попытам карыстаецца сярод наведвальнікаў менавіта сучасная літаратура, да прыкладу, кнігі Генрыха Далідовіча, Навума Гальпяровіча. Бібліятэка атрымлівае і “ЛіМ”, і “Маладосць”, і “Полымя”, і “Нёман”. Дарэчы, менавіта старонкі публіцыстыкі, як прызналася Ала Іванаўна, знаходзяць самы шырокі водгук у чытачоў: “Некаторыя сочаць за кожным нумарам, спецыяльна прыходзяць. Асабліва ж радуюць згадкі пра нашыя мясціны”.

Сюрпрызам не толькі для госці, але і для многіх прысутных стала выступленне цікавай радашковіцкай паэтэсы Галіны Харытоненкі, якая прачытала вершы, поўныя шчырай любасці да сваёй зямлі і родных людзей. Таццяна Сівец не толькі распавяла пра змены, якія чакаюць чытачоў “Маладосці”, але і шчыра адказала на пытанні пра тое, што сёння можна пачытаць. А маладая супрацоўніца бібліятэкі Юлія Губіч перадала “Маладосці” свае творы.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ, г.п. Радашковічы**

## Афарызм

*Вечна тваім застаецца*
*Толькі тое, што ты аддаў.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 3015
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 09.06.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2721
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12